БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

*Квартальнік*
*Беларускага згуртавання татараў-мусульман*

## "АЛЬ-КІТАБ"

## № 1

Менск 1995

*БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ*

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
«АЛЬ-КІТАБ»

## № 1

Менск 1995

***Рэдактарская група:***

І.Александровіч, Я.Гучок,
І.Канапацкі, В.Садыкава,
Г.Фатыхава

Рэдакцыя "Байрама" выказвае шчырую падзяку сям`і ***Кіпеляў (ЗША)*** за сродкі, якія яна ахвяравала на выданне нашага квартальніка.

***Надрукавана ў Навагрудку***

Ассаляму алейкум, спадарыні і спадары, супляменнікі-татары, усе мусульмане!

1995 год вызначаецца тым, што святкуецца 50-годдзе перамогі чалавецтва над германскім фашызмам. Чалавеканенавісніцкая тэорыя, якой кіраваліся фашысты, прадугледжвала поўнае знішчэнне многіх народаў па расавых і іншых прыкметах. Германская раса была абвешчана пануючай, а астатнім адводзілася роля рабоў. Бесчалавечная практыка пачала сваю пякельную работу. Пасля яўрэяў, цыганоў фашысты меркавалі вынішчыць татараў, славян і іншых людзей. Без перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне не было б і нас сёння. Шмат старонак нашага "Байрама" вылучана для расказа пра тое, хто і як змагаўся з ненавісным ворагам, якой цаной была аплачана смяротная схватка.

Вядома, што ўсё благое ідзе ад нячыстай сілы - шайтана. Але з нечысцю можна і трэба змагацца. 80 гадоў таму было зроблена злачынства, якому чалавецтва не дало належнай ацэнкі - гэта забойства амаль 2 мільёнаў армян - цывільнага насельніцтва - жанчын, дзяцей, старых, усіх, хто трапіў у рукі туркаў. Цяпер унукі і праўнукі тых, хто ў 1915 г. даў загад забіваць армян, што выконваў гэты бесчалавечны загад, усімі сродкамі, з дапамогай самай сучаснай зброі знішчэння чалавека, забіваюць курдаў, якія жывуць на сваіх спрадвечных землях, але захопленых Турцыяй, Іракам і Іранам. Курды моляцца Аллагу, але сілы зла яшчэ працягваюць сваю чорную справу. Каб чалавецтва ў час армянскай бойні выступіла супроць генацыду, то можа не было б фашызму з усімі яго зверствамі, не было б зверстваў у час Грамадзянскай вайны ў Расіі, не было б ГУЛАГаў. Але чалавек напэўна не ведае, што тады было б. На тэрыторыі былой Югаславіі ідзе нікому непатрэбная вайна, гінуць і мусульмане і хрысціяне. Вялізныя сілы Расійскай Федэрацыі, самая дасканалая тэхніка і сувязь служаць для метадычнага вынішчэння гарадоў і сёл Чэчні. Часам толькі журналісты спрачаюцца пра тое, колькі мірных жыхароў загінула ў тым ці іншым сяле: 100 ці 300, а што там загінулі людзі, якія з'яўляюцца жывымі істотамі, маюць бацькоў і дзяцей, для якіх гора ніколі не забудзецца, дык гэта ўжо не такі і вя-

кі кошт ва ўмовах рыначнай эканомікі, дзе ўсё купляецца і прадаецца, асабліва зброя (вядомы шматлікія выпадкі, калі расейскія вайскоўцы прадавалі сваім працiўнікам зброю, але грошы не пахнуць, нават калі пахне порахам і крывёй). У Таджыкістане ідзе вайна, дзе змагаюцца староннікі і працiўнікі тых, хто правіў краінай і 20 і 10 гадоў таму. Урадавыя войскі Таджыкістана падтрымлівае расейская армія. Часам можна пачуць, што каб не расейская армія, то ў Таджыкістане вайна скончылася б. Толькі, відаць, не так усё проста. З Афганістана даўно выведзены савецкія войскі, а вайна ідзе. І адны і другія ў Афганістане кажуць "Аллаг Акбар", але тысячы ахвяр гіне, пакутваюць цывільныя людзі.

У беларусаў ёсць такая прымаўка: "Хоць і збіраешся паміраць, але жыта сей". Трэба жыць і трэба памятаць, што веснавы дзень цэлы год корміць. Калі не ўсе татары маюць агарод, то ўсё ж з агароду жывуць. І праблема цяпер у тым, каб забяспечыць ураджай угнаеннем. Штучнае ўгнаенне надзвычай дорага, плёнка ідзе па цане, калі раней шоўк быў больш даступны для татарскай сям'і, чым гэта элементарная хімія, ну а гной, то яго ўжо трэба пісаць, відаць, з вялікай літары, як некалі пісалі розум, гонар і сумленне нашай эпохі.

Трэба думаць, што цяжкасці для чалавека ствараюцца толькі для таго, каб загартаваць яго ў барацьбе. І цяпер ужо без усякага гумару кажуць, што мы самі ствараем цяжкасці, каб пасля з імі змагацца. І чым больш будзе ахвяр у змаганні, тым больш слаўная нас чакае перамога. Толькі можа за надта вялікія цяжкасці мы сабе ствараем. На прадстаячых выбарах у Вярхоўны Савет мы выбярэм сабе дэпутата, калі ўдасца прачытаць яго ці яе імя ў бюлетэні. Жадаем усім нашым чытачам абраць таго, з кім прыдзецца жыць калі не на ўсё жыццё, але "надоўга і ўсур'ёз".

Дзесяты месяц шаўваль 1415 г. Хіджры (сакавік 1995 г.), які наступіў пасля свяшчэннага Рамадана, стаў для татараў-мусульман Беларусі шчаслівым: утварыліся і афіцыйна зарэгістраваны новыя абшчыны ў Магілёве, Уздзе, Докшыцах, Ашмянах і Скідзелі. Цяпер у нас на Беларусі 20 мусульманскіх абшчын.

Мір Вам і міласць Аллага Усявышняга!

Рэдакцыя квартальніка "Байрам"

Пішыце нам на адрас: 220086, г.Менск, вул.Славінскага, д. 21, кв. 8. Якубоўскаму Якубу.

## ТАК ДУМАЕМ МЫ, БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

Размовы пра тое, што пытанне аб двухмоўі ў нашай рэспубліцы будзе пастаўлена аб рэферэндуме, здавалася нам неверагодным. Думалася, што некаму неразумнаму ўзбрыло ў галаву выйсці з прапановай, але ніхто з ёй не пагодзіцца. На вялікі жаль, пагадзіліся дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі.

Мы, беларускія татары, жывём на Беларусі ўжо амаль 600 гадоў і больш чым 500 гадоў карыстаемся беларускай мовай як роднай. Нашы рукапісныя кнігі – Аль-Кітабы захавалі беларускую мову 15–16 стагоддзяў. І не збіраемся адмаўляцца ад беларускай мовы, хоць кожны татарын разумее іншыя славянскія мовы. Калі б бацькам прапанавалі памяняць сваіх родных дзяцей на іншых, прыгажэйшых, дужэйшых і разумнейшых, нават са знакам якасці на адпаведных месцах, то хіба толькі вар'яты згадзіліся б на гэта. А ці згодзіцца хто-небудзь памяняць сваіх бацькоў на іншых? А ці ведаеце вы, як адносіліся да тых, хто мяняў сваю веру на іншую? Можа і заманьвалі ў сваю веру, але выхрыстаў ніхто не любіў і не паважаў.

З 12 тысяч татар, якія жывуць на Беларусі, у час перапісу 1989 г. большасць сцвердзілі, што мова родная ў іх беларуская, каля 2 тыс. чалавек запісалі сабе родную мову татарскую, бо гэта татары з Паволжа, якія прыехалі на Беларусь пасля вайны і гэта зусім зразумела.

Мы спадзяемся, што на рэферэндуме беларускія татары, як старажылы, так і пазнейшыя пасяленцы, выкажуцца за беларускую дзяржаўную мову без агаворак, бо далікатнасць, павага і шчырасць да народа, сярод якога мы жывём, на зямлі, дзе нарадзіліся нашы дзеці, дзе вечным сном спачываюць нашы продкі не даруюць нам здраду сваёй Бацькаўшчыне.

Ісмаіл Александровіч
Айша Александровіч
Ібрагім Канапацкі
Аўгіння Пашкевіч
Алія Усманава
Якуб Якубоўскі

## ВОЛЯЛЮБНАЯ ЧАЧНЯ - ЗНАК ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Трагічная драма Чачні, што разыгрываецца цяпер перад вачыма цэлага сьвету, паказала ня толькі імпэрскую агрэсыўнасьць крамлёўскіх палітыкаў і безагляднаю жорсткасьць расейскае ваеншчыны, але й духовую моц чачэнскага народу, ягоную ўсеагульную нязломнасьць у абароне свае незалежнасьці. Агрэсыўная няўклюднасьць маскоўскіх дыпляматаў і гэнэралаў у дачыненьні да волялюбнае Чачні, хлусьня, якою расейскі ўрад і армія суправаджаюць свае ваенныя дзеяньні, паказалі, што бальшавізм яшчэ трывала сядзіць за сьценамі Крамля. Пагроза адтуль разыходзіцца ўва ўсе бакі, ня мінаючы і Беларусі.

Сымбалічна, што на сьцягу незалежнай Чачні праз усю даўжыню зялёнай палатніны праходзіць бел-чырвона-белая паласа. Але ня толькі ў гэтым падабенства паміж геаграфічна аддаленымі народамі Чачні і Беларусі. Лучыць іх і змаганьне за тыя самыя ідэалы нацыянальнай свабоды, за права быць гаспадаром на сваёй зямлі. Чачэнцы сталі ўсе як адзін на абарону гэтага права, і нельга не захапляцца аднадушнасьцяй іхнае абароны.

У гэты лёсавызначальны для чачэнскага народу мамэнт варта прыгадаць гістарычную салідарнасьць беларусаў з чачэнскім вызвольным рухам. У гадох, калі над народамі былога Савецкага Саюзу панаваў камуністычны таталітарызм, Рада Беларускае Народнае Рэспублікі, асабліва ў асобе ейнага Старшыні (1943-1970 гг.) Міколы Абрамчыка, цесна супрацоўнічала з прадстаўнікамі народаў Паўночнага Каўказу, у тым ліку чачэнскага народу, у г. зв. Парыжскім Блёку ды ў іншых міжнародных арганізацыях.

Сёньня, калі чачэнцы сталі на абарону свае незалежнасьці, беларусы як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў замежжы салідарызуюцца з вызвольным змаганьнем Чачні. Газэта "Свабода", прыкладам, падала: "Апытаныя на менскіх вуліцах у сувязі з чачэнскімі падзеямі людзі гаварылі, што з Расеяй трэба быць пільнымі, а некаторыя выказалі гатоўнасьць пры патрэбе бараніць незалежнасьць са зброяй у руках".

Пакуль да зброі, трэба паглыбляць у нашым народзе нацыянальную сьведамасьць, умацоўваць дзяржаўную незалежнасьць, пашыраць міжнародныя кантакты. Гледзячы на прыклад змаганьня Чачні за сваю волю, нельга не падкрэсьліць факту, што праявы

таго самага агрэсыўнага вялікадзяржаўніцкага мэнталітэту пачалі з абноўленай сілай даваць сябе адчуць апошнім часам на Беларусі. Забарона друку, белыя плямы газэт, гвалт амонаўцаў над мірнымі дэманстрантамі, судовыя пагрозы журналістам і літаратарам з боку чыноўніцкае знаці - усё гэта сымптомы сындрому набытага промаскоўскага нахабства. У сувязі з тым, што адбываецца у Чачні, дзе збройнае змаганьне у выглядзе партызанскай вайны пагражае быць зацяжным і можа пацягнуць за сабой далейшую ваенізацыю расейскага рэжыму з усімі пасьлядкамі гэтага, рацыя беларускага нацыянальнага быту дыктуе сёньня ўзмоцненую арыентацыю на Захад, скіраваную на інтэграцыю Беларусі у эўрапейскія палітычныя і абаронныя сыстэмы.

"Беларус", студзень 1995 г.

Васіль Быкаў

## ГОРКІ СМАК ПЕРАМОГІ

Здаецца, гэты юбілей будзе развітальны з нашай перамогай у самай вялікай і крывавай вайне з самым дужым і жорсткім ворагам. Вядома, гісторыя на тым не канчаецца, былі і будуць новыя войны - лакальныя і не толькі, - новыя пакаленні спазнаюцца з жахам крыві і, можа, адчуюць салодкі смак перамогі. Але наўрад ці яшчэ каму давядзецца перажыць тое у маштабах, перажытых намі. Ва умовах, дарэчы, самых неспрыяльных ні для вайны, ні для перамогі. Разам з усім чалавецтвам падняўшыся супраць сусветнага зла, мы не ўсведамлялі тады, што сваёй крывёю мацуем іншае зло, з якім гэтак з'ядналіся, што у шмат якіх выпадках пераставалі яго адчуваць. Мы меркавалі, што вызваляем еўрапейскія народы ад фашызму, не падумаўшы, што нясём ім новае заняволенне, калі не болей жорсткае, дык напэўна болей працяглае. Мы бачылі перад сабой бліжнюю мэту; пра дальнюю на вайне не задумваліся. Тым болей такую невыразную, як пасляваеннае уладкаванне свету.

Безумоўна, мы любілі радзіму і не шкадавалі жыцця для яе свабоды. Але Сталін, мабыць, з уласнага вопыту ведаў, што, як у мірным жыцці, так і на вайне, прымус - куды болей эфектыўны сродак, чым прапагандовы савецкі патрыятызм. Самы жорсткі і

бязглузды загад у ягонай Імперыі павінны быў выконвацца безумоўна, з рабскім пакорствам. Гэта тычылася усіх - ад маршала да салдата, якія засвоілі элементарную салдацкую ісціну на вайне: нямецкі кулямётчык можа прамахнуцца, не пацэліць; у выпадку ж непадпарадкавання промаху не будзе. На тым была збудавана уся дэталёва распрацаваная сістэма, што складалася з вайсковага камандавання, паліторганаў, асобых аддзелаў, пракуратуры і трыбуналаў, заградатрадаў, штрафных ротаў і штурмавых батальёнаў - усіх гэтых рэпрэсіўных структураў перыяду вайны, запраграміраваных выключна на татальны прымус.

Менавіта тая прычына тлумачыць распаўсюджаны на вайне парадокс, калі шмат якія палкі і дывізіі месяцамі бязглузда атакавалі адны і тыя ж рубяжы і вышыні, клалі ля іх тысячы людзей. Генералы не маглі ступіць кроку, не ўзгадніўшы яго з маршаламі, а тыя - з галоўнакамандуючым; ніхто не меў адвагі ні паправіць, ні нават заўважыць самую недарэчную памылку, калі яна ішла зверху.

Цяпер расійскае грамадства, у тым ліку і генералітэт, абураюцца з прычыны бязглуздага знішчэння у Грозным сотняў расійскіх танкаў, забываючы, што той факт мае гістарычны прэтэндэнт. На заключным этапе вайны у Берлін таксама былі уведзены дзве танкавыя арміі, якія там і згарэлі, страціўшы у вулічных баях каля 800 танкаў. Але танкі хоць мелі падлік, людскія ж жыцці лічыць не было прынята, і дагэтуль ніхто не ведае усёй колькасці нашых ахвяраў у мінулай вайне.

Спантанная у шмат якіх адносінах барацьба беларусаў супраць нямецкіх захопнікаў была скарыстана бальшавіцкім кіраўніцтвам у сваіх інтарэсах, партызанскі рух ці не з самага пачатку набыў характар прамаскоўскага і да вызвалення Беларусі ініцыяваўся і кантраляваўся партыйнымі органамі ды засланымі з па-за лініі фронту карнікамі НКУС.

Беларусь традыцыйна апынулася між агнём ды полымем: з аднаго боку жорсткасць акупацыйных уладаў, з другога - не меншая бязлітаснасць уладаў "лясных", партызанскіх з іх звыклым праследам усіх, хто не з імі. Нацыянальная воля беларусаў да ўласнага самавызначэння, таксама як і да самавыжывання, нікім у разлік не прымалася. Вайна з абодвух бакоў вялася метадамі сярэднявечча - без спагады да цывільных, старых і малых.

Асобна знішчалася яўрэйскае насельніцтва, што на працягу

3-4 стагоддзяў пражывала ў нашых гарадах і мястэчках і стала часткаю народа Беларусі. Яго не мог абараніць ніхто: Чырвоная Армія была далёка і бараніла Маскву, партызанскае ж камандаванне не ўважала тое за сваю неабходную справу. Пераважна яўрэяў ратавалі беларускія сяляне, жыхары мястэчак, самі прытым рызыкуючы уласным жыццём, жыццём сваіх родных.

Кожны тэракт ці акт сабатажу каштаваў беларусам сотняў і тысячаў жыццяў заложнікаў - ні ў чым не вінаватых людзей, што не змаглі ўзяць у рукі зброю ці па тых або іншых прычынах хацелі застацца ў баку ад шалёнай барацьбы. Сотні беларускіх вёсак былі панішчаны рукамі немцаў толькі таму, што іхняе знішчэнне было справакавана партызанамі.

Нацыянальна-культурны рух, што ў вельмі абмежаванай меры дазваляўся нямецкімі ўладамі, датла вынішчаўся ўладамі бальшавіцкімі, якія разглядалі яго не інакш, як калабаранцкі і варожы. Законы бязлітаснай барацьбы змушалі многіх дзеля выратавання жыцця рабіць надта пакутны выбар, станавіцца ў той ці іншы лагер барацьбы двух ашалелых тыграў. Трэцяга лагеру не было, трэцім магла быць толькі пагібель. Пераважна з тае прычыны большыня людзей і выбірала найменшае зло, якім па тым часе здаваўся Савецкі Саюз і ягоная барацьба супраць фашызму.

У цяжкіх баях на фронце, успамінаючы жахлівыя перапеты даваеннага жыцця, мы дужа спадзяваліся, што пасля гэтай крывавай вайны ўсё ў краіне будзе іначай. Будзе лепей, вальней і справядлівей. Што Сталін нарэшце наможацца, калі не на павагу (што таксама было б не лішне), дык хоць бы на спагаду да спакутаванага і перамогшага народу. Мы гатовы былі цярпліва стрываць непазбежнае пасляваеннае жабрацтва, шматгадовую галадуху і розныя абмежаванні. Але, здавалася, мы ўсё ж мелі права чакаць, што нарэшце спыняцца нядаўжі прыгнёт, тыранія і шаленства ў адносінах да сваіх жа братоў па класу - рабочых, сялян, рэшткаў інтэлігенцыі.

Ды не. Адразу ж пасля перамогі Сталін узяўся за сваё улюбёнае хобі - барацьбу. З кім? - гэта сакраментальнае пытанне усёй сталінскай дыктатуры. Не паспела скончыцца вайна, як зноў быў вызначаны "непрымірымы вораг" - нядаўнія саюзнікі. Тыя самыя, што ў цяжкім сорак першым сталі поруч з небаракай-дзяржавай, колішняй саюзніцай Гітлера, не далі ёй згінуць пад ударамі таго ж гітлерызму. Цяпер да заморскіх саюзнікаў далучылі

уласных грамадзян, учарашнiх воiнау-пераможцау. I калi да першых усё ж было не дапяцца, дык другiя знаходзiлiся у поунай уладзе дыктатара. Iх i судзiлi, i саджалi, i ссылалi. Адзiночак, сем'i i цэлыя народы. Як i раней.

Аднак здауна вядома, што двойчы у адну раку увайсцi немагчыма, на гэты раз даваеннага адзiнадушша, "адабрэння i падтрымкi" не адбылося. Народ пачау разумнець, у масавы шпiянаж ды шкоднiцтва не паверыу. Як чырвонаармейцы здавалiся у палон, было усiм вядома. Мiльёны людзей, што за вайну зiрнулi на свет, якiм iх палохалi усе даваенныя гады, убачылi там штосьцi iншае, чым iх рыхтавалi убачыць. Найперш - плён прыватнай уласнасцi, класавую талерантнасць ды нацыянальную еднасць дэмакратычных краiн, якасцi, якiя датла былi панiшчаны у нас.

Тым часам жыццё у нашай краiне забрыдала ва усё глушэйшы тупiк, хутка стала вiдавочна, што хвалёная калгасная сiстэма збанкрутавала, пракармiць краiну уласным хлебам стала немагчыма; гарады апынулiся пад уладай ненажэрнага вэмпiра ВПК, якi высмоктвау з эканомiкi усе яе сокi. Ядзернае шаленства i касмiчныя гонкi нарэшце прывялi свет на край катастрофы.

Усенародную перамогу над нямецкiм фашызмам нахабна прыватызавала партыя бальшавiкоу, якая гэтак жа нахабна карысталася ёю у глабальных маштабах. Галоунымi героямi вайны пасля перамогi зрабiлiся славутыя палiторганы - ваенныя саветы, камiсары i палiтрукi, прапагандысты i агiтатары розных рангау, без якiх, аказваецца, немагчыма была i перамога.

Абавязкам народа як у вайну, так i пасля яе было адно: выкананне "мудрых предначертаний" мудрэйшай партыi, што i прывяло яго да гiбельнай прорвы.

Дык за што ж мы ваявалi? Супраць каго - зразумела, тут, як прынята гаварыць, няма пытанняу. Але кожнае супраць мяркуе таксама i пэунае за. Вось гэтае за робiцца праклятаю тэмай для пакутнага роздуму кожнага, хто не страцiу здольнасцi думаць. Як i пяцьдзесят гадоу назад, прауда вайны па-ранейшаму застаецца нёдасяжнай для большасцi. Увогуле гэта зразумела. Ваенна-прапагандовая хлусня стала складовай часткай камунiстычнай iдэалогii. А менавiта у гэтай iдэалогii выхоувалася свядомасць большасцi нашых шаноуных ветэранау вайны, якiя i дасюль гэтай любяць выхоуваць маладое пакаленне "у духу патрыятызму".

Сталася так, што тыя, хто доугiя гады прапаведвау "патрыя-

тычныя" ідэі у масах, самі паверылі у іх, стаўшы па сутнасці іх прамой і добраахвотнай ахвярай. Яшчэ нядаўна кожны, хто уласным розумам спрабаваў дабрыцці да праўды вялікай вайны, быў тут жа "біты каменнем", якім кідалі у яго не толькі вучоныя – начальніцкія паслугачы, але і нядаўнія саратнікі, браты па акопах. Наша ваенная літаратура, служка таталітарнай партыі, практыкавалася адно на гераізме, пакідаючы па-за увагай усе астатнія аспекты вялікай і складанай вайны.

Ветэраны старэюць,і шмат якія іхнія заганы маюць, безумоўна, біялагічную прыроду. Зноў жа бальшыня з іх, як ужо сказана, – несумненны прадукт камуністычнага выхавання і ягонай фальшывай ідэалогіі. (Дарэчы, вельмі зручнай для недалёкага або лянівага розуму, дзякуючы чаму яна і завалодала мільёнамі). За паўстагоддзя натуральна аслабла іхняя памяць, яны лёгка забываюцца на сябе колішніх і ахвотна набываюць рамантызаваны,"падвышаны" вобраз героя, да непрыстойнасці увешаных т.зв. урадавымі узнагародамі, амаль спрэс пасляваеннага паходжання. Зрэшты, па-чалавечы тое можна і зразумець – каму не хочацца выглядаць прыгожа! Але у цывілізаваным грамадстве таго прынята хоць бы саромецца. Ды не у нас.

Неймавернымі высілкамі перамогшы найвялікшае зло эпохі, забяспечыўшы напрыканцы XX стагоддзя дэмакратычнае развіццё краінаў Еўропы, пакаленні ветэранаў засталіся бяспраўнымі жабракамі, з мізэрнаю пенсіяй, адзінаю прывілеяй – бясплатным праездам на гарадскім транспарце. Да юбілею перамогі, мяркуючы па усім, давядзецца задаволіцца узмоцненай дозай гераізаванай рыторыкі ды чарговым юбілейным медалём. На тое, каб больш-менш прыстойна уладкаваць побыт дажываючых пакаленняў, пераможцаў Гітлера, у нашых уладаў не хапае ні сродкаў, ні вялікага жадання. Яны найперш клапоцяцца пра сябе і уласныя здабыткі у будаўніцтве"наменклатурнага капіталізму".

Амаль праз пяцьдзесят гадоў пасля нашай перамогі рухнула апошняя у свеце імперыя. Але чамусьці не надта чуваць народнае радасці, вельмі натуральнай з такой несумненна гістарычнай нагоды. Ну, калі не радасці, дык хоць бы задавальнення – мабыць жа, гэтая падзея усё ж таго вартая. Замест адусюль чуецца гаротны енк.

Народы і нацыі, у тым ліку і беларуская, выхаваныя за гады у духоўнай Бастыліі і раптам выпушчаныя на волю, аказаліся ня-

зрольнымі існаваць вольна, будаваць жыццё на ўласны розум. Дэфіцыт энерганосьбітаў, вядома, важная справа, але, можа, яшчэ важнейшая - недахоп нацыянальнай волі, якая, дэфармаваўшыся ў таталітарнай сістэме, набыла выразны характар сервільнасці, духоўнага канфармізму. Нізкі ўзровень палітычнай свядомасці робіць лёгкім і простым уладаранне посткамуністычнай наменклатуры, што звычна кіруе праз свае органы ўлады, кручкатворныя, антынародныя законы.

Задураны бальшавіцкай прапагандай народ яўна не ў стане зарыентавацца ў элементарнай сутнасці палітычных партый, своечасова ўбачыць сярод іх тыя, што створаны спецслужбамі ў інтарэсах суседняй дзяржавы ці для расколу ўласнага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Тым болей што ўсе яны надзелены прывабнымі праграмамі, маюць сучасныя найменні і даволі спрытна жангліруюць папулярным мячыкам "правоў чалавека". Наш электарат толькі цяпер пачынае разумець, што краіне ў якасці прэзідэнта патрэбны нацыянальны патрыёт, чалавек глыбока маральны. Іншы немінуча завядзе нацыю ў прорву.

Апынуўшыся ва ўмовах адноснай самастойнасці і дзяржаўнай суверэннасці, нацыя не выпрацавала элементарных навыкаў тае суверэннасці - гэтай найвышэйшай каштоўнасці цывілізаванага існавання, за якую шматлікія народы стагоддзямі вядуць упартую барацьбу, нясуць незлічоныя ахвяры. Наша нацыянальная інтэлігенцыя ўсё не можа пазбыцца камуністычнага сіндрому і загрузла ва ўпартай і бясплённай барацьбе за родную мову. Скутая страхам рэстаўрацыі бальшавізму, на большае яна не адважваецца: нацыянальная ідэя ў яе універсальным разуменні не стала для яе галоўным фактарам нашага нацыянальнага адраджэння.

Сутыкнуўшыся з немалымі цяжкасцямі пострталітарнага жыцця, шмат хто з нашага кіраўніцтва гатовы запрасіцца назад, на звыклае месца ў імперскім стойле, дзе было гэтак утульна і бесклапотна. Але дзе яно, тое ранейшае месца-стойла? Мабыць, яго ўжо няма, мінулае згінула ў бурным патоку часу. Яго ўжо не дагнаць. Застаецца нескладаная альтэрнатыва: або караскацца наперад за чалавецтвам, або стаяць на месцы і смярдзюча гніць у самым сярэдку Еўропы.

"Народная газета",
7 сакавіка 1995 г.

# КУР'АН

## Сура пятая – Аль-Маіда
## (Трапеза – Застаўлены стол)

працяг

47. Але як яны цябе суддзёй прызначаць, калі ў іх ёсць Закон,
у якім суд Бога? І ўсё ж, нягледзячы на гэта, паварочваюцца
яны спіной. Як жа далёкія яны ад веры!
48. Мы даравалі Тору, у якой указаны сапраўдны шлях і святло.
Па ёй судзілі іудзеяў тыя прарокі, што аддаваліся Богу
усім сэрцам. Равіны і вучоныя мужы судзілі па таму, што ім
было даручана выконваць з Божай Кнігі, яны ж і сведкі аб
гэтым. А таму людзей не бойцеся, а бойцеся толькі Мяне! І
не абменьвайце знакаў Маіх за нікчэмную плату. А тыя, хто
вершаць суд не па таму, што ім даў Аллаг – няверныя прад-
criстануць перад Ім.
49. І ў ёй (Торы) мы загадалі: душа за душу, вока – за вока,
нос – за нос, вуха – за вуха, зуб – за зуб, за нанясенне
ран – адплата (за свае раны). А хто даруе гэта як міласці-
ну, таму паслужыць гэта ачышчэннем ад грахоў перад Богам.
Тыя, якія не судзяць па тым, што паслаў Аллаг, тыя – пару-
шальнікі закона.
50. І па слядах іх адправілі Мы Ісу, сына Марйам, каб замаца-
ваць ісціннасць закону, што быў дараваны ў Торы. Яму Еван-
гелле Мы даравалі, у якім сапраўдны шлях і святло, і па-
цверджанне таму, што да яго даравана ў Законе, і верны шлях,
і настаўленне, і павучэнне для богабаязных.
51. Няхай людзі, якія атрымалі Евангелле, судзяць па тым, што
Бог ім дараваў, а тыя, хто суд вяршаць не па таму, што ім
нізвёў Бог, тыя – нечасціўцы.
52. Сапраўды, Мы Кнігу паслалі табе для пацверджання таго, што
з Пісання прыйшло, для беражэння яго (ад усялякіх скажэн-
няў). Судзі ж між імі па тым, што Бог табе дараваў, не пад-
давайся захапленням, што ўбок ад ісціны ідуць, калі табе
яна ўжо вядома. Мы кожнаму з вас прадвызначылі Статут (для
жыцця) і дарогу (да святла).
53. Калі б хацеў Бог, Ён зрабіў бы вас усіх адным народам, але

وَاَنْزَلْنَآ اِلَيْكَ الْكِتٰبَ بِالْحَقِّ مُصَدِّقًا لِّمَا بَيْنَ يَدَيْهِ
مِنَ الْكِتٰبِ وَمُهَيْمِنًا عَلَيْهِ فَاحْكُمْ بَيْنَهُمْ بِمَآ اَنْزَلَ
اللّٰهُ وَلَا تَتَّبِعْ اَهْوَآءَهُمْ عَمَّا جَآءَكَ مِنَ الْحَقِّ لِكُلٍّ
جَعَلْنَا مِنْكُمْ شِرْعَةً وَّمِنْهَاجًا وَلَوْ شَآءَ اللّٰهُ لَجَعَلَكُمْ
اُمَّةً وَّاحِدَةً وَّلٰكِنْ لِّيَبْلُوَكُمْ فِىْ مَآ اٰتٰىكُمْ فَاسْتَبِقُوا
الْخَيْرٰتِ اِلَى اللّٰهِ مَرْجِعُكُمْ جَمِيْعًا فَيُنَبِّئُكُمْ بِمَا
كُنْتُمْ فِيْهِ تَخْتَلِفُوْنَ

Кур'ан. Сура Аль-Маіда, аят 48

(воляю Сваёю Ён хоча) выпрабаваць вас (на вернасць і выкананне таго), што Ён вам дау. Імкніцеся ж апярэдзіць адзін аднаго у сатварэнні дабра, да Аллага усе вы вернецеся, тады Ён ясна вам пакажа усё тое, у чым вы разыходзіліся!

54. Судзі ж між імі па тым, што Бог табе даравау. Не паддавайся іх захапленням і асцерагайся іх, каб яны сваімі хітрыкамі не адцягнулі ні ад чаго, што даравау табе Бог. А калі ж яны адвернуцца, дык гэта таму, што за нейкія з іх грахоу Бог хоча іх пакараць, - бо, сапрауды, як многа сярод людзей (божаму парадку) непаслухмяных!

55. Няужо суда часоу язычніцтва яны жадаюць? Няужо для тых, хто цвёрды (у пазнанні і веры) ёсць лепшы па суду, чым Сам Аллаг?

56. О вы, вернікі! Сабе у сябры і апекуны вы не бярыце ні іудзея, ні хрысціян*, яны - сябры адзін другому, а той з вас, хто іх бярэ у сябры, той сам - з іх ліку. Сапрауды, Аллаг не кіруе людзьмі законанепаслухмянымі.

57. Ты бачыш, як тыя, у каго у сэрцах хвароба, будуць паспешна пераходзіць да іх і будуць гаварыць: "баімся мы, каб не мінуу нас паварот удачы!" (Як ведаць!), быць можа, Бог перамогу даруе, або які-небудзь загад ад сябе. Тады пашкадуюць яны аб тым, што хавалі яны у сваіх думках.

---

* Валерыя Порахава, перакладчыца з арабскай мовы сэнсау Кур'ана гэтыя словы тлумачыць так: "Непрыязнь мусульман да іудзеяу і хрысціян ні у якім разе не была з прычыны таго, што яны не прымалі ісламскай веры (аб гэтым красамоуна сведчаць аяты 84 суры 3-й, 58-51 5-й суры, аят 62 2-й суры Кур'ана, а ад варожасці іудзеяу і хрысціян, якая часта пераходзіла у адкрытую агрэсію, ад іх катэгарычнага непрызнання Ісламу як рэлігіі (гл. у Кур'ане аяты 73, 57 і далей у 8-й суры).

Паводле выказванняу аднаго замежнага вучонага "... Еурапейская навука (і тэалогія) за апошнія паутара стагоддзі прайшла вялікі шлях ад погляду на Мухаммеда як на ілжэнастауніка, якім кіруе д'ябал, праз спробы дыскрэдытацыі яго вучэння як другаснага у параунанні з іудаізмам і хрысціянствам да поунага прызнання Ісламу рэлігіяй, роунай хрысціянству і іудаізму" (гл. Watt, 1970. С. 183-184).

58. І скажуць вернікі тады: "Няужо гэта тыя, хто кляўся Аллагам, самай моцнай з клятваў, што яны сапраўды з намі?" Справы іх марныя і пацерпяць яны духоўны урон.

59. О вы, вернікі! Калі хто з вас адмовіцца ад веры сваёй, то Аллаг прывядзе людзей, якіх Ён любіць і якія любяць Яго, і якія будуць добрымі і прыязнымі з тымі, хто ўвераваў, будуць суровымі з нявернікамі, якія змагаюцца на дарозе Аллага, бясстрашнымі перад богахульствамі тых, хто богахульнічае. І гэта ёсць шчодрасць Аллага, і Ён дарує яе тым, каму захоча, - бо Ён уладар усяго і ведае аб усім!

60. Ваш заступнік - толькі Аллаг. Пасланнік Яго і вернікі выконваюць малітву і плацяць закят і пакланяюцца адзінаму Аллагу.

61. І тыя, хто выбралі Аллага, пасланніка Яго і вернікаў узялі сабе ў сябры, яны - святое брацтва Аллага і ім будзе належаць перамога (над усімі)!

62. О вы, вернікі! Сабе ў сябры вы не бярыце тых, якія на вашу веру глядзяць як на забаву і насмешку: ні тых, каму было дадзена Пісанне да вас, ні тых, каторыя не вераць - бойцеся Аллага, калі вы вернікі!

63. І калі вы заклікаеце на малітву, яны гэты заклік у забаву і насмешку ператвараюць, і гэта яны робяць таму, што гэтыя людзі пазбаўлены разумення.

64. (Ты ім) скажы: "О людзі Пісання! Няўжо вы помсціце нам толькі за тое, што ў Аллага верым мы, і ў адкрыццё, што нам дараваў Усявышні, і ў тое, што паслана да нас, ці таму, што большасць з вас разбэшчаныя?

65. Скажы: "А ці не ўказаць мне вам на нешта яшчэ больш агіднае, чым гэта? Гэта тыя, каго пракляў Аллаг, на каго паў гнеў Яго і каго абярнуў Ён у малпаў і свіней, і каторыя Тагуту пакланяліся. Сапраўды, знаходзяцца яны ў яшчэ горшым стане і яшчэ больш яны звярнулі з роўнай дарогі.

66. І калі прыходзяць яны да вас, яны кажуць: "Мы верым!" А прыходзяць яны з няверʼем і з ім жа вяртаюцца; і Аллагу лепш ведама, што яны хаваюць у душы.

67. І бачыш ты, як многія з іх спяшаюцца ў тым адзін другога апярэдзіць і пажыраць тое, што забаронена (Законам). І як жа агідна тое, што робяць яны.

68. Чаму святары і людзі, дасведчаныя у законе, не забароняць
ім гаварыць хлусню і есці забароненае? Сапраўды, зло ёсць
тое, што чыняць яны.
69. І сказалі іудзеі: "Рука Аллага прывязана". Іх уласныя рукі
будуць звязаны і будуць яны пракляты за такія словы. О не!
Распасцёрты абедзьме рукі Аллага. Ён па Сваёй волі раздае
(дары). Даравапае табе зверху ад Аллага твайго у большасці
з іх павялічвае упартае няверʼе і багахульства. (За тое) Мы
распалім у іх варажнечу і нянавісць адзін да аднаго да дня
Апошняга Суда. У кожны раз, калі яны агонь вайны распаляць,
Аллаг яго патушыць. Яны імкнуцца на зямлі бязбожжа пасеяць,-
Аллаг не любіць тых, хто сее смуту!
70. О каб толькі людзі Пісання паверылі у Бога і страхам пра-
сякліся перад Ім. Мы б іх ачысцілі ад Зла, увялі б іх у са-
ды уцех і душэўнай раскошы. І калі б яны цвёрда трымаліся
Торы і Евангелля і таго, што ім даравана (цяпер) ад Уладыкі,
яны б спаўна жывіліся ад таго, што вышэй іх і што пад іх на-
гамі. Ёсць сярод іх і памяркоўны народ (які стрымлівае за-
хапленні згодна з патрабаваннямі Бога). Але многія з іх ...
Як жа дрэнна тое, што яны робяць!
71. О пасланнік! Ты перадай ім, што даравана табе тваім Уланы-
кам. А калі не зробіш ты гэтага, то ты не перадасі таго, што
паслана Богам. Аллаг абароніць цябе ад (злых) людзей, -
Аллаг не будзе кіраваць няверным народам.
72. Скажы: "О людзі Пісання! Нішто (на гэтай зямлі) не будзе
вам апірышчам, пакуль вы не будзеце моцна трымацца Торы і
Евангелля і таго, што вам даравана (цяпер) ад вашага Уланы-
кі!" Але тое, што табе даруецца зверху ад Уладыкі у большас-
ці з іх толькі павялічвае упартае няверʼе і багахульства.
Але няхай гэты люд цябе не засмучае.
73. Тых, хто паверыў, і тых, хто трымаецца іудаізму, і сабеі,
хрысціяне, хто паверыў у Бога і Судны Дзень, і твораць
дабро, чакае (шчодрая) ўзнагарода у Бога, тым не будзе ні
страху ні скрухі.
74. Сапраўды, прынялі Мы запавет ад сыноў Ізраіля і даравалі ім
пасланнікаў. Але кожны раз, калі прыходзіў да іх пасланнік
з гэтым, і прыносіў непажаданае ім, яны абвяшчалі іх або
ілгунамі, або забівалі іх.

75. I яны думалі, што не будзе за тое пакарання, былі сляпымі і глухімі. Аднак Аллаг звярнуўся да іх з міласэрнасцю; і ўсё ж многія з іх зноў зрабіліся сляпымі і глухімі; і ведае Аллаг аб справах іх.
76. Няверныя тыя, якія кажуць, што Месія, Сын Марйам, ёсць Бог. Месія казаў: "Сыны Ізраіля, пакланяйцеся Богу, Госпаду майму і Госпаду вашаму". Хто прыдумляе саўдзельнікаў Богу, таго Бог пазбавіць раю, таму жыллём будзе агонь: для беззаконнікаў не будзе абаронцаў.
77. Сапраўды, не вераць тыя, якія кажуць, што Аллаг - трэці у троіцы, тады як няма Бога, акрамя Бога адзінага. І калі не адмовяцца яны ад слоў сваіх, цяжкае пакаранне спаткае тых з іх, катырыя не вераць.
78. Няўжо не звернуцца яны да Аллага, просячы у Яго прабачэння? Бо Аллаг - Усёдаравальны і Міласэрны.
79. Месія, сын Марйам, не больш чым пасланнік. Яго папярэднікамі былі многія іншыя, і праведніцаю была яго маці. Яны харчаваліся ежай (што для смяротных), - глядзі, як ясна Мы тлумачым Свае знакі для іх. I паглядзі, як усё-такі адварочваюцца яны!
80. Скажы: "Як будзеце вы пакланяцца нароўні з Богам таму, хто не можа ні шкоду вам прынесці ні карысць" (маецца на ўвазе балваны-істуканы язычнікаў), - Аллаг усё чуе і ведае пра ус
81. Скажы: "Прыхільнікі Пісання! Не парушайце неправедна межаў у пытаннях веры вашай, і не ідзіце шляхам раней заблудных людзей, якія ўцягнулі многіх у блуд і якія самі павярнулі далёка з простага шляху.
82. Тыя з сыноў Ізраіля, якія не паверылі, былі пракляты вуснамі Даўда і Месіі Ісы, сына Марйам. Гэта сыны Ізраіля, якія няверными засталіся, за тое, што былі непакорнымі і грашылі. Не стрымалі адзін аднаго ад беззаконня, здзейсненага імі. Сапраўды, зло было тое, што чынілі яны.
83. Ты ўбачыш, як многія з іх бяруць сабе ў сябры няверных. Сапраўды, зло ёсць тое, што самі яны сабе зрабілі, што прагневаўся на іх Аллаг; і быць ім у вечных муках.
84. І каб яны паверылі ў Аллага і ў прарока, і ў тое, што было пасланае яму, іх у сябры няверных ніколі не ўзялі б. Але многія з іх упарцяцца ў граху.

(заканчэнне суры ў наступным нумары)

# ВЯЛІКАЕ МУСУЛЬМАНСКАЕ СВЯТА - ІД АЛЬ-АДХА

Нядаўна, І-3 шаўвала (у пачатку сакавіка) мы з вамі, дарагія мусульмане, святкавалі ІД АЛЬ-ФІТР - Рамазан-Байрам. Неўзабаве, ІО-ІЗ іль-хаджа (ІІ-І4 траўня), калі па волі Аллага дажывём да гэтага часу, будзем святкаваць ІД АЛЬ-АДХУ, свята, якое мусульмане-цюркі (а татары - гэта цюркі) называюць Курбан-Байрам.

Для тых, хто не ведае, расскажам пра гэта свята. Асаблівасць яго ў тым, што глава мусульманскай сям'і, калі ёсць сродкі, павінен дзеля Аллага зарэзаць быка, вярблюда, барана адразу пасля намаза ў мячэці (святочнай малітвы). Той, хто не ведае гісторыю, хто не ведае аснoў мусульманскай веры, нярэдка гаворыць, што якое гэта свята, калі трэба рэзаць жывёлу, калі л'ецца кроў?

А гісторыя гэтага звычая такая: У прарока Ібрагіма і Хаджар вырас прыгожы сын, які пакланяўся не ідалам (балванам), а Аллагу, таксама як і бацька, які навучыў яго маліцца звалку адзінаму Аллагу. Неяк уначы Ібрагім сасніў, што Аллаг загадвае яму забіць свайго сына Ісмаіла. Прачнуўшыся, Ібрагім сказаў: "О Уладыка, калі Ты хочаш, каб я зарэзаў сына, я падпарадкуюся". Заснуўшы другі раз, ён пачуў голас, які гаварыў яму: "Аллаг загадвае табе зарэзаць Ісмаіла". Прачнуўшыся, Ібрагім стаў на калені і пачаў маліцца: "О Уладыка, калі Ты хочаш, каб я зарэзаў сына, я падпарадкуюся". Затым ён заснуў у трэці раз і зноў пачуў вешчы голас: "Аллаг загадвае табе зарэзаць свайго сына Ісмаіла". Прачнуўшыся і ўстаўшы, Ібрагім сказаў: "Вось цяпер я выканаю загад".

Ібрагім пайшоў да сына Ісмаіла і яны разам выйшлі з палаткі (намёту), накіраваліся на вяршыню гары. Там Ібрагім сказаў сыну: "О дарагі сын мой, я бачыў праз сон, што я рэжу цябе. Дык што ты думаеш пра гэта?" Ісмаіл адказаў: "О мой татка, зрабі, як табе загадана; ты знойдзеш мяне, калі гэта трэба Аллагу, моцным".

Ібрагім не хацеў, каб яго сын убачыў нож. Ён звязаў яму рукі за спіной і паклаў яго ніц, тварам да зямлі. Затым Ібрагім вынуў свой стары нож, наважыўся і ўсклікнуў: " О Уладыка, вось

я выконваю Тваю волю!" Затым рэзка апусціў руку з нажом. Аднак перш чым нож дастаў шыю Ісмаіла, Ібрагім пачуў голас: "О Ібрагім, ты ўжо выканаў свой ..." Раптам ён убачыў цудоўнага барана ў руках анёла, які сказаў Ібрагіму: "Зарэж гэтага барана замест Ісмаіла, якога Аллаг пажадаў пакінуць жывым, а ў ахвяру прынесці барана". Ібрагім перавёў дух і развязаў сына. Затым ён зарэзаў барана і пачаў шчыра маліцца Аллагу, дзякуючы за Яго выкуп. З таго часу ў Аль-Адху (свята ахвярапрынашэння) мы прыносім у ахвяру жывёлу, дзякуем Аллагу за выратаванне Ісмаіла, а мяса раздаём бедным і абяздоленым.

Рабіць ахвярапрынашэнне - важны абавязак (сунна) для кожнай мусульманскай сям'і, калі яна мае сродкі. Пра адплату за ахвярапрынашэнне прарок Мухаммед (мір яму і благадзенства) сказаў, што ў кожнай валасінцы, а калі гэта воўна, то за кожны валасок па ўзнагародзе. І не трэба забывацца, што мяса ахвярных жывёл падзяляюць на тры часткі: адна частка аддаецца бедным людзям, адна частка сябрам і родным, астатняя застаецца сям'і гаспадара.

Жывёліна, прызначаная для ахвярапрынашэння, павінна быць без заган, а калі рэжуць ахвяру, то трэба сказаць: "Бісміллагі - Аллагу Акбар".

Тыя, хто не мае сродкаў, каб прынесці ў гэты дзень ахвяру, няхай не бядуюць, таму што аднойчы наш Прарок зарэзаў вялікага барана і сказаў: "О Аллаг! Гэта за мяне і за ўсіх мусульман".

Няхай нам усім дарує Аллаг сваю літасць.

Мухамед Махмуд

## ПОЛЬШЧА Ў ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЕ

Вялікае свята - 50-годдзе завяршэння Другой сусветнай вайны адзначаюць многія народы свету, асабліва Еўропы, дзе з 1939 да 1945 года ішлі кровапралітныя баі. Лічыцца, што вайна пачалася 1 верасня 1939 года, калі Германія напала на Польшчу. Падрыхтоўка да вайны пачалася раней. 15 сакавіка 1939 г. Германія займае Чэхаславакію, здабываючы тым самым вялікую колькасць зброі, амуніцыі, а галоўнае прадпрыемствы, якія выраблялі ўзбраенне. 31 сакавіка Вялікабрытанія абвяшчае аб тым, што акажа дапамогу для Польшчы, калі на яе нападзе агрэсар. 4 красавіка 1939 г. закончылася грамадзянская вайна ў Іспаніі, дзе генерал Франка з дапамогай фашысцкіх краін - Германіі і Італіі разграміў рэспубліканскую іспанскую армію і атрады інтэрнацыяналістаў з многіх краін, якія дапамагалі іспанцам змагацца з фашызмам. Мужна змагаліся з фашыстамі 5 тысяч дабравольцаў з Польшчы (у тым ліку з Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі), больш за 2 тыс. чалавек з іх загінула, астатнія былі інтэрніраваны ў Францыі, дзе пазней працягвалі барацьбу з фашыстамі. 7 красавіка 1939 г. Італія напала на Албанію. 13 красавіка Францыя, падобна як 31 сакавіка Вялікабрытанія, абвясціла аб саюзніцкіх гарантыях для Польшчы.

Урад фашысцкай Германіі, які далучыў да сваёй дзяржавы Аўстрыю, Чэхію, частку Літвы (горад Клайпеду з прылеглым раёнам), які дапамог генералу Франка задушыць рэспубліканскі парадак у Іспаніі, абвясціў 26.4.1939 г. аб прэтэнзіях да Польшчы: цалкам перадаць Германіі вольны горад Гданьск, пралажыць па тэрыторыі Польшчы чыгункі і аўтадарогі да Усходняй Прусіі. 5 траўня Польшча адкідвае нахабныя патрабаванні немцаў, спадзяючыся, што Вялікабрытанія і Францыя выканаюць свае саюзніцкія абавязкі і не дадуць Германіі беспакарана напасці на заходнія рубяжы Рэчы Паспалітай.

17 жніўня 1939 г. былі перарваны маскоўскія перамовы аб антыгітлераўскім саюзе Вялікабрытаніі, Францыі і СССР. Вяліся гэтыя перамовы толькі дзеля прыліку. З боку Вялікабрытаніі і Францыі удзельнічалі ў іх другарадныя асобы. Польскі урад быў катэгарычна супроць таго, каб прапусціць праз сваю тэрыторыю Чырвоную Армію ў выпадку, калі ў гэтым будзе неабходнасць.

23 жніўня СССР заключае з Германіяй пакт аб неагрэсіі

(пазней гэты пакт стаў вядомы як пакт Рыбентроп-Молатаў, а за імі стаялі Гітлер і Сталін).

I верасня Германія напала на Польшчу. У апошнія дні жніўня гітлераўская армія ўжо была прыгатавана да нападу на Польшчу. Палякі толькі за два дні да пачатку вайны абвясцілі ўсеагульную мабілізацыю.

Праводзіць мабілізацыю раней палякам не дазвалялі іх саюзнікі, баючыся, што гэта дасць Гітлеру апраўданне для абвяшчэння вайны. Сітуацыю ратавала пэўным чынам тое, што палякі ўжо вясною мабілізавалі частку арміі шляхам прызыву на вучэнне часткі рэзервістаў.

Суадносіны сіл для Польшчы былі вельмі неспрыяльнымі. Германія была магутнай прамысловай краінай, якая ўжо некалькі гадоў рыхтавалася да вайны. Германская армія была ўзброена самай сучаснай зброяй (у тым ліку захопленай у Чэхаславакіі). Магчымасці Польшчы былі вельмі малыя. Напрыклад: на працягу I месяца нямецкая прамысловасць выпускала каля 800 самалётаў, польская - да 20. Падобна было і ў іншых галінах вытворчасці зброі і транспарту. Колькасна і аружна германская армія намнога перавышала польскую армію. Для атакі на Польшчу Германія кінула большасць сваіх сухаземных сіл, авіяцыі і ўсе бранятанкавыя сілы: 2750 тыс. салдат і афіцэраў, 32255 гармат і мінамётаў, 3206 цяжкіх і сярэдніх танкаў, 3781 баявы самалёт, ваенна-марскі флот 315 тыс. брута рэгістравых тон. Польшча змагла супрацьставіць гэтаму 840 тыс. жаўнераў і афіцэраў, 6503 гармат і мінамётаў, 2II танкаў, 407 баявых самалётаў і флот агульным водазмяшчэннем I6 тыс. брута рэгістравых тон.

3 верасня Вялікабрытанія і Францыя абвясцілі вайну Германіі, але ні ў верасні, ні ў кастрычніку ніякай ваеннай дапамогі палякі ад сваіх саюзнікаў не дачакаліся.

Нямецкі агрэсар наступаў адначасова на Мазоўша, Памор'е, Шлёнск і Падгалле і на працягу 6 дзён выйграў прыгранічныя бітвы, істотна пашкодзіў чыгункі і аэрадромы далёка ад лініі фронту. У другі перыяд кампаніі польскія арміі, сканцэнтраваныя ў групоўкі "Познань" і "Памор'е" імкнуліся 9-22 верасня ў бітве над Бзурай нанесці рашучы ўдар ворагу. Спачатку палякі мелі поспех, але нядоўга. У час трэцяга перыяду, да 5 кастрычніка, немцы знішчылі па чарзе ўсе акружаныя і асобна змагаючыхся групы палякаў і пазней прымусілі капітуляваць тры асяродкі апору:

у Варшаве, у Модліне і на Паморʼі, на касе Гэль.

Пасля няўдалай спробы германскай арміі захапіць сталіцу Польшчы Варшаву танкавая дывізія з вялікімі стратамі адступіла. Немцы пачалі аблогу Варшавы. Абарону горада ўзначаліў глава горада (прэзідэнт) Стэфан Стажыньскі. Толькі 28 кастрычніка, калі гераічны горад быў у пажары, выкліканага бамбардзіроўкай і артылерыйскімі абстрэламі, калі не было вады для тушэння пажараў, а снарады і патроны былі вычарпаны, сталіца капітулявала. Аператыўная група генерала Францішка Клесберга ў канцы кастрычніка пачала марш з-пад Влдавы да сталіцы, каб узмацніць шэрагі яе абаронцаў. 2 кастрычніка пад Коцкам Клесберг даў апошні бой нямецкім матарызаваным дывізіям. Пасля чатырохдзённых баёў, якія спачатку былі ўдалымі для палякаў, але калі скончыліся агнявыя сродкі і сілы жаўнераў былі вычарпаны, апошняя рэгулярная вайсковая часць на тэрыторыі Польшчы капітулявала.

У савецкай літаратуры да апошняга часу пісалі пра тое, што ўрад Польшчы кінуў свой народ на волю лёсу і ўцёк за межы краіны. І7 верасня Чырвоная Армія перайшла ўсходнюю польскую граніцу і, згодна з дамоўленасцю Рыбентроп-Молатаў заняла тэрыторыю ўсходніх польскіх ваяводстваў. У Брэсце нямецкі Вермахт і Чырвоная Армія наладзілі сумесны парад.

Урад Польшчы, які яшчэ меў вялікую тэрыторыю для манёўра і рухаўся ў напрамку на Брэст, павярнуў на поўдзень і перайшоў на тэрыторыю Румыніі, якая хоць і была ў прыязных адносінах з Германіяй, але дала прытулак Э.Рыдз-Смігламу, іншым высокім польскім службоўцам. Прэзідэнт Польшчы І.Масціцкі, каб юрыдычна захаваць пераемнасць улады, адмовіўся ад сваёй пасады на карысць Рачкевіча, які быў на Захадзе і сфарміраваў там польскі ўрад у эміграцыі. Пазней Эдвард Рыдз-Смігдлы нелегальна вярнуўся ў Польшчу і ўплываў на тое, каб польскія афіцэры, жаўнеры і ўсе тыя, хто хацеў змагацца з германскім фашызмам, праз тэрыторыю Румыніі, іншых краін пераходзілі і ўліваліся ў арміі заходніх саюзнікаў - Францыі і Вялікабрытаніі. Неўзабаве Рыдз-Смігды захварэў і памёр. Першай фігурай у палякаў стаў генерал Ул.Сікорскі.

Польскія вайскоўцы і тыя цывільныя людзі, якія сумелі зарыентавацца (сярод іх паўстанцы Шлёнска, згуртаваная моладзь - гарцары і стралкі, рабочыя дружыны ў Варшаве) паказалі ў тыя дні ўзоры мужнасці ў вайне з ворагам. Вызначыліся сярод змагароў

беларусы і украінцы, якія як грамадзяне Польшчы былі на чыннай службе і па мабілізацыі прызваны у войска. Аб мужнасці польскіх воінау-ятурэяй гаворыць у сваім рамане "Верасень" польскі пісьменнік Ежы Путрамант. Мужна і умела ваявау з фашыстамі татарскі эскадрон 13-га палка Віленскіх уланау. У час баёу у вераснёуска-кастрычніцкую кампанію, у час гераічнай абароны Варшавы і пазней, у партызанскіх фарміраваннях і супраціуленні (падполлі) народ Польшчы паказау, што ён, нягледзячы на 150 гадоу няволі, калі быу раздзёрты трыма драпежнікамі - Аустра-Венгрыяй, Прусіяй і Расіяй - быу згуртаваны, знітаваны і рашуча змагауся за сваю свабоду і годнасць. На увесь свет сталі вядомымі героі абароны Почты Польскай у Гданьску і абароны Вэстэрплятэ на Гэлі.

У першых польскіх вайсковых часцях за мяжой, якія былі сфарміраваны у канцы 1939 - пачатку 1940 г. у Францыі на ініцыятыве прэм'ера эміграцыйнага урада генерала Уладыслав Сікорскага (1881-1943), аказаліся палякі з палёніі французскай, якія былі інтэрніраваны у Францыі як удзельнікі грамадзянскай вайны у Іспаніі на баку рэспубліканцау (каля 3 тыс. чалавек) і жаунеры з Польшчы, якія прайшлі праз лагеры для інтэрніраваных у Румыніі і Венгрыі. У красавіку 1940 г. Ул.Сікорскі стварыу таксама Асобную брыгаду карпацкіх стралкоу у Сірыі, уключаную пазней у Польскі корпус. Польскае войска у Францыі брала гераічны удзел у абароне Францыі і у нарвежскай аперацыі пад Нарвікам. Пасля паразы Францыі частка польскіх жаунерау перабралася у Англію. Тут быу утвораны Першы польскі корпус, са складу якога авіяцыйная эскадра, танкавая дывізія і Асобная брыгада дэсантнікау адыгралі значную ролю у далейшых баях. Пад упрауленнем англічан аказаліся таксама польскія караблі, якія бралі удзел у нарвежскай кампаніі і у баях на моры. Пад Нарвікам вызначылася Самастойная брыгада Падгалянскіх стралкоу і 4 караблі, з якіх знішчальнік "Гром" быу патоплены немцамі. Польскія караблі правялі каля 400 баёу з варожай авіяцыяй, звыш 50 баёу з берагавымі батарэямі, каля 175 баёу з падводнымі лодкамі і 40 - з надводнымі караблямі ворага. Польскія маракі затапілі 46 нямецкіх і італьянскіх караблёу.

Ад нямецкага дэсанта і вялікіх разбурэнняу ад бамбардзіровак у 1940 г. Англію выратавала авіяцыя, у склад якой уваходзілі таксама і польскія знішчальнікі і бамбардзіроушчыкі. З 1733 збітых нямецкіх самалётау (на працягу 3 месяцау) польскія піло-

ты змаглі запісаць на свой рахунак больш за 200 варожых машын.

Напрыканцы авіяцыйнай бітвы за Англію у знішчальнай брытанскай авіяцыі кожны пяты пілот быу паляк.

У наступныя гады польскія лётчыкі на бамбардзіроушчыках і на іх ахове бралі удзел у налётах на Берлін, на нямецкія прамысловыя раёны і на нямецкія караблі.

На падставе дамовы, заключанай у верасні 1941 г. прэм'ерам Сікорскім і Савецкім урадам, была утворана у Савецкім Саюзе Армія Польская для вайны на усходнім фронце. Пры падтрымцы англійскага урада начальнік гэтай арміі (83 тыс. чалавек) генерал Андэрс эвакуіравау яе у сакавіку, у верасні 1942 г. праз Іран у Палесціну.

У савецкай прапагандысцкай, ды і навуковай літаратуры вывад Андэрсам польскіх жаунерау з СССР разглядауся як здрада. Тыя жаунеры з арміі Андэрса, якія былі родам з Заходняй Беларусі і вярнуліся пасля вайны у родныя мясціны, праследаваліся савецкімі уладамі. Можна зразумець жаунерау з арміі Андэрса, якія трапілі у 1939 г. у савецкія лагеры, якія ведалі, што зрабілі бальшавікі з польскімі афіцэрамі у Катыні (гл. артыкул Катынь у гэтым нумары "Байрам") і у іншых месцах СССР, ведаючы, што спераду у польскіх воінау будуць немцы, а ззаду будуць "заградительные отряды" савецкіх энкавадзістау, яны не маглі ваяваць на усходнім фронце у такіх умовах. Папрокі палякау у тым, што СССР забяспечыу жаунерау адзеннем і абуткам неабгрунтаваны, бо захопленыя бальшавікамі у 1939 г. рыштунак, зброя і амуніцыя на тэрыторыі Заходняй Украіны і Заходняй Беларусі былі непараунальна большыя, чым выдаткаваныя на армію Андэрса.

Праз год пазней, у красавіку 1943 г., польскія камуністы (сярод іх А.Лямпэ і В.Васілеуская), засяроджаныя у СССР, з дапамогай урада СССР пачалі фарміраваць новыя польскія збройныя сілы. У траунї 1943 г. узніклі зачаткі Першай дывізіі пяхоты імя Тадэвуша Касцюшкі. 12-13 кастрычніка гэтага года Першая дывізія і Першы танкавы полк уступіу у бітву з немцамі пад вёскай Леніна Горацкага раёна Магілёускай вобласці. Польскія збройныя сілы вясной 1944 г. на тэрыторыі СССР налічвалі больш за 100 тысяч жаунерау Першай польскай Арміі.

Адным з першых дэкрэтау Польскага Камітэта Народнага Вызвалення быу дэкрэт аб злучэнні Народнай Арміі - падпольнай вайсковай арганізацыі, створанай 1 студзеня 1944 г., і Першай поль-

скай арміі, створанай у СССР, у адзінае Войска Польскае.

Першая армія у ліпені, жніўні і верасні 1944 г. ваявала за плацдармы на заходнім беразе Віслы пад Студзянкамі, вызначылася яе Першая танкавая брыгада у 7-дзённай бітве за утрыманне Мангушоўскага плацдарма. У сярэдзіне верасня Першая армія брала удзел у вызваленні Прагі (Варшаўскай), аказвала дапамогу паўстанцам Варшавы, а у 1945 г. разам з Чырвонай Арміяй вызваляла Варшаву. Першая армія прымала удзел у прарыве Паморскага вала, здабыла Калабжэг, фарсіравала Одру і разам з Чырвонай Арміяй штурмавала Берлін.

Армія генерала Андэрса у Палесціне была сфарміравана як Другі польскі корпус. У яго склад увайшлі Асобная брыгада карпацкіх стралкоў, якая у 1941 і 1942 гадах прымала удзел у баях з немцамі у паўночнай Афрыцы (Мерса-Матрух, Тобрук, Лівія). У лютым 1944 г. Другі корпус быў уключаны у склад Восьмай брытанскай арміі і удзельнічаў у баях на тэрыторыі Італіі. Тут выконваў надзвычай цяжкую задачу захопу пазіцый нямецкай дывізіі дэсантнікаў на Монтэ Касіна. У гэтых баях палегла каля 1 тысячы жаўнераў і амаль 3 тыс. было параненых.

Фарміраванне Другой арміі Войска Польскага пачалося у жніўні 1944 г. Узначаліў яе генерал Кароль Сьвярчэўскі (1897-1947), былы камандзір 35-й міжнароднай дывізіі добраахвотнікаў Іспанскай рэспубліканскай арміі. У красавіку і траўні 1945 г. Другая армія вяла цяжкія баі над Нысай Лужыцкай, у раёне Будзішына і Дрэздэна, у Пражскай аперацыі. У апошняй фазе вайны народнае Войска Польскае налічвала 450 тыс. жаўнераў, ды на заходніх франтах было яшчэ звыш 200 тыс. польскіх воінаў.

Нямецкія акупанты у Польшчы неслі смерць цывільным людзям. Адно з першых экзекуцый у Генеральным Губернатарстве (так фашысты называлі Польшчу) было забойства у Варшаве 26 снежня 1939 г., калі было забіта 107 чалавек, у тым ліку дзеці і старыкі. Першы канцэнтрацыйны лагер і адначасова "фабрыку смерці" зрабілі фашысты 15 чэрвеня 1940 г. у Асвенціме, дзе было забіта каля 4 млн. людзей з 28 краін свету, найбольш палякаў і яўрэяў. Пазней немцы стварылі іншыя лагеры смерці на тэрыторыі Польшчы - Грос Розен, Штутгоф, Майданак (каля 360 тыс. ахвяр), Белжц (каля 600 тыс.), Хелме (каля 360 тыс.), Салібожы (каля 250 тыс.), Трэблінкі (каля 800 тыс.).

Памятныя старонкі у гісторыі Другой сусветнай вайны упіса-

лі грамадзяне Польшчы. Больш за І млн. людзей усіх узростаў і станаў прымалі актыўны удзел у падполлі і партызанскім руху. 19 красавіка 1943 г. пачалося паўстанне у Варшаўскім гета, якое узначаліў М.Анялевіч. На працягу некалькіх тыдняў 6 тыс. яўрэйскіх баевікоў змагаліся з эсэсаўцамі і паліцыяй і толькі ў ліпені, калі ў жывых амаль нікога не засталося, баі спыніліся.

І жніўня 1944 г. разгарэлася антыгітлераўскае паўстанне палякаў у Варшаве. Паміж рознымі гісторыкамі вядуцца спрэчкі пра тое, ці маглі большую дапамогу паўстанцам аказаць заходнія саюзнікі і Савецкі Саюз, ці трэба было уздымаць варшавян на паўстанне, не узгадніўшы тэрмін і стратэгію дзеянняў з камандаваннем Чырвонай Арміі. Немцы знішчылі горад, загінулі помнікі культуры, загінула 200 тыс. жыхароў і каля 20 тыс. польскіх жаўнераў. У баях з фашыстамі на тэрыторыі Польшчы загінула каля 600 тыс. воінаў Чырвонай Арміі, у тым ліку многія з Беларусі.

Польшча выйшла з вайны як краіна, якая страціла найбольшы працэнт насельніцтва. Страты склалі 6028 тыс. забітых і памерлых (у выніку непасрэдна ваенных падзей загінула 644 тыс., у выніку тэрору акупанта 5384 тыс.; 590 тыс. засталіся інвалідамі, у тым ліку 100 тыс. ваеннымі інвалідамі). Вясною 1945 г. у Польшчы было 20 млн. жыхароў.

Непасрэдныя страты склалі 38% нацыянальнай маёмасці. Найбольшыя страты панесла прамысловасць (66% прадпрыемстваў цалкам або часткова знішчана), знішчаны ці пашкоджаны камунікацыі, у тым ліку чыгуначны і аўтамабільны транспарт, сельская гаспадарка (будынкі, пагалоўе свойскай жывёлы). Загінулі бібліятэкі, архітэктурныя і гістарычныя помнікі былі спалены або знішчаны. Нягледзячы на вялікія цяжкасці палякі аднавілі каштоўныя старыя забудовы, хоць гэта каштавала народу намнога даражэй, чым гмахі з жалезабетону, якія пабудавалі на месцы разбураных кварталаў народы іншых краін.

Скампанаваў І.Меметаў

# І БАЧЫЛІ ТУТ НАШЫ ЛЮДЗІ, ХТО ІМ БРАТ

(успаміны В.Грыневіча з часоў Першай сусветнай вайны)

## I.

Асабліва страшным і на доўга у патомках памятным будзе на Беларусі канец лета у 1915 годзе. Тагды уцекаўшая с-пад нямецкаго націску расійская армія пачала сьпешную, на доўга слаўную, эвакуацыю цывільнаго насялення. Падзеі гэта саўсім нідаўняго часу і аб іх поўна усе іщчэ помняць. Помняць так сама і аб тых страхах аб нямецкім войску, якія сеяліся прэдстаўнікамі расійскай улады сярод насялення і змушалі яго кідаць родныя вуглы і уцякаць у "брацкую" Расію з верай у помач у добрае сэрцо яе жыхароў. Усе тутака, у гэтых мейсцох помняць тую жывую, зруйнаваную Беларусь, якая сярод раскладаных на вуліцах гарадоў і у чыстым полі, асенняй слоты, нізлічаных штодзенных матэрыяльных страт, плачу малых і стогнаў старых, устрамлялася на усход. Чалавеччае горо зьлітай уцекачоўскай массай запанавало на усіх дарогах. Чым далей у Вялікаросію, тым радзейшай рабілася масса, тым болей сьцежак займалі уцекачы, і паволі гусьцело насяленне канцовых пунктаў гэтаго паходу - гарадоў цэнтру, усходу і далёкіх усходніх акраін ні аб'ятнай імперыі. У адным с такіх пунктаў - Казані, давялося і мне пражыць тры годы. Вот аб тым што я бачыў там, ні аб усім, жыцці а толькі аб аднэй з яго старон я і хачу гэта разсказаць.

## П.

М. Казань, у каторым я разам з другімі уцекачамі апыніўся у канцы жніўня 1915 году, - даўнейшая сталіца Казанскага царства - стаіць на левым беразі р.Казанкі, вярсты за 2-3 ад таго мейсца дзе яна дападае да Волгі. Адзін з найстарэйшых Расійскіх унівэрсытэтаў і неколькі іншых выжэйшых школаў, як мушчынскіх, так і жаноцкіх, пяць мушчынскіх і больш як столькі жаноцкіх гімназыяў, дзьве рэяльныя і адна гандлёвая школа, тры тэхнічных, адна агранамічная і шмат ніжэйшых школаў, а так сама школа для прыватных місіянэраў для Сыбіры і Далёкаго Усходу і Праваслаўная Духоўная Акадэмія, робяць Казань праўдзівым цэнтрам асьветы для агромнай тэррыторыі. У горадзе і вакол яго раскідано шмат хвабрык і с паміж іх ёсьць знаныя ва усім прамысло-

вым сьвеце, як напр., хвабрыка мыла, сьвечак, гліцарыны і інш. братоў Крэстовнікових.

Старыя жыхары хваляць свой горад, але нам, уцекачом ён паказаўся інакшым. Места с такой лічбай прасьветных установ, мінаючы ужо жыхароў, якія здаваліся нам дзікаватымі, ні мае выгляду і парадкаў нават нашых далёкіх ад Эўропэйскаго устройства мест.

У горадзе можна заблудзіцца, па прычыне браку нумэрацыі дамоў, ніймення на рагох вуліц дошчэчак з іх назвамі. Па гэтых без'імённых вуліцах спакойна ходзюць сьвінні і іншая жывёла...

Ш.

Дзе-б яно ні было, але прытулак, свой кут, - найважнейшае для чалавека. Але з гэтым нам тут прыйшлося цяжка. Першыя хвалі уцекачоў у Казані адразу пазаймалі усе вольныя умешканні. А за імі прыбывалі ішчэ і ішчэ. Цэны на кватэры шалёна палезьлі у гару. Цэны на хлеб і усякую еду так сама. Найчасьцей без усякаго мення, якое ішчэ можна было-б прадаць, без капейкі грошы у кішэні, людзі нашыя праве памiралі з голаду па колькі дзён і каля яго, - пад алкрытым небам, на холадзе.

С пачаткам гэтай "іммiграцыі" у Казані пачалі алкрываццa камітэты дапамогі уцекачом. Такім чынам поўсталі расійскі, польскі, латышскі, літоўскі і інш. камітэты, але - нішчасьце! ні было каму адчыніць беларускаго камітэту. Па усёй дарозе і тутака людзі розных нацыяў спатыкалі матэр'яльную падмогу і духоўнае падтрымачне ад сваіх братоў, адны беларусы ні дзе ні спатыкалі гэтаго. Ратуючыся ад загібелі ішлі нашыя людзі пісацца у расійскія і польскія камітэты, дзе іх прыймалі ахвотна і, трэба аддаць справядлівасьць, памагалі на роўні з сваімі, але даючы хлеб, забіралі ад іх беларускую душу.

ІУ.

Натуральна, што даючы "свой" хлеб "сваім" людзям, дзеячы польскіх і расійскіх камітэтаў стараліся абгладзіць, дапасаваць да сваіх патрэб, зрабіць больш сваймі уцекачоў беларусаў і гаратліва узяліся падкармліваць іх сваім партыотызмам у дадатак да хлеба. З'явілялася лішні раз і можа найлепшая прaможнасць па свайму заапекавацца над гэтымі нiпрычэсанымі па іхняму "сваімі" людзьмі і яны гэтай прaможнасьці ні абмінулі, а выкарысталі як найлепей.

Хто кемнейшым і спрытнейшым аказаўся пры гэтым, трудна раъшць. Здаецца аднак, што роўна здольнымі былі і расійцы і палякі. Пры гэтым зазначыць трэба, што расійцы у руссыфікацыі аказалі спрытнейшымі у сябе дома, чым будучы у нас. Тамака можна сказаць яны развярнуліся ў ва ўсю шыр. Школы, бурсы, кнігі, уплыў духавенства, гутаркі пры афіцыяльных зносінах з уцекачамі - усё было пушчано у рух. Як-жа, - надавалася "счастливая возможность" зглынуць у "русскомъ морѣ" беларускую крупіцу, ці-ж можна было не абмінуць?

Палякі ні адставалі у гэтым ад сваіх не-прыяцеляў. Ды й ні дзіво, бо для чаго, а для дэнацыяналізацыі так ці іначэй зьвязаных з імі народаў у іх ёсьць свая, старэйшая за рускую мэтода, свая школа. Гэтыя найбольшую увагу зьвярнулі на маладыя пакаленні, бачучы у іх тую сілу, якая возьме жыцце у свае рукі ў нідалёкі час. Старыя беларускія "хлопцы" ні так былі цікавы для іх тым болей, што праз дзяцей найлягчэй перамяніць і бацькоў. Асабліва карыснымі для гэтай мэты аказаліся бурсы паадчыняныя імі для моладзі. У гэтых бурсах маладыя душы моцна зашнуроўваліся у пярэстыя шаты польскаго патрыотызму.

Цэлы год такі стан рэчы панаваў у Казані. Паволі уцекачы беларусы, як моладзь так і старшыя паназвычаіваліся палякаваць і маскаляваць ды пакепліваць с тых хто іщчэ трымаўся свайго. Здавалося, што усё беларускае задушано гэтта і "прыяцелі" маглі-б спраўляць блюзьнерскія памінкі па папаўшай сюды беларушчыне.

Але так здавалося толькі. "Свой край, - свой звычай", жылі у сэрцах уцекачоў і жыцце сваё азнаймлялі нудой па сабе. А раз жыла нуда па родным краі - жыва была душа беларуская. Патрэбны былі толькі людзі, каторыя-б здалелі паказаць ёй дарогу з туману якім акуталі яе "дабрачынцы" с чужых камітэтаў. І такія людзі ў хутцэ з'явіліся.

У.

Скора Беларусы па столькі паказалі сябе, што аб іх пачалі гаварыць і у Казанскім грамадзянстве і у Казанскай прэссе. Пачатак гэтаму сваёй працай палажыў Я.Станкевіч. Апісаць варункі гэтай працы і усё што рабіў гэты шчыра беларускі патрыота трэба-б было многа мейсца. Змучаны днём на вучэнні з салдатамі, ён мусіў вечарам ісьці за пяць верст у горад і ні завеі з гурбамі

сьнегу, ні траскучы мароз ні маглі паўстрымаць яго у лягеры. Ні раз можна было бачыць прапаршчыцкую, усю абвеяную сьнегам, у цяжкіх салдацкіх ботах, пасоўваючуюся позна ноччу у лягеры, хвігуру, - гэта Станкевіч варочаўся з гораду, дзе у якой нібудзь каморацца, у сырым муры і, здаралося, у цемным склепе праводзіў ён вечар, чытаючы нашым селянам - уцекачом кніжкі аб Беларусі, расказуючы аб яе долі, вучачы чытаць старых і малых. Зерняты кіданыя Станкевічам у праўдзівую глебу ні асталіся безплоднымі. Хутка маладыя і старшыя селяне пачалі зьбірацца у гурткі. То там, то сям пачалі адбывацца сходкі. Пачулася патрэба мець сваю кватэру для нацыянальных гуртк•ў, але беднасьць нашых селян ні пазваляла яе здаволіць.

І аднак, дзякуючы усе таму-ж Я.Станкевічу ужо на першым тыдні па Вялікадні у 1917 годзе у новым тэатры беларусы здолелі паставіць сваю вечарыну, якая з аднаго боку павінна была прыцягнуць пад беларускі штандар шырэйшыя колы, а з другога даць матэр'яльныя сродкі для працы. Моральны усьпех вечару быў найпамысльнейшым, матэр'яльна так сама: чыстаго даходу атрымалося 435 рб. с капейкамі.

Далей удалося дастаць дазваленне ад загадчыцы Некрасаўскай бібліотэкі склікаць там сходы, калі чытальня ні будзе занята без уселякай платы, апрача расходаў на электрычнасьць і за вечары сторажу. Дзякуючы гэтаму нам удалося зрабіць нескалькі агульных сходаў. Расійцы бачыўшыя гэтыя сходы ні маглі пасьля надзівіцца. Задзіўляла і будзіла зайздрасьць у іх тая аднаeasьць думак, якая панавала на гэтых сходах. Тутака, праве, нізаметнай рабілася рожніца між багатым і бедным, адукаваным і анальфабэтам, усе былі - беларусы, каторых туга па радзімым пасабрала пад адзін дах парацца аб супольным дзеле - сваей ніщчасьці і нішчасьцях роднай стараны.

Расійцы хутка апамятаваліся ад свайго задзіўлення, калі убачылі да чаго вядуць гэтыя сходы і заварушыліся каля усякіх перашкодаў. Асабліную увагу сваю зьвярнулі яны на "вінавайцу" прабуджэння беларусаў у Казані, арганізатара і кіраўніка усей культурнай працы Я.Станкевіча. Нават прыгражалі сарваць з яго ахвіцэрскія апалеты і каб не страх перад ваенным судом, - напэўне зрабілі-б'гэто. Аднак нялюбы імі "вінавайца" не унываў. Нібавам дзякуючы яго стараниям афіцыяльна адкрыўся у Казані бе-

ларускі гурток пад найменнем "Пралеска", які пад кіраўніцтвам Станкевіча павеў шырокую нацыянальна-культурную працу. На нішчасьце ваенныя павіннасьці Станкевіча, каторы мусіў як ахвіцэр расійскай арміі ісьці на фронт бараніць чужую яму справу, пазбавілі "Пралеску" яе энэргічнага кіраўніка - арганізацыя пачала хірэць і скарачаць сваю чыннасьць...

"Успамінаючы аб гэтым,
Праліваю я душу маю".
(Эха-Раза)

## VI.

Жыццёвай сілы падалі зноў "Пралесцэ" вярнуўшыеся з вакацыяў у Казань вучні В і л е н с к а й школы, каторыя уступіўшы у арганізацыю пачалі гуртаваць каля яе наперш моладзь і бачна прыглядаючыся да усяго беларускага руху паведамлялі аб ім усіх уцекачоў. Іх усілкі рабіліся каб пакіраваць палітычную мысьль уцекачоў у бок уразумення і прызнання ніабходнасьці беларускай дзяржаўнай нізалежнасьці. Венчаў гэтую шчырую працу той наказ дэлегатам на першы беларускі з'езд у Маскве, першым пунктам якога было: н і з а л е ж н а с ь ц ь Б е л а р у с і .

Ні абыйшлося пры гэтым і без перашкод, якія рабіліся ужо ні чужымі, але сваймі людзьмі, рэнэгатамі Беларусшчыны. Сярод іх асабліва адзначыліся Шайновіч з Гродзеншчыны і праваслаўны сьвяшчэннік Тэодоровіч.

Дзякуючы культурна-прасьветнай працы "Пралескі" нацыянальная сьвядомасьць сярод уцекачоў расла з кожным днем. Нарастала патрэба ў нацыянальна-палітычнай арганізацыі, якая павінна была адкрыта змагацца за нізалежнасьць Беларусі. Але для стварэння такой арганізацыі у маладых працаўнікоў "Пралескі" ні ставала адвагі. І вось у гэты пераломны час яны знайшлі падтрыманне хаця і ні доўга ад служачых Менскага аддзялення расійскага дзяржаўнага банку. За іх пачынам 10/XI 1917 году у Некрасаўскай бібліотэце быў склікаины агульны сход усіх беларусаў с тэй ці іншай прычыны папаўшых на жыцце у Казань. Для асьведамлення аб мэ-

ці сходу былі адбіты на шапірографе адозвы і апавешчэння, у якіх гаварылося, што сход склікаецца дзеля стварэння нацыянальна-палітычнай арганізацыі.

Перад назначанай гадзінай досыць уместная заля Некрасаўскай бібліятэкі перапоўнілася народам. Ні глядзя на перапаўненне у залі панаваў найлепшы парадак. Відаць было што людзі адчуваюць урочыстасьць хвілі. Прабіла у канцы і назначаная гадзіна. Адкрыты прамоваю аднаго з арганізатараў, сход афіцыяльна пачаўся. Прапазыцыя адчыніць у Казані аддзел Беларускай Рады шчыра віталася і была прынята адгалосна. Пастанова аб патрэбі стварэння беларускага войска была прынята воплескамі і выклікала у учасьнікаў сходу жаданне злажыць і свае ахвяры на карысць Ц.Вайск. Рады у Менску. Вялікая Рада у Менску прызнавалася адыным правамоцным кіраўнічым нацыянальным органом. Быў выбраны урад паўстаўшэй ад гэтаго сходу Беларускай Казанскай Рады.

УП.

Аднак ніхват людзей здольных да сьвядомай нацыянальна-палітычнай працы тамаваў чыннасьць Казанскай Рады і зрабіў яе меней карыстнай, чым гэто было трэба у той час. Бежанская масса, якая складалася з селянства і дробнаго і сярэдняго чыноўніцтва, мала сьвядомаго нацыянальна і нідасьвядчонаго палітычна, ці магла выдзеліць такіх людзей. Выбраны загадчыкам спраў Рады аг. Жукоўскі ні аказаўся адпаведным свайму становішчу. Разам с тым усілкам шчырых працаўнікоў і добрых беларусаў як гр. гр. Кананові, Арлоўскі, Шакул, Лабука і інш. ніудавалося перамагчы таго індэферэнтызму, які панаваў сярод уцекачоў і выклікаць іх да самадзейнай працы. Усё-ж такі ідэя нізалежнай, дзержаўнай, Беларусі шырылася нікаторымі сябрамі Рады і імі-ж рабілася культурная работа: чыталіся лекцыі і інш.

Але канец і гэтай рабоце палажыў разгон большэвікамі агульна-беларускаго зьезду у Менску. Ішчэ да гэтаго праўда Казанская Рада цярпела ні мала ад большэвікоў і асабліва ад нападак большэвіцкаго правадыра у Казані Грасіса, каторы нацкоўваў на яе цемныя сілы. Натуральна, што у той час, як Менскі большэвіцкі "совнарком" так "рашуча" паступіў са зьездам, рэпрэзэнтоваўшым у с ю Беларусь, Казанская Рада, якая прэдстаўляла нівялічкую (у пароўнанні) группу беларусаў павінна была перастаць існаваць. Так і зрабілося. Рада была зачынена, але беларуская нацыя-

нальная праца Ішла далей, сваім торам.

## УШ.

Пасьля таго, як была праве зачынена Беларуская рада у Казані, аб палітычнай працы у шырокім значэнню гэтаго слова ні надта многа было можна думаць, і усім лепшым сілам краю, закіненым сюды аставалося толькі культурная праца, на якую і была зьвернена уся увага. Новая эра працы вызвала і новых працаунікоу, між каторымі на асабліувую увагу заслужывае жыхар Гродненскай губ. Пружанскаго Пав. Уладыслау Багдановіч. Як тыпічны беларус ён ні любіу ніколі вылазіць наперад і крычаць аб сваей працы, а усе што рабіу, рабіу ціха, старанчыся прынясьці як можна болі карысьці роднай справе і як найменей пахвалы сабе. Ціха і спакойна працавау гэты чалавек ні гонячыся за тым каб гаварыць аб нашых заданях у шумных сходах і дзякуючы гэтай працы многа перш заядлых маскаляфілау, працерлі сабе вочы і сталіся прыкладнымі сынамі роднай бацькаушчыне. У гэтым часе як У.Багдановіч шырыу нашы ідэі між селянамі, дачка яго Ганна Багдановіч шчыра шырыла нашу літэратуру і нацыянальнае пачуцьце паміж тых дзеучат, каторыя вучыліся у гімназіях.

## IX.

Працуючы над нашым культурным адраджэннем с У.Багдановіч і блізкія да яго людзі аднак ні запаміналі і таго што Казанскія беларусы, апрача спынення працы у Казанскім аддзеле Менск. Бел. Рады, больш нічым ні запратэставалі процiу тых зьдзек якія рабіліся камісарамі западнага краю над нашым народам. Скора да гэтага зьявілася падхадзяшчая хвіля. У лютым месяцы паміж Расіяй і Нямеччынай пачаліся пірамовы аб згодзе і Маскоуская Бел. арганізацыя разаслала адозву да усіх беларусау, просячы далучыцца да яе адозвы к дэмократыі усяго сьвету, у каторай яна пратэставала процiу падзелу Беларусі. Адозва гэта спазьнілася і папала у Казань толькі тады калі ужо Троцкі ні падпісаушы умовы выехау з Бярэсьця і такім парадкам у нас быу падхядзячы момэнт злажыць свой пратэст процiу Менскаго "савнаркома". Сход быу склікаты у кватэры Рускаго камітэту помачы уцекачам, што дало магчымасьць пану Тэадаровічу самазванна бяз выбару на тоя, як сябру кіраунiка Рускага камітэту, зрабіцца прэзэсам сходу. Былі унесяны дзьве рэзалюцыі, у першай з каторых, унесянай с. Багдановічам і

іншымі блізкімі да яго людзьмі, быў зложаны пратэст проціў Менскаго "совнаркома" а так сама прасілося каб беларусам па ўсей Расіі вольна было тварыць свае нацыянальныя арганізацыі, а так сама каб Беларусь была прызнана Расійскім урадам самабытнай і нізалежнай дзержавай і каб ей было дадзяно права паслаць на новыя перэгаворы аб згодзе сваіх прэдстаўнікоў. Гэта рэзалюцыя падабалася ўсім селянам, а ні папу Тэадаровічу каторы ні пасароміўся падрабіць галасаванне, каб правясьці рэзалюцыю зусім адваротную тэй, якой патрабавалі жыццёвыя інтарэсы нашаго краю. Пратэсты шчырых беларусаў ні маглі паўстрымаць папа Тэадаровіча ад гэтай подласьці, бо чым жа іншым можна назваць такі паступак.

Так рынулася наша надзея, на тое, што можа нам усёткі удасца далажыць свой голас да пратэсту проціў таго зьдзеку які у нашай роднай старонцэ чынілі над нашымі братамі тыя, каторыя ішлі з штандарам "вольнасьць, роўнасьць і брацтво".

X.

Час бег і памінутна прыносіў да нас усё новыя і новыя весткі і глядзячы на тое, якія яны былі, то смутней, то весялей рабілося у усіх беларусаў на душы. Пачалі скора данасіцца праз газэты ніясныя чуткі аб тым, што узнова ідуць пірамовы між Расіяй і Нямеччынай аб згодзе. Скора гэтыя весткі сталі шчырай праўдай і у ўсіх зрадзілася надзея на тое, што на астанку удасца чагось дачакацца. Цяпер ужо надта мала каго, а закіненых у гэты далекі край нашых селян, цікавіла справа аб тым ў чыю карысьць скончыцца ўсё гэта страшэннае змаганне. Праўда, і без таго было ясна, што Расія мусіць згадзіцца на ўсе варункі, якія будуць дадзяны Нямеччынай, але і гэта мала каго цікавіла.

Змучаных голадам і холадам на чужыне, іх мала абходзіла справа як Нямеччыны так і Расіі. Найбольш, што цікавіла іх, - гэта пытанне ні скора будзе можна паехаць да сваіх хат, ў родную старонку, дзе - як гаворэ наша старая прыказка - "і куст - маці". Ні "дэмакратычная" Расія, ні сеяныя страхі аб немцах, - ні магло заглушыць ахвоты хутчэй вярнуцца у родны край. Па праўдзе і нібыло чаго жалець нашым селянам у Расіі. Прыехаўшы туды, яны, замест абецанаго братэрскаго ім народу, спаткалі зусім чужых людзей, каторыя ні толькі ні сьпяшылі прывітаць іх па братэрску, але, наадварот, стараліся паказаць сябе ўсюды лепшымі, разумнейшымі, зухавацейшымі, ад каторых наш народ спатыкаў на

кожным кроку толькі кпіны з сваёй вопраткі, а сваіх звычаеў і сваей мовы. Асабліва цяжка даставалася нашым людзям за нашу мову. І па праўдзе, яна ніздатна да такой лаянкі як расійская, дзеля чаго мусіць і паказалася расійцам брыдкаю. Адно хто добра у Казані аднасіўся да нашых людзей, то гэта татары.

Змучаныя расійскімі зьдзекамі над усім сабе сьвятым і прывучаныя бараніць і шанаваць усё сваё, яны прыхільна спаткалі нашых братоў. Шчырая ім за гэта належыць падзяка і жаданне як мага хутчэй дачакацца тэй хвіліны, калі ім удасцца скінуць апеку чужынца, і заняць у сьвеце тое мейсцо, якое ім належыць дзеля іх нацыянальнай сьвядомасьці.

## XI.

І бачылі тут нашы людзі хто ім брат, а хто - вораг. Ворагамі нашымі найгоршымі і аказаліся Расійцы. Вызваная вайной дарагжыня і разруха ставіліся у віну бежанцам і ні толькі у кватэрах расійцаў, але і на вуліцах ні раз можна было чуць словы, што як ні было бежанцаў, то усё было танна і усяго было многа, а як панаехала бежанцаў, то усе дзеля гэтаго падаражэло. Ні раз нашым уцекачам прыходзілося дрыжэць за сваё жыццё, бо па гораду пачыналі хадзіць слухі, што маскалі зьбіраюцца выразаць усіх бежанцаў. Пакуль быў цар, то прынамсі хоць было на каго скідаць віну. Тагды гаварылі, што абрусіцельную палітыку вядзе цар і яго сьвіта і што гэтая сьвіта і ён шырэць такія весьці, каб людзі менш у усем вінавацілі вайну. Але хоць скора ністало цара а "б р а т с к о е" аднашенне да нашых людзей ні палепшалося але рабілося горшым. Скора нашых людзей пачалі ужо сыстэматычна байкатаваць. Рабочыя хаўрысы паволі пачалі націскаць на хвабрыкі, каб тыя ні прынімалі на работу уцекачоў, што хвабрыкі мусілі спаўняць. Акцябрская рэвалюцыя ні палепшыла справы нашых уцекачоў. "Братэрство, вольнасьць і роўнасьць" былі толькі для маскалёў але ні для нашых гаротных людзей, за каторых ні было каму ўступіцца, ні толькі што каб памагчы. Беларускаго камітэту помачы уцекачом у Казані стварыць ні удалося і нашы людзі, такім парадкам, былі аддадзены у апеку тых самых расійцаў, каторыя так над імі зьдзекаваліся. Гэты "дэмакратычны" пераварот у Расіі і наступіўшае за ім безрабоцце перш-на-перш ударыў нашых людзей, бо іх, перш за каго, пачалі рабочыя саюзы гдзе мага выкідаць з хвабрык і ні дапускаць станавіцца на рабо-

ту. Слаба памагаўшы да таго часу Расійскі камітэт помачы уцекачом пачаў, што раз то болей, абрэзаць сваю і без таго скупую помач. Цяпер ужо ўсім было відаць, што ні адзін цар любіў зьдзекавацца над нашым народам, а што гэта ён рабіў за згодаю ўсяго Вялікарасійскага народу.

XП.

Клікала я прыяцеляў маіх, –
Яны ашукалі мяне.
(Плач Ерэміі, I 19).

Бачылі гэта нашы людзі і горка станавілася ў іх на душы, але усежткі ні трацілі надзеі што "братскій" народ, апомніцца, але і гэта надзея скора рухнула. Надыйшла весна і пачаў у жыцце прАвадзіцца дэкрэт "зямля ўсім тым, хто на ей сам будзе працаваць". Нашы селяне перастрашаныя лгарскімі весткамі, якія носяцца па Расіі аб нямецкіх "зьдзеках" над нашым краем, думалі так сама скарыстаць з гэтаго дэкрэту і дастаўшы па куску зямлі назаўсёды астацца у "братскай" Расіі. Толькі і тут чакаў іх вялікі смутак. Вясковыя селяне – расійцы – і слухаць ні хацелі, каб уцекачоў надзялялі зямлёй. Ды і гдзеж надзеліваць зямлёй нашых людзей, калі нават общчаство, каторае "мело" многа маёнткаў ані пядзі ніуступало з іх суседняму, хоць тое "ні мело" нават і трох дзісянцін панскай зямлі, якой бы магло нашырыць свае паласы.

Гэтыя варункі застаўлялі нашых людзей усе свае думкі зьвертаць у старану роднаго краю.

Нікому ні хацелося брацца за працу ці распачынаць які небудзь інтэрас. Кожны чакаў толькі той гадзіны, каб як хутчэй паехаць дамоў і кожная вестачка з роднаго краю маланкай абегала нашых гаротнікаў. Тугу па родным краю ні маглі зглушыць фалшаваныя страхі аб тых "антыдэмократычных" парадках якія завялі немцы у нас. Кожны як мага пачаў зьбіраць грошы на дарогу і на тое каб пасьля там, у родным краі, мець на адбудаванне сваей зьнішчанай гаспадаркі. Тыя, хто меў болі адвагі і троху грошы, пачалі рызыкаваць прабрацца дамоў і ужо перад Вялікаднём па новаму стылю выехала цэлая партыя.

На іх усе глядзелі як на дзіво і прасілі пісаць як можна часьцей праве чуць ні с каждай станцыі. Нікаторыя з іх шчыра

споуніл! гэту просьбу і скора пачалі прыходзіць весткі, каторыя і страшылі і разам падавалі надзею, што ўсеткі сяк-так заехаць у родную старонку можна. А ў гэтым як раз часе у камітэт помачы уцекачам адна за другой прыходзілі тэлеграмы каб уцекачам ні пазвалялі ехаць, с той прычыны, што у Оршы, праз якую найбольш ехало уцекачоў, надта трудна дастаць ад нямецкаго ураду пазваленне праехаць і што з гэтай прычыны прыходзіцца чакаць часам нават па два тыдні. Слухі гэтыя скора пацьвярдзілі і лісты адтрыманныя з Воршы і Менску. Гэтым карысталі Расійскія большэвіцкія газэты і усё болі і болі пужалі нашых людзей. Ніраз пужалі нават тым, чаго тут цяпер ні бачу. Але праўду, відаць, кажуць, што міласьць да роднаго краю сільнейшая ад усяго, бо нічога ні магло паўстрымаць хвалі вертаўшыхся да хаты уцекачоў і яна дзень ада дня усе становілася шырэй і шырэй. Найбольш ехалі праз Воршу, Полацк і Дзьвінск, а той факт, што с тых хто паехаў ніварочаўся ніхто назад, дадаваў ахвоты іншым. З гэтай хваляй і я праз Полацк дабраўся дамоў.

УСПОМНІЦЕ ШТО-НЕБУДЗЬ ПРА КАЗАНЬ У ДЗЕНЬ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ПЕРАМОГІ НАД НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ

Адзін казанскі татарын, які з 50-х гадоў працуе на нафтапромыслах у Беларусі, будучы на мусульманскай канферэнцыі сказаў мне са скрухай: "Толькі і чуеш пра тое, што Беларусь-партызанка мужна змагалася з ворагам, што мужнасць беларусаў спрычынілася да перамогі Чырвонай Арміі на Курскай дузе і у Беларускай аперацыі. А можа каб не вобласці, рэспублікі і гарады, дзе "отсиживались" у тыле, далёка ад фронту, то Беларусь і да гэтага часу была б партызанкай. Але, як кажуць, у перамогі ёсць многа бацькоў. Дык раскажыце хоць што-небудзь аб Казані у час вайны. Сам я дакладных звестак не маю, а памяць не вельмі надзейная крыніца, ды і жыў я далёка ад горада, вучыўся ў пачатковай школе. Дык вось што, чытаў я у кнізе "По следам героев", аўтара не памятаю, расказ пра тое, што першым чырвоны сцяг над Рэйхстагам узняў казанскі татарын Газі Загітаў".

Гісторык-татарын, жыхар Казані, знайшоў бы магчымасць расказаць пра ваенную Казань грунтоўна і цікава. Я скарыстаў эн-

цыклапедыю "Великая Отечественная война 1941 - 1945", выданую у 1985 г. у Маскве. Вось што надрукавана пра Казань на старонцы 131:

Сталіца Татарскай АССР. Порт на р. Волга, чыгуначны вузел. Буйны прамысловы і культурны цэнтр Паволжа. Насельніцтва у 1939 г. - 406 тыс. чалавек (у 1983 - 1031 тыс. чалавек). Хімічная, машынабудаўнічая, футравая, гарбарная і тэкстыльная прамысловасць. У 1941 у Казані дзейнічаў шэраг прадпрыемстваў, большасць з якіх на пачатку вайны стала выпускаць ваенную прадукцыю (баявую тэхніку, зброю, боепрыпасы, рыштунак і адзенне, асабліва футравыя і скураныя вырабы, харчовыя прыпасы). У кастрычніку 1941 у Казані створаны Гарадскі камітэт абароны (старшыня - 1-ы сакратар абкама партыі А.М.Алемасаў). Казань стала буйным цэнтрам па прыёму эвакуіраваных з заходніх раёнаў СССР прамысловых прадпрыемстваў і насельніцтва. У горад перавезена абсталяванне каля 70 заводаў і фабрык, якія былі размешчаны, як правіла, на роднасных прадпрыемствах: "Крэнгольмская мануфактура" (баваўняны камбінат з г.Нарва) - на ільнокамбінаце імя У.І.Леніна, маскоўская фабрыка "Дукат" - на тытунёвай фабрыцы, кіеўская фабрыка фотапаперы № 7 і капіравальная - на фабрыцы кінаплёнкі імя В.У.Куйбышава.

Увесну 1942 колькасць жыхароў Казані дасягнула 515 тыс. Працоўныя горада сабралі у Фонд абароны 39 млн.руб. У Казань былі эвакуіраваны установы АН Беларусі, звыш 13 навуковых установаў АН СССР, у тым ліку з Ленінграда. З жніўня 1941 у горадзе працаваў Прэзідыум АН СССР на чале з віцэ-прэзідэнтам О.Ю.Шмідтам і Я.А.Чудаковым. Пры Татарскім абкаме ВКП(б) была створана навукова-тэхнічная камісія (старшыня - О.Ю.Шмідт) па каардынацыі дзейнасці АН СССР у Казані і мясцовых навуковых установаў і прамысловых прадпрыемстваў у рашэнні практычных задач абарончага значэння. У чэрвені 1942 г. у Казані утворана Камісія па мабілізацыі рэсурсаў Паволжа і Прыуралля, у красавіку 1945 адкрыты Казанскі філіял АН СССР. У гады вайны у Казані у розны час жылі і працавалі канструктары В.П.Глушко, С.П.Каралёў, А.М.Тупалеў, пісьменнікі М.І.Алігер, Дз.Бедны, Я.А.Галан, Я.Купала, В.І.Лебедзеў-Кумач, С.Я.Маршак і інш. У Татарскай АССР дзейнічала звыш 50 ваенных шпіталяў (большая частка у Казані), якія вярнулі у строй звыш 300 тыс. воінаў. Валавая прадукцыя прамысловасці Ка-

зані у 1941 - 44 павялічылася у 2,3 разы. У 1949 г. па Арскім могільніку узведзены мемарыял загінуушым воінам, у 1950 устаноулены бюст двойчы Героя Савецкага Саюза М.Г.Сталярова, у 1966 адчынены помнік Герою Савецкага Саюза М.М.Джалілю.

## З УСПАМІНАЎ СЯМЁНА ЯСІНСКАГА. ПРАЦЯГ.

/Гл. пачатак "Байрам" 1994 г., № 2/

У гэтым нумары мы працягваем друкаваць матэрыялы з успамінау Сямёна Давыдавіча Ясінскага, звязаныя з яго асабістым жыццём, а таксама з часам і падзеямі, што закранаюць у той ці іншай ступені жыццё многіх.

Праз два гады пасля пераезду Сямёна Давыдавіча з маці і братам у Беразіно у дом айчыма, пачалася новая старонка яго жыцця: хлопчык пачау наведваць школу. Школ у мястэчку было некалькі, займалі яны невялікія аднапавярховыя дамы. У крыху большых размяшчаліся беларуская і яурэйская школы, польская і руская былі меньшымі. Сямён Давыдавіч вучыуся у беларускай школе. Вучыцца было цяжка, ва усім нястача: навука не надта лезе у галаву на галодны страунік, у школе брудна, сшыткау і алоукау няма. Але у памяці засталося, што настаунікі чым маглі, дапамагалі. Маці настаунічала у вёсцы Слабодка. У вольную хвіліну таксама старалася дапамагчы сыну у вучобе, асабліва у матэматыцы. Айчым не цікавіуся поспехамі пасынка у вучобе: яму патрэбен быу памочнік, сям'я з цяжкасцю зводзіла канцы з канцамі. А недзе у той час, калі Сямён Давыдавіч вучыуся у другім класе, іх ледзь не напаткала бяда. У дом прыйшлі две жанчыны і трое мужчын. Яны агледалі дом і затым быу вынесены прысуд-памілаванне: тут і канфіскоуваць няма чаго. Зараз мы добра разумеем, што гэта быу той самы выпадак, калі хто-небудзь з суседзяу "падказвау" адпаведным органам аб жыцці другіх. Айчым спрабавау выраблять скуры. Гэты занятак быу распаусюджаны сярод татар, рабілася усё тайна. Выраблялу скуры і бацька яго школьнага сябра па 3-4 класе Браніслава Канапацкага. Але ён рабіу гэта у лазні, далей ад людскога вока. Браніслау і Сямён былі аднагодкамі, сем'і сябравалі паміж сабой. У той час у Беразіно было яшчэ 6-7 татарскіх дамоу, яны раз -

мяшчаліся ў асноўным на вуліцы Мінскай, некалькі было на ўскраіне. Акрамя Канапацкіх Сямён Давыдавіч памятае сям'ю Байрашэўскіх. Таксама помніцца, што жылі татары каля калгаснай канюшні, дзе і працавалі рознарабочымі.

Нярэдка ў іх дом прыходзілі да маці за парадай жанчыны з татарскіх сем'яў. На Байрам разносілі салагу. На салагу часцей за ўсё самі выпякалі пячэнне ці булачкі з разынкамі. Гэтыя пачастункі былі самымі чаканымі святочнымі момантамі. Яшчэ пра свята нагадвала адзенне дарослых, у дзяцей жа такога адзення не было.

Акрамя святочных, успамінаюцца і жалобныя дні, дні развітання з суродзічамі. Татар хавалі па-свойму, на пахаванне абавязкова запрашалі тых, хто адпавяў нябожчыка. Сярод умеючых маліцца быў і бацька Браніслава Канапацкага. Жаданне размаўляць з Богам на мове Кур'ана ніколі не пакідала татараў, хоць і рабілася гэта ў той час тайна.

Вызначальнай была і яшчэ адна падзея. Айчым купіў каня на грошы занятыя ў стрыечнага брата. Вучобу ў 3 класе прыйшлося сумяшчаць з працай. Каб адрабіць грошы і мець хоць нейкі прыбытак даводзілася хлопчыку, як бы тому мужычку з пазногцік, выконваць розныя работы зімой і ўлетку. Але трэці і чацвёрты класы школы ўсё ж такі былі скончаны. У пяты айчым не пусціў, хоць маці вельмі хацела, каб сын працягваў вучобу.

У хуткім часе былі адкрыты першыя рамесленныя вучылішчы і школы ФЗО. У рамесленныя вучылішчы бралі з 12-13 год, але Сямён Давыдавіч ужо быў пераросткам і ў 15 год пайшоў вучыцца ў ФЗО на 6 месяцаў. Вучоба ў школе ФЗО дазволіла адарвацца ад цяжкай хатняй працы і нястачы. Тут кармілі 3 разы на дзень, спалі цудоўна. Нават не верылася, што можна так добра жыць, калі страўнік не спяваў галодныя песні, а нават балеў у першы час ад нязвычкі да рэгулярнага харчавання.

Пасля заканчэння вучобы - праца столярам-плотнікам у Магілёве. Заканчвалі класці паркет у Магілёўскім Доме ўраду. У Магілёве і напаткала пятнаццацігадовага Сямёна Ясінскага вайна.

Немцы пачалі бамбіць Магілёў на другі дзень пасля нападу на Савецкі Саюз. Людзі сталі пакідаць горад. Удваіх з сябрам накіраваліся пеша з Магілёва ў Беразіно. Вайна адразу паказала свой жудасны твар. У прамежных Бялынічах Сямён Давыдавіч перажыў цяж-

кае патрасенне. Ён убачыў павешанымі двух хлопчыкаў, амаль дзяцей. У хуткім часе гэтыя першыя ахвяры вайны былі пахаваны з усімі ўшанаваннямі. А на іх месцы вісеў мужчына, але яго труп ужо доўна не здымалі і не хавалі. Гэта быў стараста з мясцовых, які перайшоў на службу да немцаў і каб паказаць сваю адданасць новым уладам назваў хлопчыкаў камсамольцамі, за што іх і пакаралі. Людзі не маглі моўчкі перажыць такі нечалавечы ўчынак. Яны ўзбунтаваліся. З Магілёва было выклікана вялікае нямецкае начальства, якое і вынесла прысуд старасце. Дзікае і незразумелае, непадуладнае звыкламу ўспрыняццю чалавечых учынкаў! За час вайны з падобным прыйдзецца сустракацца часта. А пакуль галоўнае жаданне і неадступная думка - хутчэй дабрацца да сваіх.

З Магілёва да Беразіно 100 км. Ішоў дзень і ноч з невялікімі адпачынкамі. Каб было хутчэй і лягчэй ісці, бацінкі зняў і нёс у руках, пры гэтым не заўважаючы нават, што ногі сцёр да крыві. Але на ногі, таксама на цяжкую стомленасць і боль, пакуль не звярталася ўвага. Усё гэта перавышала ўбачанае: на дарозе і вакол ляжалі забітыя людзі, была раскідана іх маёмасць. Нарэшце Беразіно. Сустрэча з айчымам не была падобнай да ранейшых вельмі стрыманых і нават некалькі абыякавых узаемаадносін. Айчым упершыню абняў і ўпершыню пацалаваў пасынка. Ён цяпер працаваў на лодцы, перавозіў на другі бераг Бярэзіны людзей, таму што новы мост быў далёка, а стары ўжо адслужыў сваё. Новы мост ахоўвалі нашыя салдаты. А праз 2-3 дні, гэта быў канец чэрвеня, Беразіно было захоплена немцамі. Наляцелі самалёты, высадзіўся дэсант, узброены, з запаснымі касэтамі патронаў у ботах.

І з Беразіно пачалі ўцякаць жыхары. Айчым запрэг каня, пагрузіліся і з малодшымі паехалі, канём кіраваў Захар. А старэйшаму айчым сказаў: "Сіма, дагані маму і будзьце разам".

Адступаючая сотая Мінская дывізія пакінула пасля сябе шмат коней. Яны блукалі самі па сабе, стараючыся па паху і па форме адшукаць чырвонаармейцаў. Гэтыя, кавалерыйскія, коні адрозніваліся ад тых, што выкарыстоўваліся ў гаспадарчых работах. Шыі ў іх былі кароткія, таму што авёс і сена елі ў стойлах. Вельмі па-сіроцку выглядалі яны, стаячыя на каленях і скубучыя траву. Аднаго з іх і прыглядзеў Сямён Давыдавіч. Ён стаяў, у зубах былі цуглы, а на спіне сядло. Асядлаўшы каня, паехаў з марай дагнаць маці. У сядле ўпершыню, вецер свішча ў вушах. Так і не заўважыў, як раптам над ім знізіўся нямецкі самалёт, і ўжо кулі

звіняць над ім, а немец так блізка, што бачна, як ён трасе кулаком. Конь з седаком падае на зямлю. Конь забіты, з яго жывата бурбалкамі выцякае вадкасць. Але затрымлівацца няма як, таму што была мэта: дагнаць маму. Пайшоў шукаць другога каня. Сонца ўжо садзілася, калі знайшоў. Сеў на каня, зноў засвісцела ў вушах. У хуткім часе ўехаў у лес. Раптам на дарозе паказаўся наш салдат з параненым на спіне. Каманда: "Стой!" ад нечаканасці напалохала. Толькі спыніўся: як салдат схапіў яго за нагу і сцягнуў з каня. Тут хлопец не вытрымаў, паліліся слёзы і пачаў прасіць-расказваць, што ідзе да маці і каб той не чапаў яго. Але сядло з каня было скінута, конь падведзены пад пень, тяжкапаранены перакінуты цераз каня, сам салдат сеў таксама на каня, а хлопчыку нічога не заставалася, як ісці пеша. Ужо амаль што сцямнела, а ў галаве думка: "Не, вяртацца не буду, пайду да мамы". Хутка прайшоў, ідзе машына, з яе выскоквае афіцэр /з трыма шпаламі на пятліцах, падпалкоўнік/ і пытаецца, як праехаць на Жорнаўку, на карце такая вёска не была азначана. Сеў у кабіну. На машыне, гэта была палутарка, ехаў упершыню. А яшчэ пачаставалі шакаладам, раней на шакалад глядзеў толькі ў магазіне. Забыўся пра усё! І пра самае галоўнае - пра маму. Спакойна пасля перажыванняў заснуў і праспаў Беразіно і тое месца, дзе павінна была быць маці. Мінулі Беразіно, мінулі Жорнаўку. Пеша ішлі салдаты адступаўшай сотай Мінскай дывізіі, трапіўшай у акружэнне. Пехацінцы ішлі без строя, хто з вінтоўкай, а хто і без яе. Адыходзілі толькі ўначы. Страшна было глядзець на іх стомленыя твары. Каля Магілёва адбыўся невялікі бой, дрэнна ўзброеныя нашыя воіны цярпелі страты. Накірунак быў на Тулу, з усімі разам ехаў у невядомае і наш юнак. Астаткі Мінскай дывізіі ўліліся ў другую, размешчаную на ўскраіне Тулы. Перад войскамі стаяла задача - абарона подступаў да Масквы. Забеспячэнне боепрыпасамі тут было добрым, таксама як і абмундзіраваннем. У дывізіі былі свае шаўцы, яны і перашылі форму на юнака, пакінуўшы пятліцы пустымі. Так стаў Сямён Давыдавіч сынам палка. Называлі яго па імені, прозвішча і усё астатняе не пыталі: было не да таго. Вакол быў фронт. Спакою не было ні днём, ні ноччу, немцы спяшаліся здзейсніць свае планы. Днём - кулі, ноччу - ракеты. Здаралася і такое: разведка памылілася і зрашаціла бомбамі другую ўскраіну леса. У канцы 1942 года ў жыцці Сямёна Давыдавіча адбыліся нечаканыя змены. У час прыезду аднаго з высокіх чыноў юнак, да

якога усе ставіліся як да меншага і хутчэй па-дамашняму, чым па-службоваму, не адрэагаваў на генерала і мінуў яго не аддаўшы, як патрабуе таго устаў, належных знакаў увагі. Генерал жа адрэагаваў, звярнуўшыся да капітана: "Что это у вас за детский сад. Немедленно отправить в тыл". Прыйшлося пераканацца, што на вайне няма асабістых пажаданняў, існуе загад. Адпаведна загаду і накіравалі Сямёна Давыдавіча на перасыльны пункт у Чэлябінск, дзе чысціў бульбу і выконваў абавязкі падсобнага рабочага. Але пазнаўшы перадавую, цяжка адсіжвацца ў тыле. У канцы 1942 года пасля чарговай размовы з начальствам з просьбай накіраваць на фронт, яго, яшчэ не прызыўніка па ўзросту, адпраўляюць за Свярдлоўск у Камышоўскія лагеры, дзе фарміраваліся дывізіі. Чарговая дывізія была сфарміравана ў студзені 1943 года. Сямён Давыдавіч, сустрэўшы вайну ў пятнаццацігадовым узросце, праз паўтара года стаў радавым дзеючай арміі. Яму выдалі кажух і баявыя сто грамаў. Ваяваць жа пачынаць прыйшлося гэтаму вельмі яшчэ маладому байцу ў самым пекле: абарона Сталінграда, Сталінградскае кальцо, у раёне горада Калач.

Першае цяжкае выпрабаванне доўга не прымусіла сябе чакаць. Нямецкія войскі пад камандаваннем Манштэйна на танках імкнуліся прарваць абарону. 21-га студзеня завязаўся бой. Нашыя салдаты сядзелі ў акопах, чакаючы загаду. Раптам заглох "Максім". І тут жа загад Сямёну Ясінскаму: "Паўзі па-пластунску!" Спачатку поўз, але хутка падняўся ў поўны рост і пабег. Куля трапіла ў галёнку і прабіла левую нагу наскрозь, ён упаў. Пасланы ўследе другі, больш старэйшы баец, прапаўзаючы каля яго і упэўніўшыся, што жывы, папоўз далей. Кулямёт застракатаў.

Гэта быў першы бой маладога татарына Сямёна Ясінскага. А наперадзе яшчэ 3 гады вайны. Наперадзе Берлін.

(Працяг будзе)

Р.Александровіч

# УДЗЕЛЬНІК ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ РОДАМ З КЛЕЦКА

Напярэдадні вялікага свята - 50-гадовага юбілею перамогі над германскім фашызмам, карэспандэнт "Байрама" звярнуўся да ўдзельніка вайны - клецкага татарына, каб ён расказаў пра свой удзел у вайне. Доктар хімічных навук, аўтар чатырох манаграфій, больш за трох соцень навуковых артыкулаў, каля сотні адкрыццяў Хасень Мустафавіч Александровіч пасля дэмабілізацыі працаваў і вучыўся ў вячэрняй сярэдняй школе (Другая сусветная вайна не дала яму магчымасці вучыцца ў гімназіі), выдатна вучыўся на хімічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, атрымаў дыплом з адзнакай (чырвоны дыплом выдатніка). Займаючыся навуковай працай, Х.М.Александровіч кіраваў навуковымі калектывамі, быў намеснікам дырэктара Інстытута агульнай і неарганічнай хіміі АН Беларусі. Поўны сіл і энергіі ўдзельнік вялікай вайны і вучоны працягвае працу на карысць сваёй Бацькаўшчыны - Беларусі.

"Байрам" друкуе ўспаміны Хасяня Мустафавіча пра вайну.

"У 1939 годзе я скончыў агульнаадукацыйную сямігадовую школу і здаў экзамен для паступлення ў гімназію у Косаў, але вучыцца там не прыйшлося. 17 верасня да нас у Клецк прыйшла Чырвоная Армія. Неўзабаве, праз 21 месяц пачалася Вялікая Айчынная вайна. 26 чэрвеня немцы занялі Клецк. Чырвонаармейцаў было многа, але яны былі дэмаралізаванымі, мала было тэхнікі, артылерыя была на коннай цязе, пяхота не мела транспарту, самалётаў савецкіх мы не бачылі ў небе. Можа ўсё гэта і было раней, толькі, мабыць, тэхніку без паліва прыйшлося знішчыць ці пакінуць. У пехацінцаў на узбраенні была доўгая мосінаўская вінтоўка ўзору 1891 года, удасканаленая ў 1930 годзе. Нямецкая армія выглядала значна лепш забяспечанай зброяй і тэхнікай.

Другая сустрэча з Чырвонай Арміяй у мяне адбылася 4 ліпеня 1944 года, калі ад немцаў быў вызвалены Клецк. 20 ліпеня я сярод іншых быў мабілізаваны ў Чырвоную Армію. Са мною было мабілізавана 16 татар з Татарскай вуліцы і Татарскага завулка. Са зборнага пункта ў Стоўбцах мы былі накіраваны ў запасны артылерыйскі полк у Жабінку, а пасля 3-тыднёвай падрыхтоўкі - ў франтавыя артылерыйскія часці 2-га Беларускага фронту. Мне не давялося ўдзельнічаць у славутых бітвах Вялікай Айчыннай вайны, але гэта не значыць, што мы прайшлі трыумфальным маршам праз Польшчу

(пры вызваленні гэтай краіны страцілі 600 тысяч савецкіх воінаў забітымі), прайшлі Германію і пераможцамі вярнуліся дадому. Ужо ў верасні з нашых 16 татар з Клецка пахаронкі прыйшлі на Аляксандра Бекіравіча Багушэвіча (1910 г. нараджэння) і Адама Сцяпанавіча Якубоўскага (1924 г. нараджэння), а Якуб Ібрагімавіч Жданавіч быў паранены.

Мой шлях у вайну пралягаў праз Жабінку - Белую Падляску - Конін - Гнезна - Франкфурт на Одэры - Потсдам - Берлін у складзе гвардзейскага знішчальна-супроцьтанкавага артылерыйскага палка. Я быў зараджальшчыкам 57-міліметровай супроцьтанкавай гарматы.

У параўнанні з той Чырвонай Арміяй, якая адступала ў 1941 годзе, цяпер армія была зусім іншай, добра ўзброенай. Артылерыя і снарады перавазіліся на механічнай цязе, патронаў і снарадаў не шкадавалі, былі танкі і неба ахоўвалі самалёты. Упартае супраціўленне немцы аказвалі ва Усходняй Прусіі і на Віслe, на Одэры і пад Берлінам і ў самым горадзе. Пасля масіраванай артылерыйскай падрыхтоўкі, якая цягнулася па 2-3 гадзіны, нашы танкісты змагаліся з нямецкай пехотай. Задачай нашай супроцьтанкавай артылерыі было падтрымліваць непасрэдна пяхоту, знішчаць кулямётна-мінамётныя кропкі ворага, замаскіраваныя танкі, бункеры, нават асобных варожых снайпераў. З гэтай задачай мы, маладыя і яшчэ слаба абучаныя, спраўляліся, бо побач з намі былі вопытныя воіны.

На усё жыццё запомніцца мне бітва за Берлін у пачатку мая 1945 г. Сталіца Рэйха усю ноч была ў агні ад разрываў снарадаў (як мы даведаліся пазней - гэта было святло ад многіх соцень пражэктараў, якія сляпілі ворагаў). Гарматныя выбухі, страляніна 8-га мая спачатку здавалася нам спробай прарыву нямецкіх вайсковых частак (такое ў той час было нярэдка). Але гэта быў салют радасці ад таго, што вайна скончылася.

Цяпер нярэдка можна пачуць і прачытаць пра тое, што ў воінскіх часцях бываюць здзекі салдат над тымі, каго прызвалі ў войска, часам бойкі паміж людзьмі рознай нацыянальнасці ці розных абласцей-мясцовасцяў. Я згадваю час вайны, калі ў батарэі нас, навабранцаў, сустрэлі вельмі ветліва, хоць мы і былі з акупаванай тэрыторыі (аб гэтым нам напаміналі чыноўнікі яшчэ на працягу не меней як дваццаць гадоў). У нашай батарэі ў зямлянках побач са мной былі Обухаў з Новасібірска, Калатушкін з Уладзівастока, Макараў з Масквы, Бандарэнка з Палтавы, Лоза з Харкава,

Лісіца з Кіева, Байрамаў і Бакаеў з Баку, я – татарын з Клецка і татарын Абазаў з Астрахані, армянін Саламіф, казах Салыкаў, яўрэй Глінберг, малдаванін Антанеску, грузін Мелікадзе і іншыя.

За ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне ўзнагароджаны Ордэнам Айчыннай вайны 2-й ступені, медалямі "За адвагу", "За ўзяцце Берліна", "За ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне", "За працоўную доблесць" і юбілейнымі медалямі (усяго 10).

## ВЕТЭРАН ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ ФАТЫХАЎ АХМЕТ-САФА ФАТЫХАВІЧ ЖЫВЕ НА БЕЛАРУСІ Ў ГАРАДСКІМ ПАСЁЛКУ КРУПКІ

80 гадоў споўнілася Ахмету Фатыхавічу і 50 гадоў жыве і працуе на Міншчыне. Яшчэ да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ён быў прызваны ў Чырвоную Армію. Усю вайну быў у складзе Ленінградскага фронту, у 14-й паветранай арміі. Не займаючы вялікія пасады, ён рамантаваў тэхніку, робячы неверагоднае, збіраючы з некалькіх сваіх і трафейных машын нешта такое, што магло рухацца і набліжаць дзень перамогі. Успамінае стары воін, як трапілі яны ў акружэнне каля Ладагі, як 12 сутак галадалі і з 27 чалавек у жывых засталося толькі сямёра. Асабісты лічылі, што байцы здрадзілі, невядома дзе блукалі, але калі разабраліся што і як адбылося, то знясіленых, чуць жывых адправілі ў адпачынак у Валагое. Гэта было ў 1942 годзе. Выжыць Ахмету дапамог, відаць Аллаг.

Пасля вайны перавялі Ахмета Фатыхавіча ў 1-ю паветраную армію. Тут ён пазнаёміўся з беларускай дзяўчынай Вольгай Гваздзік з вёскі Ігрушка Крупскага раёна. Яна толькі вярнулася з канцэнтрацыйнага лагера з Германіі і вызвалена была воінамі 1-га Украінскага фронту. Пакахалі яны адзін аднаго, так і застаўся Ахмет з Башкірыі пасля дэмабілізацыі ў 1950 г. жыць на Беларусі. Пасля, ужо калі падраслі два сыны і дачка, ён ім расказваў, што спадабалася яму смуглявая беларусачка Вольга перш за ўсё таму, што здалася падобнай на татарачку.

Пасля дэмабілізацыі як спецыяліст па тэхніцы, а пасля вайны іх было вельмі мала, пачаў Ахмет дапамагаць раёнам рамантаваць сельскагаспадарчую тэхніку. Падрыхтаваў ён шмат вучняў, перадаў ім свой вялікі вопыт слесара, механіка, электразваршчыка.

А таму ведае яго ў раёне і стары і малады. Былі ў яго каштоўныя рацпрапановы, якія адзначаны на ВДНХА у Маскве. І цяпер параіцца да яго заходзяць механізатары і ўладальнікі тэхнікі.

А калі надыходзіць вясна, то сядае ён на свой безадказны мапед і едзе ў лес. Калі прысядзе адпачыць і перакусіць, то пакорміць і птахаў з рукі. Лес на Беларусі багаты і таму да позняй восені работы ў Ахмеда хапае. Працавітасць і лес мо і даюць яму сілы, каб даглядаць за хворай жонкай, якая ляжыць шмат гадоў. Відаць не прайшлі бясследна для яе гады нявол і ў Нямеччыне.

Сыны і дачка прыязджаюць з Менска да бацькоў на кожнае свята, на выхадныя дні, каб дапамагчы бацькам. І можна было б назваць іх жыццё шчаслівым, хоць на долю выпала шмат нягод, каб не забілі іх унука Васіля.

## МАЯ ЗЯМЛЯЧКА І ЯЕ ЛЁС

У 1971 годзе з Азербайджана ў Менск пераехала мая зямлячка Фера-ханум. Хто яна такая і як гэта здарылася?

Нарадзілася яна ў Бахчысараі ў 1919 г. у сям'і Халіля і Аніфы. Пасля таго, як скончыла сем класаў, вучылася ў тэатральным тэхнікуме у Сімферопалі, скончыла яго ў 1937 г. Выступала у розных канцэртах, у піянерскіх лагерах. У 1938 працягвала вучобу ў Баку ў харэаграфічным вучылішчы. У час Вялікай Айчыннай вайны ў Маскве пры Цэнтральным доме афіцэраў былі ўтвораны артыстычныя брыгады для выступлення перад воінамі на франтах. У складзе адной з такіх брыгад Фера Халілаўна выступала ў Вялікіх Луках, Невелі і ў іншых прыфрантавых вайсковых часцях, у шпіталях перад раненымі.

У 1942 годзе, калі Чырвоная Армія была уведзена ў Іран, Фера Халілаўна ў складзе спецыяльнай брыгады выступала на канцэртах перад нашымі воінамі і мясцовым насельніцтвам.

Пасля вайны Фера да 1950 г. працавала ў Азербайджанскім тэатры оперы і балета. Пасля прыйшлося змяніць прафесію. Атрымала фінансавую адукацыю. Па сямейных абставінах з мужам пераехала ў Менск. Узнагароджана медалём "За доблестный труд в период Великой Отечественной войны", іншымі юбілейнымі ўзнагародамі. Да

выхаду на пенсію працавала у 15-м спецбудтрэсце эканамістам. Муж яе - Цемірау Амза - афіцэр, удзельнік абароны Севастопаля, вызвалення Беларусі. За баявыя подзвігі ўзнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі. Памёр Амза і пахаваны у студзені 1992 г. у Менску.

З Ферай я вучыўся да вайны у Сімферопалі. Яна пайшла вучыцца на артыстку, а я скончыў сярэднюю школу і Камвуз у Сімферопалі, затым больш за 30 гадоў служыў у войску, ваяваў. А сустрэўся нечакана з зямлячкай у Менску. Відаць, па волі Аллага сустрэўся я з родным чалавекам далёка ад нашай Бацькаўшчыны.

У цяперашні час Фера Халілаўна наведвае нашы заняткі у Беларускім згуртаванні татарау-мусульман "Аль-Кітаб", дзе бываюць разам з намі яшчэ некалькі крымскіх татар, дзе можна пагаварыць на роднай мове. Па меры сваёй магчымасці Фера-ханум удзельнічае у нашых агульнататарскіх мерапрыемствах. Пажадаем нашай слаўнай супляменніцы бадзёрасці і добрага здароўя.

І.Меметаў

## ДОКТАР ГУЛЬЮЗУМ ХУСАІНАЎНА ХАМІДУЛІНА

Нарадзілася 1 снежня 1922 г. у вёсцы Тат-Багана Чыстапольскага раёна у Татарстане. У сваёй вёсцы скончыла пачатковую школу, а затым вучылася у Чыстапалі. Летам 1936 г. бацька з маці і чацвёра дзяцей пераехалі у Ташкент, бо у Татарыі было вельмі галадна. У Ташкенце я вучылася на рабфаку і у 1939 г. паступіла у Ташкентскі мединстытут. Пасля заканчэння вучобы на 2-ім курсе пачалася Вялікая Айчынная вайна. Каб накіраваць нас у армію дактарамі, заняткі сталі праводзіць па 10 гадзін у суткі. У 1943 годзе увесь наш выпуск ужо у вайсковай форме накіравалі на 3 месяцы на курсы удасканалення. У лістападзе 1943 года мы былі у Маскве у распараджэнні штаба фронту. Адтуль 10 дзяўчат паслалі у шпіталь для лёгка параненых пад Вязьмай, а праз месяц нас трох адклікалі і паслалі у шпіталь № 2751 (быў ён у складзе 2-га Беларускага фронту) урачамі- ардынатарамі. Гэта быў вялікі шпіталь, у якім было 9 аддзяленняў. Працавала спачатку у аддзя-

ленні, куды клалі параненых у ногі, а пасля мяне перавялі ў аддзяленне з цяжкімі раненнямі у грудную клетку. Начальнікам аддзялення была ўрач-траўматолаг з 25-гадовым стажам - Людміла Георгіеўна Ходнева. Яна мяне навучыла ўсяму. Я ужо самастойна магла рабіць аперацыю рэзекцыі рабра з ускрыццём плеўральнай поласці і прамываннем яе антысептычным растворам. Памятаю выпадак, калі у раненага была вырвана частка груднай клеткі разам з рабрынамі і было відаць як б'ецца сэрца. Такіх цяжка параненых пасля аказання магчымай дапамогі мы накіроўвалі у тылавыя шпіталі.

З Калугі наш шпіталь у таварным эшалоне перавезлі у Магілёў. Не даязджаючы да Крычава, наш эшалон затрымалі на 8 гадзін. Калі мы туды даехалі, то ўбачылі вельмі вялікія разбурэнні. Была адрамантавана толькі адна каляя, а побач ляжалі дзесяткі разбітых вагонаў. Пазней нам сказалі, што варожы шпіён паведаміў немцам пра тое, што на станцыі пабольшала саставаў. У Магілёў мы прыбылі на трэці дзень пасля вызвалення горада, нас выгрузілі проста на станцыю пад брызентавы дах (вакзал быў разбураны). У горад не адпускалі, бо сказалі, што многія будынкі яшчэ не размініраваны. Праз трое сутак знайшлі будынак для шпіталя і мы на працягу двух сутак, без сну і адпачынку, прыбіралі, каб можна было прымаць параненых, бо нашы наступалі і параненых было многа. У Магілёве наш шпіталь працаваў да восені, а пасля яго перавезлі у эшалоне у нейкі гарадок, назву якога я ужо не памятаю. Параненыя ляжалі на нарах у два паверхі. Там мы былі каля месяца, а затым аутакалона перавезла наш шпіталь на тэрыторыю Польшчы у невялікі горад, але у горад мы не хадзілі, бо параненыя паступалі ўдзень і ўначы. Толькі памятаецца, што шпіталь быў у 3-павярховых цагляных будынках. Новы 1945 год мы тут і сустракалі, а у лютым нас зноў аўтакалонай перавезлі у нямецкі горад Марыенвердэр (Усходняя Прусія), дзе мы і адзначылі Дзень Перамогі. Але тут працавалі яшчэ да верасня, далечвалі параненых, ды паступалі яшчэ параненыя нашы байцы. Толькі у снежні 1945 года наш шпіталь быў закрыты, а дзяўчат-урачоў, медсясцёр і санітарак дэмабілізавалі.

Вярнуўшыся у Ташкент, я працавала хірургам у паліклініцы. У 1947 выйшла замуж за афіцэра і ён прывёз мяне на Беларусь. Спачатку муж служыў у Антопалі, пасля яго перавялі у Бярозу, там я пасля перападрыхтоўкі урачоў пачала працаваць акулістам і адкрыла кабінет для хворых на вочы і стацыянар на 5 ложкаў. У

1951 годзе увосень мужа перавялі у Івацэвічы і мне прыйшлося аказваць там дапамогу хворым на вочы, а да гэтага у Івацэвічах акуліста не было. У 1959 мы пераехалі у Пінск і жылі там да 1963 года. І у Пінску, і у Баранавічах да 1987 года я працавала акулістам у дзіцячай паліклініцы. У 1972 годзе, пасля паездкі у Маскву на тыдзень у школу перадавога вопыту дзіцячых афтальмолагаў, упершыню на Беларусі дабілася адкрыцця спецыяльнай групы у дзіцячым садку для лячэння касавокіх дзяцей і амбліапіі (слепата ад бяздзейнасці).

Нягледзячы на узрост, я не зачынілася ад жыцця. Бываю у Менску у гасцях у сваёй цудоўнай сяброўкі Капіталіны Іванаўны - выдатнага правізара (нашы мужы-афіцэры сябравалі), бываю на мерапрыемствах "Аль-Кітаба". Тут асабіста ці хоць па тэлефоне пагавару з татарамі на сваёй роднай мове. Памятаю процьму татарскіх вершаў і люблю пець татарскія песні.

## ЖАНЧЫНА-ТАТАРКА - МАЁР ВОЙСКА ПОЛЬСКАГА

У 1915 годзе, у сям'і Джабагі Гірэя Гасана, чэчэнца, журналіста і палітычнага дзеяча і татаркі Гелены з дому Байрашэўскіх, якія былі вельмі багатымі і мелі зямельныя уладанні у Ваўкавыскім павеце, нарадзілася дзяўчынка, якой пры азане далі імя Джанет. Пасля таго, як на Каўказе усталявалася улада камуністаў, Васан Джабагі жыў у эміграцыі у Польшчы, займаўся журналісцкай дзейнасцю, рэдагаваў квартальнік "Пшэглёнд Ісламскі" ("Ісламскі агляд"), які выходзіў у Варшаве і быў шырока вядомы сярод татараў, што жылі у Польшчы.

Джанет (Джанета) расла вельмі энергічнай дзяўчынкай, разам з маці і сваімі сёстрамі Тамарай і Лімай любіла гасцяваць у дзеда Рамазана Крыніцкага, які жыў у татарскай ваколіцы Сандыкаўшчызна каля Ліды. Дзяўчынку з маленства цягнула да вайсковай справы. З 15 гадоў кожны год праводзіла у палявых лагерах. Яе заўважыла кіраўніцтва і накіравала на курсы інструктараў, пасля чаго яна была прызначана камандзірам малодшай адзінкі. Джанеце вельмі пасавала плісаваная спадніца, зялёная блуза і барэт са значком. Яшчэ у малодшай групе яна навучылася метка страляць,

добра арыентавацца па тапаграфічнай карце на мясцовасці. Яна сябравала з дочкамі Пілсудскага - Ядвігай і Вандай.

У даваенны час бацькі выехалі ў Турцыю. Старэйшая сястра выйшла замуж за доктара, Джанеце прапанавалі пасаду інструктара па рабоце з моладдзю і яна паехала з Варшавы ў Гдыню. Перад выездам з Варшавы яна пазнаёмілася з афіцэрам гандлёвага флоту Ежым Скібнеўскім, неўзабаве яны пажаніліся. У Гдыні ў 1938 годзе адчувалася атмасфера ваеннай напружанасці і Джанета атрымала званне паручыка (была ад'ютантам палкоўніка Дэмбка). Пачалася мабілізацыя рэзервістаў. Немцы напалі на Польшчу. Мужна змагаліся з фашыстамі абаронцы Вэстэрплятэ. Гестапа пачало арышты польскіх патрыётаў, сярод якіх былі і татары. Славуты даследчык гісторыі татар, прававед Леон (Арслан) Найман Мірза Крычынскі быў таксама арыштаваны і расстраляны з іншымі інтэлігентамі каля Гдыні.

Джанета ўдзельнічала ў супраціўленні акупантам, яе арыштавалі і павезлі ў Кракаў, але ёй удалося ўцячы і яна дабралася ў Італію. Дзень перамогі Джанета святкавала ў складзе брыгады горных стралкоў. У красавіку 1947 года Джанета з сынам вярнулася ў Польшчу на першым пасляваенным рэйсе польскага парахода "Баторы", які ўсю вайну перавозіў вайсковыя грузы для заходніх саюзнікаў. Сустрэча ў Польшчы з роднымі і знаёмымі была вельмі урачыстая і хвалюючая. Сын тады ёй сказаў: "Мама, ты ўжо ніколі не будзеш вайсковым чалавекам, я буду табе заменай". І, сапраўды, сын стаў палкоўнікам Войска Польскага, служыць у Гдыні.

Мне пашчасціла сустрэцца ў Гдыні з гэтай цудоўнай, разумнай і абаяльнай жанчынай, маёрам запасу Войска Польскага, якая прайшла цяжкія выпрабаванні ў вайне, пачынаючы з Вэстэрплятэ. Яна запрасіла мяне і маю жонку да сябе ў госці. У нас быў з сабою фотаздымак, дзе была сфатаграфіравана 14-гадовая Джанета разам з маці і сёстрамі. Джанета жыла ў пакоі ў добрым пансіёне. Наша сустрэча была вельмі хвалюючай, на вачах былі слёзы радасці. У пакоі пані Джанеты вісела выява герба рода Байрашэўскіх, партрэты бацькі і маці, мугір, на паліцах шмат кніг. На стале былі пачастункі. І галоўнае - гэта яе аповяд пра тое, што перажыта, успаміны пра ваколіцу Сандыкаўшчызна, куды яна прыязджала да дзеда Рамазана, пра ўсю радню Крыніцкіх і Байрашэўскіх, пра свайго бацьку Джабагі, які шмат зрабіў добрага для сваёй радзімы - Чэчні, дзе яго памятаюць і да гэтага часу. Яна

туды ездзіла, на радзіму бацькі, ёй даслалі газеты, дзе быў надрукаваны яго партрэт. Мы разглядалі альбом, успаміналі усіх, каго раскінула вайна. У Турцыі пахаваны бацькі Джанеты, там жыве яе сястра Тамара, у Амерыцы - стрыечныя браты.

Самае запаветнае жаданне Джанеты наведаць Гродна, дзе мае шмат родных, паглядзець на былы дзедаў маёнтак, успомніць свае дзіцячыя гады. Але не здзейснілася мара Джанеты. Па запрашэнні з Чэчні, узяўшы чалавека з кінакамерай, яна паехала у Грозны, каб яшчэ раз паглядзець мясціны, дзе нарадзіўся і дзе змагаўся за свабоду яе бацька - Васан Джабагі. Але адтуль яна ўжо не вярнулася.

У 1992 годзе перастала біцца сэрца жанчыны—татаркі — маёра Войска Польскага, якая ўнесла слаўную старонку у гісторыю адносін татарскага і польскага народаў, якая высока трымала аўтарытэт татарскай нацыі.

Мусульманскі чэчэнскі народ з вялікай пашанай пахаваў татарскую жанчыну на сваёй зямлі. Польскае тэлебачанне паказала аб ёй фільм. Памяць пра Джанет Джабагі-Скібнеўскай надоўга застанецца у нашых сэрцах. Хай будзе ёй чэчэнская зямля пухам, зямля, якая дала жыццё яе бацьку.

Аляксандр Крыніцкі

## ПЕРШЫ ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

Шабановіч Абубекір нарадзіўся 22 лістапада 1939 г. у Іўі Гродзенскай вобласці. Гэта частка сучаснага гарадскога пасёлка Іўя тады называлася ваколіцай Мураўшчына, дзе пражывала больш за паўтысячы татараў-мусульман, была мячэць, якая дзейнічае і цяпер. Бацька Абубекіра - Юх'я (Ях'я) Мацвеевіч, маці - Айша Мустафаўна (з Шабановічаў). У гэтай сям'і нарадзіліся і выгадаваліся хлопчыкі Мустафа і Мацвей, дзяўчынкі Джаміля і Аміня. Пасля завяршэння вучобы у Белдзяржуніверсітэце (па спецыяльнасці гісторык) працаваў на педагагічнай рабоце. У 1969 г. з Саідай Гембіцкай стварыў сям'ю, яны маюць сына, які завяршае вучобу у Медыцынскай акадэміі у Менску. А.Шабановіч з'яўляецца дырэктарам 65-й сярэдняй школы імя Героя Савецкага Саюза Б.С.Акрэсціна. Абубекір Юх'янавіч з'яўляецца Старшынёй асацыяцыі нацыянальна-культурных аб'яднанняў нацыянальных меншасцей Рэспублікі Беларусь, членам Каардынацыйнага Савета па нацыянальных адносінах пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, саветнікам Міністра адукацыі і навукі па пытаннях адукацыі для нацыянальных меншасцей. У 1991 г. на Першым з'ездзе татараў-мусульман Беларусі Шабановіч Абубекір Юх'янавіч выбраны прэзідэнтам, узначальвае Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

Сопат, 8.Ш.1995 г.

Муфцію беларускіх мусульман
Ісмаілу Мустафавічу Александровічу

М е н с к

Салям алейкум,
глыбокапаважаны спадар Муфцій!

Горача віншую з выбарам вас на муфція нашых беларускіх адзінавернікаў!

Гэта вялікая, гістарычная падзея не толькі ў духоўным жыцці мусульман Рэспублікі Беларусь, таму што мы, татары-мусульмане Беларусі, Літвы і Польшчы з'яўляемся адзінаю сям'ёю.

Цэлым сэрцам жадаю вам паспяховага служэння ісламу на землях, на якіх ужо амаль 6 стагоддзяў мы знаходзімся.

Няхай добры Аллаг сцеражэ вас перад усялякімі нягодамі, няхай дарыць добрым здароўем!

Вы распачалі сваю дзейнасць у вельмі складаны, пераменны час, калі пасля заняпаду мусульманскага жыцця ізноў яно адраджаецца. Буду малітвамі і найлепшымі думкамі вам спадарожнічаць на гэтым шляху, тым больш, што вельмі мне дарагая Беларусь, айчына бацькі, Гассана Амуратавіча, ураджэнца Менска.

Непахісна веру у светлую будучыню беларускай нацыі, якой неад'емнай часткай з'яўляюцца татары-мусульмане наднёманскай краіны. Яе шчасце гэта таксама шчасце татарскага грамадства. Таму ваш неацэнны уклад у яго справу будзе адначасова ўкладам у справу Беларусі.

Мой самы нізкі вам паклон!

Муса Гассанавіч Канапацкі

## ГАЗЕТА "БРАСЛАЎСКАЯ ЗВЯЗДА" ПРА БРАСЛАЎСКІХ ТАТАР

"Крыўда мусульман" - так называўся артыкул у адным з мінулых нумароў газеты, у якім расказвалася аб праблемах відзаўскіх татар. Па ўсяму відаць, як цяжка прыходзіцца членам малаколькаснай мусульманскай абшчыны. Дарэчы, у артыкуле яна памылкова названа маладой. Гэта не зусім так, хоць сапраўды зарэгістравана яна ў бягучым годзе. Але, з другога боку, гісторыя татарскай абшчыны ў Відзах сягае сваімі каранямі ўглыб стагоддзяў. Сваё існаванне яна перапыняла ў пасляваенны перыяд па прычыне гвалту з боку таталітарнай савецкай дзяржавы і, як бачна, часова. Абшчына зноў існуе. Татары Відзаў у гэты складаны для краіны час далучыліся да працэсу нацыянальнага і духоўнага адраджэння. І гэтую з'яву трэба ўсяляк вітаць і падтрымліваць.

Шмат што залежыць ад тых, хто зараз пры ўладзе і мае рэальную магчымасць дапамагчы. Могуць запярэчыць, што цяпер на дапамогу звяртаюцца ўсе - і каталікі, і праваслаўныя, і прадстаўнікі розных канфесій. Усім цяжка, усім патрабуецца дапамога, а магчымасці ўлады абмежаваныя. Тым не менш да гэтага выпадку нельга падыходзіць з агульнымі меркамі. Менавіта маленькай мусульманскай абшчыне дапамога найбольш неабходна, і дзяржава, якая нясе маральную адказнасць за разбурэнне святынь, за духоўны заняпад, павінна яе аказаць. Той, хто прымае зараз лёсавызначальнае рашэнне для відзаўскай абшчыны, павінны адчуваць асаблівую адказнасць за свае рашэнні.

Можна прадбачыць, што для многіх жыхароў Браслаўшчыны гісторыя з'яўлення, існавання татарскай абшчыны ў краі з'яўляецца малавядомай старонкай яго гісторыі. Таму хацелася б прапанаваць увазе чытачоў матэрыял аб татарах Браслаўшчыны з раздзела кнігі "Памяць" "Іх аб'яднала зямля Браслаўшчыны". Ён уключае невялікі абагульняючы артыкул і шэраг цікавых дакументальных сведчанняў, звязаных з гісторыяй пражывання татар у краі.

К.Шыдлоўскі

Першыя татарскія пасяленцы пачалі прыбываць і сяліцца ў Вялікім княстве Літоўскім у XIУ ст., у час праўлення Альгерда. Вусная традыцыя татар Беларусі і Літвы, ці як іх называюць лі-

тоўскіх татар, шэраг крыніц сведчыць, што найбольшы наплыў татарскіх перасяленцаў на землі княства адбываўся ў часы Вітаўта (1392-1430). Частку татар прыгналі і рассялялі каля некаторых гарадоў як палонных. Аднак значная частка прыбывала ў краіну добраахвотна, шукаючы паратунку ў час міжусобіц у Крымскім ханстве.

У Вялікім княстве Літоўскім татары пасяляліся ў асноўным кампактна і мала змешваліся з мясцовым насельніцтвам. У ХІУ-ХУ ст.ст. найбольш значныя татарскія пасяленні меліся ў Троках, Вільні, Крэва, Навагрудку, Мінску. У пач. ХУІ ст. агульная колькасць іх у краіне складала каля 4 тысяч, у ХУП ст. - каля 6 тыс. (0,3-0,5 прац. ад агульнай колькасці насельніцтва княства).

Першапачаткова большасць літоўскіх татар адносілася да шляхты, валодала зямельнымі надзеламі. Іх асноўным абавязкам была вайсковая служба. Паводле попісу войска Вялікага княства Літоўскага 1528 г., 544-ы татарскія сям'і выставілі 673-ы вершнікі. З цягам часу значная частка татар страціла зямельныя надзелы, абяднела. Яна занялася агародніцтвам, рамёствамі, найперш гарбарствам. Са шкур коней і коз татары выраблялі першакласныя юфт і саф'ян. Яны лічыліся выдатнымі знаўцамі коней, іх хвароб, спосабаў лячэння. З прычыны таго, што татары не мелі права ўваходзіць у цэхавыя арганізацыі рамеснікаў, яны імкнуліся сяліцца ў невялікіх мястэчках.

Паводле вуснай традыцыі, на Браслаўшчыне татары з'явіліся ў часы Вітаўта, у пачатку ХУ ст., аднак наўрад гэта адпавядае сапраўднасці. Першая дакументальная згадка аб мясцовых татарах адносіцца да 1790 года, калі Браслаўскі павет указваецца сярод паветаў, дзе жывуць татары. Паводле дакументаў, у Троцкім, Лідскім, Навагрудскім, Брэсцкім, Віленскім, Ваўкавыскім і Браслаўскім паветах пражывалі 1952 татары.

Асноўнае месца пражывання татар на Браслаўшчыне - Відзы. Абшчына тут узнікла верагодней за ўсё ў канцы ХУШ ст. як калонія агароднікаў. У 1816 г. арганізуецца відзаўскі магаметанскі прыход, у 1857 г. узводзіцца драўляная мячэць. У 1868 г. налічвалася 243 татары, у 1888 - 239. Татарскае насельніцтва кампактна пражывала ў паўднёва-усходняй частцы мястэчка, у раёне вуліц Татарскай, Старой, Татарскага завулка. Распаўсюджанымі былі прозвішчы Якубоўскія, Гембіцкія, Асановічы, Радкевічы і інш. Дзякуючы мячэці Відзы сталі духоўным цэнтрам для мусульман даво-

лі значнай тэрыторыі, якая ўключала тагачасныя Новааляксандраўскі павет Ковенскай губерніі. Дзісненскі і Свянцянскі паветы Віленскай губерніі.

Увогуле, мячэці на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага пачалі будавацца з ХУІ ст. Да 1795 года ў краіне былі 23 мячэці і 65 малітоўных дамоў, пераважна драўляныя. Дзякуючы рэлігіі і магчымасці групавацца вакол храмаў, літоўскія татары змаглі праз стагоддзі захаваць свае традыцыі, звычаі, здолелі не растварыцца сярод хрысціянскага насельніцтва княства, хаця з часам большасць татар стала карыстацца ў штодзённым жыцці іншымі мовамі, у асноўным беларускай. Менавіта пад уплывам беларускай мовы ўзнікла ўнікальная з'ява - татарскія рэлігійныя кнігі, напісаны арабскімі літарамі па-беларуску.

Святар татарскай мячэці - мула карыстаўся вялізным аўтарытэтам сярод членаў абшчыны. Ён быў не толькі духоўным настаўнікам, але і дарадчыкам, суддзёй у свецкіх справах, вёў метрычныя кнігі. Захаваліся звесткі аб відзаўскіх святарах Якубу Якубоўскаму, Хасану Ільясевічу, Аляксандру Радкевічу.

У гады першай сусветнай вайны мячэць у Відзах была знішчана. І.УП.1923 г. адбыўся агульны сход відзаўскіх татар, на якім было вырашана аднавіць храм. Сход абраў мулой Аляксандра Радкевіча, які выконваў гэтыя абавязкі і перад вайной, прыходскі савет і звярнуўся да ўлад па дапамогу ў аднаўленні мячэці, бо большасць членаў прыходу складалі сем'і беднякоў. Звыш дзесяці гадоў спатрэбілася на аднаўленне мячэці. І5.6.1934 года ва ўрачыстай абстаноўцы храм быў адчынены. Першую службу ў ім правадзіў віленскі муфцій Шынкевіч. Мячэць дзейнічала да канца 40-х гадоў. Пасля яе закрыцця будынак пэўны час выкарыстоўваўся пад гаспадарчыя патрэбы, а потым быў разбураны.

У 1989 годзе ў Браслаўскім раёне налічвалася 94 татары. Акрамя Відзаў, вялікая група іх жыве ў Браславе. У красавіку 1994 г. зарэгістравана аднаўленая мусульманская абшчына, якая складаецца з 40 чалавек.

# ЗВЕСТКІ АБ ВІДЗСКАЙ ТАТАРСКАЙ АБШЧЫНЕ
# З КНІГІ М.ЮСАХА "ВІДЗЫ"

...У Татарскім завулку, у паўднёва-ўсходняй частцы горада, знаходзіцца магаметанская драўляная мячэць, пабудаваная за ўласны кошт мясцовай татара-мумульманскай абшчыны ў 1857 годзе. Па знешняму выгляду мячэць нічым не адрозніваецца ад хрысціянскага храма, толькі на мінарэце ў выглядзе званіцы замест крыжа ўстаноўлены паўмесяц. Інтэр'ер мячэці падзяляецца ўпоперак на дзве часткі крацістай перагародкай. У задняй частцы моляцца жанчыны, а ў пярэдняй - мужчыны. У пярэдняй сцяне гэтай часткі знаходзіцца паглыбленне ў выглядзе нішы, дзе стаіць мула у час малітвы - найбольш пачэснае месца ў мячэці. Справа ад нішы ўздымаецца амвон пад балдахінам, адкуль мула настаўляе мусульман. Пасярод мячэці над жаночым аддзяленнем знаходзяцца хоры, куды часам уздымаецца пеўчы і выкрыквае на арабскай мове нейкія песнапенні, на слых вельмі непрыемныя.

Будынак мячэці заўсёды ўтрымліваецца ўзорна, падлога вымыта ідэальна. Моляцца татары ў панчохах, без абутку, які пакідаюць у пярэдняй. Зімой такіх панчох яны надзяюць па некалькі пар, бо мячэць не ацяпляецца.

Тутэйшыя татары, як і ў іншых месцах, святкуюць пятніцу - дзень стварэння чалавека. Летам праводзіцца ў іх вялікі гадавы фэст Байрам, на які прыязджаюць татары з Новааляксандраўскага, Свянцянскага і Дзісненскага паветаў. Найбольш заможныя з іх ахвяруюць 2-3-х і болей быкоў, якіх забіваюць на пагосце мячэці. Частку быка раздаюць звычайна жабракам, другая разам са шкурай паступае на карысць мулы. Пасля службы знатнейшыя з прыхаджан наведваюцца да мулы на пачастунак, які ўяўляе сабой спажыванне ахвярнага мяса, з якога гатуюць "калдуны" такіх вялізных памераў, што двух штук дастаткова, каб насыціць непераборлівы страўнік. Сам працэс паядання "калдуноў" адбываецца патрыярхальным спосабам, без дапамогі лыжкі ці відэльца.

Такія святочныя пачастункі ў прававерных не абыходзяцца і без выпіўкі. Найболей п'юць віно. Нядзіўна, што свята Байрам амаль заўсёды завяршаецца ў татар бойкаю паміж сабой, прычым няма нікому літасці: сын валтузіць бацьку, бацька сына, брат брата і г.д. Нават жанчыны і тыя бываюць ахвярамі святочных забаў. Толькі ў гэтым і можна дакараць татар, ва ўсім астатнім

народ бездакорных паводзін... Размаўляюць татары на чыстай беларускай мове...

Татары займаюцца пераважна агародніцтвам. На агародах яны ў большасці разводзяць цыбулю, гуркі, буракі, капусту і бручку. Цыбулю і часткова гуркі агароднікі адпраўляюць у суседні г.Дзвінск, астатняя гародніна прадаецца на месцы навакольным і гарадскім жыхарам. Аднак адно толькі агародніцтва не можа быць сродкам для існавання, таму яны вымушаны яшчэ займацца апрацоўкай скур.

## З АДНОСІНЫ ВОЙТА ВІДЗСКАЙ ГМІНЫ ДА НАЧАЛЬНІКА ДРУГОГА РАЁНА БРАСЛАЎСКАГА ПАВЕТА 27 ЧЭРВЕНЯ 1923 г.

Адносна ліста пана Начальніка ад 20.УІ.1923 г. за № 298 па справе магаметанскага прыходу, ніжэйшым паведамляю, што відзаўскі магаметанскі прыход перад вайной ахопліваў тры паветы, менавіта: былы Новааляксандраўскі, Дзісненскі і Свянцянскі з рэзідэнцыяй мулы ў Відзах. Тут знаходзілася драўляная мячэць, зруйнаваная ў час сусветнай вайны, размешчаная ў Мячэтным завулку на плошчы прыблізна ў палову дзесяціны.

Парафіяне з'яўляюцца шляхетнымі літоўскімі татарамі, якія займаюцца гарбарствам і агародніцтвам, іх пляцы размяшчаюцца толькі ў раёне вуліц Татарскай і Старой. Яны людзі ў агульным бедныя, але пачцівыя і сумленныя, у тым ліку і ў жыцці грамадства як гэта шляхце прыстала.

Цяпер у Відзах налічваецца 94 душы магаметан і ў в.Неверанцы Відзаўскай гміны - 5 душ. Што датычыцца іх колькасці і месца жыхарства па іншых гмінах, то дакладных дадзеных не можна здабыць, бо мула, які быў перад вайной - Аляксандр Радкевіч пасля вяртання з Расіі, дзе знаходзіўся ў эвакуацыі, не займае пасады мулы. Па-першае, кнігі і пячаткі былі вывезены ў Сімферопаль, у Расію і зараз там знаходзяцца ў магаметанскага муфція, па-другое, ён не мае прызначэння польскімі ўладамі і таму не адпраўляе функцыі мулы.

Аднаўленне былога магаметанскага прыходу ўяўляецца неабходным з пункту гледжання дзяржаўных і грамадскіх інтарэсаў, бо, па-першае, звыш 200 сем'яў магаметан застаюцца пазбаўлены-

мі сваіх рэлігійных патрэб, па-другое, без наяўнасці метрычных кніг вельмі цяжка выдаваць усялякія даведкі і праводзіць рэгістрацыю.

Частку пляца, які належыў мячэці, самавольна захапіў Сулейман Якубоўскі з мястэчка Рымшаны, бо яго ўласны пляц прымыкае да плаца мячэці. Некаторыя з беззямельных татар пасля разбурэння мячэці хацелі пабудавацца на гэтым пляцы, але перадумалі і цяпер ён незабудаваны.

## ЛЕГЕНДА АБ ПЕРАСЯЛЕННІ ТАТАР З КРЫМА, ЗАПІСАНАЯ АД ЯКУБА ЛЯВОНАВІЧА Ў ВІДЗАХ

Не раз даводзілася мне чуць ад дзеда, а той чуў яшчэ ад свайго дзеда, гісторыю нашага перасялення з Крыма. Было гэта ў пачатку пятнаццатага стагоддзя... Літоўскі князь Вітаўт, не маючы іншых саюзнікаў, прапанаваў татарам выступіць супраць польскага караля. На гэты раз да вайны не дайшло. Спалілі некалькі мястэчак, напалохалі каралеўскае войска, тым справы і скончыліся. Князь Вітаўт быў прызнаны гаспадаром - вялікім князем усёй Літвы. Ён папрасіў татарскага цемніка пасяліць коннікаў у мястэчках для вайсковай службы.

Татар жанілі з мясцовымі дзяўчатамі. З таго часу ў некаторых захаваліся двайныя прозвішчы, як напрыклад, Бут-Гусаінаў. Плакалі красуні, не хацелі выходзіць замуж за "нехрышчоных татарскіх разбойнікаў". Ды воля князя была законам. Князь шчодра плаціў наёмнікам. Не шкадаваў золата, надзяляў зямлёй.

Спачатку татарскія коннікі спраўна неслі службу ў атрадах гвардыі князя. Але па меры заняпаду Вялікага княства Літоўскага татары пачалі займацца гандлем і саматужніцтвам - выраблялі скуры. У гэтым яны былі выдатныя майстры. Вядома, рэлігія адмяжоўвала іх ад мясцовых людзей, і трымаліся яны адасоблена. Але час рабіў сваё, татары паступова асіміляваліся, страцілі сваю мову, набылі мясцовыя імёны. У касцёл або царкву, праўда, не пайшлі, маліліся ў мячэці, чыталі каран.

# ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ

У энцыклапедычным даведніку пад такой назвай мяркуем сярод іншых артыкулаў надрукаваць кароткія даведкі пра кожнае татарскае прозвішча-фамілію (па-латыні *familia* абазначае спадчыннае найменне асобы ў адрозненне ад асабістага імя). Больш за 400 прозвішчаў для гэтага спісу ўзяты з кнігі Станіслава Дзядулевіча, якая была надрукавана ў Вільнюсе ў 1929 годзе (арыгінальная назва *Herbarz rodzin tatarskich w Polsce Stanisław Dziadulewicz Wilno–1929*. У нашым спісе пасля прозвішча стаяць лічбы - гэта нумар старонкі, на якой у кнізе С.Дзядулевіча змешчаны звесткі пра фамілію, калі ўпершыню яна згадвалася ў гістарычных дакументах, хто з гэтай фаміліі вызначыўся, існуе яна ці знікла.

Мяркуем надрукаваць у нашым энцыклапедычным даведніку пра фаміліі тых, якіх пакуль што няма ў гэтым спісе, пра носьбітаў фамілій татарскіх сем'яў, якія прыехалі на Беларусь, у Літву і Польшчу ў гэтым, 20-м стагоддзі. Просім усіх татар дасылаць нам звесткі пра новыя татарскія сем'і, адкуль і калі яны з'явіліся, дзе жывуць.

Будуць таксама ў энцыклапедычным даведніку артыкулы пра асобных людзей, якія вызначыліся выдатнымі справамі на карысць чалавецтва, ці на карысць мусульманскай веры, на карысць татараў. Будуць артыкулы пра людзей без абмежавання іх па веры і нацыянальнасці.

## А

Абазавы-Свяцкія 3, Абдзевічы 4, Абламовічы 5, Абрагімовічы-Юшынскія 6, Абрагімовічы герба Далэнга, гл. Радлiновічы, Абрагімовічы герба Лялiка 6, Абрагімовічы герба Памян 7, Абудавічы 7, Абулевічы 4 і 241, Абунезічы 7, Абуткові 241, Адамовічы 14, Адзыкічавы 17, Азарэвічы 35, Азулевічы або Азюлевічы 36, Айдаравічы 18, Айлясевічы 18. [illegible] 18, Акевічы 244, Акмінскія 241, Александровічы 20, Алеявічы 20, Аліберлавы 22, Алінскія або Аллінскія 22, Альбікевічы 19, Альлукевічы або Альдзюкевічы 19, Алчынавы, гл. Ялаіравы 23, Аляевічы (Алiевічы, Альевічы) 19, Аляеўскія 242, Аляйкевічы 24[illegible], Анджэявічы 23, Анджэеўскія або Анджэявічы 23, Андрысаві-

Б



В



Г



Д



* Блоцкія (гл. у асобным спісе татараў, якія выхрысціліся, 380).

Е, Ж, З



І



К



Л

С



Т



У



Х

# ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ ДЛЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА "ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ"

АЗУЛЕВІЧ Якуб (памёр у 1794 г.). Літоўскі татарын, мусульманін, сын ротмістра Аляксандра Мустафы Азулевіча, уласніка 33 валок зямлі ў Студзянцы ў Бяльскім павеце. Маці Якуба - Феліцыянна з Туган-Барануўскіх. У 1781 г. быў ужо палкоўнікам, камандзірам 2-га татарскага палка уланаў Станіслава Аўгуста. У польска-рускай кампаніі 1792 г. значнай ролі не адыграў. Дзейнасць яго палка, уключанага ў штат каронная войска, абмежавалася маршамі на Мазоўшы і Падляшшы, патруліраваннем і знішчэннем паромаў на р. Буг. У 1793 г. полк Азулевіча быў уключаны ў войска Літоўскага Княства, атрымаў назву 4-га палка Прыгранічнай стражы. У красавіку 1794 г. належыў да тых польскіх камандзіраў на Літве, якія першымі далучыліся да паўстання. Атрымаўшы вестку што Хлявінскі 16 красавіка далучыўся да паўстання ў Шаўлях, Азёлевіч прывёў свой полк у Сакулку Гродзенскага павета для ўзмацнення 2-га палка пяхоты, які там стаяў, а таксама грамадзян гэтага павета, якія выказалі жаданне ўдзельнічаць у паўстанні. У другой палавіне чэрвеня Азулевіч са сваім палком знаходзіўся ў Брэсце і адтуль пасылаў патрулі ў ваколіцы. Патруль пад началам паручыка Азулевіча захапіў 24 чэрвеня ў палон рускую ахову пантонаў, якія плылі па р. Буг. У гэты час палкоўнік Азулевіч злучыўся з корпусам генерала Франкоўскага і разам з ім накіраваўся 2 жніўня да Вільні. У час аблогі Вільні рускімі полк Азулевіча займаў пазіцыю побач з часцямі Франкоўскага каля дарогі на Радунь, на які 11 жніўня накіравана было галоўнае наступленне рускіх. У гэты ж дзень у час атакі мужна змагаючыся Азулевіч быў забіты.

АЛЕКСАНДРОВІЧ Мустафа (15.10.1898, г.Клецк - 22.1.1978), імам Клецкага джаміята ў 1939-53 гадах. Нарадзіўся ў сям'і Юсуфа і Хуршы (з Якубоўскіх), меў братоў Алі і Якуба, сясцёр Аміню, Еву, Фаціму, Мяр'ему. Арабскую пісьменнасць і асновы Ісламу будучы імам вывучаў у свайго бацькі і ў годжыя (мусульманскага настаўніка), вучыўся ў рэальным вучылішчы. У 1922 ён з Айшай (з Александровічаў) утварыў сям'ю, выгадаваў сыноў Адама, Хасяня, Ісмаіла і Якуба. У пачатку 1939 г. імам Клецка-

га джамята Ждановіч Якуб па стану здароўя папрасіў вызваліць яго ад абавязкаў імама. На пасаду імама быў абраны Мустафа Александровіч, а на пасаду мязіма і годжыя быў абраны брат Мустафы - Якуб. Муфтэй Польскіх мусульманаў зацвердзіў вынікі выбараў у Клецкім джаміяце. У 1938 г. Мустафа Александровіч прымаў удзел у рабоце з'езду культурна-асветнага згуртавання татараў, які адбыўся ў Вільні. Пасля Вялікай Айчыннай вайны Мустафа Александровіч і імам Іўеўскага джамята Мустафа Шабановіч наведалі муфтэят мусульман Паволжа, дзе знаёміліся з мусульманскімі справамі тамтэйшых татараў і башкіраў, якім расказалі пра справы вернікаў-мусульман на Беларусі.

Пры Хрушчове ўзмацнілася праследаванне святароў. Пасля таго, як улады аказалі грубы націск на сям'ю імама (яго малодшага сына Якуба, выдатніка вучобы не прымалі на вучобу і толькі значна пазней выдалі яму залаты медаль) М.Александровіч вымушаны быў папрасіць у вернікаў вызваліць яго ад пасады імама. Пахаваны Мустафа Александровіч на Клецкім мізары.

АЛЕКСАНДРОВІЧ Хасень Мустафавіч (нарадзіўся 20.4.1924, г. Клецк), беларускі хімік. Доктар хімічных навук (1970), прафесар (1972). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны ордэнам і медалямі. Скончыў БДУ (1953). З 1959 г. у Інстытуце агульнай і неарганічнай хіміі АН Беларусі. Навуковыя даследаванні па фізіка-хімічных асновах селектыўнай флатацыі сільвініту паверхнева-актыўнымі рэчывамі, тэхналогіі вытворчасці мінеральных угнаенняў з калійных руд Старобінскага радовішча.

АЛЕКСАНДРОВІЧ Якуб Мустафавіч (нарадзіўся 15.1.1934, г.Клецк), беларускі вучоны-эканаміст. Доктар эканамічных навук (1990), прафесар (1991). Скончыў Беларускі інстытут народнай гаспадаркі (1957). У 1961-67 гадах у Інстытуце эканомікі АН Беларусі. З 1958 г. загадчык сектара, з 1981 г. загадчык аддзела эканомікі навукова-даследчага Інстытута Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь. Асноўны кіраўнік навуковай дзейнасці - праблемы рэгіянальнай эканомікі, распрацоўка эканамічных прагнозаў і комплексных праграм.

АНДАРАК, старадаўняе беларускае жаночае паяснос адзенне. Паводле слоўніка Шыпавай слова андарак цюркскага паходжання.

Спадніца з даматканай шарсцяной ці паўшарсцяной тканіны. Характэрная афарбоўка - рознакаляровыя (зялёная, ружовая, сіняя, белая) клеткі ці палосы па чырвоным полі. Андаракі шылі з трох ці шасці полак, прызбораных па вузкім палатняным поясе. На Магілёўшчыне андарак меў прышыўны ліф - кабат, падобны на гарсэт. Як больш цёплую і прыгожую спадніцу андарак насілі і ў святы, у пінска-івацэвіцкім строі абавязкова разам з андаракам галава ўпрыгожвалася наміткай. І ў гэтым выпадку такі строй становіцца вельмі падобным на строй казанскіх татарак.

АХМАТОВІЧ Мустафа (памёр у 1794), літоўскі татарын, шляхціц герба Котвіца, мусульманін, сын Даменіка, уласніка маёнтка Бергалішкі ў Ашмянскім павеце. У маладосці ваяваў з прусакамі ў Сямігадовай вайне ў Саксоніі (1756-1763), пасля ваяваў з рускімі ў складзе барскіх канфедэратаў як камандзір эскадрона ў татарскім палку Беляка. У 1769 як маёр вызначыўся ў бітве корпуса Агінскага з Албічавым пад Бездзежам (6.9.1771). Як маёр быў у 1777 на чыннай службе, у 1785 г. быў у Вайсковай Камісіі Абодвух Народаў, у 1788 як камандзір 4-га палка Пагранічнай стражы на Валыні перашкаджаў вярбоўцы салдат у рускую армію. У званні падпалкоўніка прымаў удзел у літоўскай кампаніі 1792 г. (бітвы і сутычкі: пад Свержанем, Мірам, Зельвай, Ізабелінам, Мсцібовам і Брэстам). Пасля як палкоўнік прымаў удзел у паўстанні 1794 г., з чэрвеня гэтага года (пасля смерці генерала Беляка) узначаліў 4-ы полк Прыгранічнай стражы. Камандаваў палком у бітвах пад Карытніцай 8 кастрычніка і Мацяёўцамі 10 кастрычніка. У гэтай апошняй для яго бітве быў цяжка паранены, ад чаго памёр. Пахаваны на мусульманскім мізары ў Ластаях у Ашмянскім павеце.

АХМАТОВІЧ Мустафа Мурза. Літоўскі татарын, мусульманін, шляхціц герба Ахмат, сын Біляла, ротмістр Войска Літоўскага і Мар'янны з Уланаў, атрымаў у наследства ад маткі маёнтак Бароўшчыну у Кальварыйскім павеце. У 1786 г. быў ротмістрам у 4-м палку Прыгранічнай стражы Вялікага Княства, служыў пад началам генерала Беляка. У час паўстання 1794 г. быў падпалкоўнікам у гэтым палку. У маі гэтага года быў накіраваны ў корпус Беляка, які размяшчаўся у Слоніме, адтуль у Новую Мыш з 3 сотнямі конніцы, дзе пацярпеў паразу ў сутычцы з авангардам рускага корпуса

Цыцынава. У верасні на чале каманды злучыўся з палкам Стафана Грабоўскага і пад яго началам браў удзел у дыверсійным маршы на Беларусь. Пад Любанню 4.9.1394 трапіў у расійскую няволю, у якой знаходзіўся яшчэ ў 1795 г. У 1812 г. Ахматовіч, атрымаўшы дазвол у Генеральнай Канфедэрацыі і генерал-губернатара Літвы Гогендорпа прыступіў разам з капітанам Абрагамам Мурзой Карыцкім і Самуэлем Уланам да стварэння ў Вільні татарскага палка уланаў, часткова за свой кошт. З гэтай мэтай 23.10.1812 абвясціў адозву да літоўскіх татараў, запрашаючы іх да ўступлення ў шэрагі палка. Змог стварыць толькі эскадрон, які складаўся з татараў, які ён узначаліў. Гэты эскадрон быў уключаны Напалёонам у 1-ы полк уланаў польскай гвардыі. У гэты час Ахматовіч абвясціў некалькі глыбока патрыятычных адозваў да "татарскага народа". З жонкай Разаліяй з Даўгялаў меў трох сыноў. Адзін з іх, Бенедыкт, нарадзіўся ў 1788, як паручык 1-га палка уланаў Войска Польскага удзельнічаў у кампаніі 1807-1809 і 1812-1814 гг., а як капітан 7-га палка уланаў Войска Польскага вызначыўся ў вайне 1831 г. (атрымаў залаты крыж за храбрасць).

БАЛАЛАЙКА, струнны шчыпковы музычны інструмент. Паводле слоўніка Шыпавай слова балалайка цюркскага паходжання. Інструмент мае драўляны трохвугольны корпус ("каробку") розных памераў, ручку ("шыйку") з ладамі, колькасць якіх вар'іруецца, 3, 4 або 6 металічных струн. Народныя музыканты пры ігры на балалайцы ўжываюць строі "балалаечны" і "гітарны" ("мінорны"). Асноўны спосаб гуказдабывання - удар па струнах пальцам правай рукі або плектарам зверху ўніз і наадварот. У народнай музыцы выкарыстоўваецца як інструмент сольны і ансамблевы (са скрыпкай; мандалінай; гітарай; гармонікам, скрыпкай і бубнам, дзе балалайка адыгрывае функцыю суправаджэння). Балалайка як акампанемент пры выкананні частушак у паволжскіх татар была запазычана рускімі, а на Беларусь прыйшла ў 18 ст. Асаблівае пашырэнне набыла ў 1920-30-я гады, уваходзіла ў склад многіх аматарскіх аркестраў.

БАРС, драпежная млекакормячая жывёла з сямейства катоў. Паводле слоўніка Шыпавай слова барс цюркскага паходжання. Вядомы гэты звер пад назвай ірбіс, снежны ірбіс (Felis uncia). Нагадвае леапарда. Даўжыня да 130 см, хвост

каля 90 см, маса 40 кг. Доўгая пушыстая поўсць дымчата-шэрага колеру. Па ўсім целе і хвасце раскіданы вялікія кольцападобныя, няясна акрэсленыя цёмна-бурыя або чорныя плямы. Пашыраны барс у Цэнтральнай Азіі, у гарах Казахстана, Кыргызстана, Таджыкістана, рэдка на Алтаі. Жыве ў поясе альпійскіх лугоў, камяністых россыпаў, зімой апускаецца ніжэй, у хвойныя лясы. Нараджае 1-3 дзіцянят. Корміцца горнымі баранамі і козамі, суркамі, мышападобнымі грызунамі і птушкамі. Колькасць барсаў невялікая. У народных паданнях і мастацкіх творах барса надзяляюць незвычайнай смеласцю, спрытам, высакароднымі ўласцівасцямі, які лепш памрэ ад голаду, чым есці мерцвячыну. Нярэдка пісьменнікі ў сваіх творах блытаюць барса з тыграм і леапардам (напрыклад, у паэме М.Ю.Лермантава "Мцыры").

БЕЛАЯ АРДА, Ак-Арда, агульная назва аб'яднання плямёнаў, якія качавалі ў 13-15 стагоддзях на тэрыторыі сучаснага паўднёвага і паўднёва-ўсходняга Казахстана. Аснову Белай Арды заклаў унук Чынгісхана - Арда Ежэн. Спачатку Белая Арда ўваходзіла ў склад улуса Джучы. Пасля смерці Джучы пачаўся раздзел уладанняў паміж яго сынамі. Заснавальнік і правіцель Залатой Арды хан Батый пакінуў сабе правае крыло войска, а левае крыло аддаў Арда-Ежэну і яго чатыром сынам. Такім чынам, вялікая тэрыторыя ад Сырдар'і да Балхаша і землі суседніх плямён і родаў дасталіся Арда-Ежэну. Усходнія граніцы аб'яднання даходзілі да Іртыша і Алтая. Ханская стаўка спачатку размяшчалася каля Алакуля, гэта значыць там, дзе калісьці знаходзілася стаўка Джучы. Ужо першыя пераемнікі Арда-Ежэна на словах прызнавалі сваю залежнасць ад правіцеляў Залатой Арды, аднак вялі незалежную палітыку. З гэтай прычыны ўсходнія гістарычныя дакументы характарызуюць Белую Арду як самастойную дзяржаву, якая была па суседству з Залатой Ардой.

У абстаноўцы абвастрэння міжусобіц паміж Чынгізідамі ў 14 ст. унук Арда-Ежэна Баян зберог большую частку ўлуса, які належыў дзеду. Ён перанёс сталіцу з Балхашскай акругі на Сырдар'ю. Пасля распаду Залатой Арды тут утварылася новая самастойная дзяржава, якой упраўлялі нашчадкі Арда-Ежэна. У склад гэтай дзяржавы ўвайшлі ўся ўсходняя частка Залатой Арды, землі, якія прылягалі да Сырдар'і і Аральскага мора, Цэнтральны Казахстан, тэрыторыя сучаснай Тургайскай вобласці. Сталіцай дзяржавы

стаў г. Сыгнак. Да сярэдзіны 14 ст. гэтае феадальнае аб'яднанне дасягнула значнага развіцця. Пры Урусхане і Тахтамышу яна яшчэ больш узмацнілася. З 1428 г. дзяржавай правіў хан Абулахаір. У час праўлення Джаныбека (з 50-х гадоў 15 ст.) Белая Арда стала палітычнай асновай казахскай абшчыны.

БУСЕЛ, птушка атрада галянастых. Паводле слоўніка Шыпавай слова бусел цюркскага паходжання. Найбольш пашыраны на Беларусі белы бусел, якога называюць таксама бацян, буцян, чарнагуз (*Ciconia ciconia*) вельмі рэдка, толькі ў лясах трапляецца і занесены ў Чырвоную Кнігу Беларусі чорны бусел (*Ciconia nigra*). Белы бусел водзіцца таксама ў краінах Сярэдняй і Паўднёвай Еўропы, Паўночна-Заходняй Афрыцы, Заходняй і Усходняй Азіі. Зімуюць нашы буслы ў Паўднёвай і Цэнтральнай Афрыцы. Прылятаюць у пачатку красавіка, адлятаюць у вырай у 2-й палавіне жніўня. Даўжыня птушкі 110 см, размах крылаў да 225 см. Апярэнне белае з чорным на крылах. Ногі доўгія, чырвонага ці аранжавага колеру. Гняздуецца на высокіх дрэвах, раней - на стрэхах гумнаў, на іншых будынках. Нясуць 2-5, часам 6 яек. Птушаняты выводзяцца ў канцы мая - пачатку чэрвеня. Корміцца жабамі, чарвякамі, насякомымі, мышамі, якіх збірае на лугах, балотах, каля рэк.

На Беларусі спрадвеку да буслоў адносяцца з пашанай. Калі вясной дзяўчына ўбачыць бусла ў палёце, то ў гэтым годзе выйдзе замуж. Для дзяцей бацькі кажуць, каб яны не крыўдзілі буслоў, бо яны не прынясуць ім ні сястрычку, ні брацiка. Вялікае задавальненне выклікае гледзішча, калі буслы вучаць сваіх дзяцей лётаць. Пры набліжэнні восені буслы збіраюцца ў чароды, часам як бы пасля нарады пакідаюць адну птушку і не бяруць з сабою. Тады людзі імкнуцца як-небудзь дапамагчы птушцы перазімаваць. Выхаваўчае значэнне бусел мае яшчэ і ў тым, што ён абавязкова вяртаецца з выраю на сваю радзіму. Асушэнне балот, розныя хімічныя рэчывы адмоўна адбіваюцца на жыцці буслоў і колькасць іх на Беларусі малее.

ДЗЯДУЛЕВІЧЫ (раней Дзедулевічы) герба Сакола. Паходзяць з Заволжа, запісаны ў Уланскую харугву. Іх заснавальнікам быў Дзядуллаг, які жыў у сярэдзіне 15 ст. і па-беларуску называўся Дзядуля, сына якога Ахмэця Дзедуліна называе ў 1489-1500 Літоўская Метрыка як "Конюха Его Каралеўскай Міласці". Сы-

нам Ахмэця быў Такташ, запісаны ў 1528 у ліку казакаў з Ласосны, унук жа яго – Эліяш, у 1559 уласнік часткі маёнтка ў Ласосне, занатаваны ў перапісе за 1567.

Рэвізія татарскіх уладанняў у 1631 г. называе нашчадкаў Дзедулы – Мусу і Мухаррэма. Сынам аднаго з іх быў Януш Дзедуліч, у 1658 г. таварыш адной з татарскіх харугваў (Барынскай). Далейшыя нашчадкі яго – Амурат, у 1747 г. таварыш у татарскім каралеўскім палку. Паводле сямейнай гісторыі гэты Амурат, які пабраўся з каталічкай і выхрысціўся, узяў імя Бонавэнтура і памяняў прозвішча на Дзедулевіч. Унук яго Ян, салдат Касцюшкі, пераселіўся пад Мар'ямпаль, дзе купіў маёнтачак Скуды. Будучы ў войску Напалеона ў бітве пад Мажайскам быў паранены і аслеп, дажываў свой век у Скудах. Перад гродзенскай дэпутацыяй засведчыў своё шляхецкае (дваранскае) паходжанне з гербам Сакола. Сын яго і Ганны Карчэўскай – Пётр, запісаны ў метрыцы памылкова Дзядулевіч, замест Дзедулевіч, першы стаў карыстацца спольшчаным прозвішчам. З жонкай Веранікай Міляноўскай нарадзіў сыноў Баніфацага і Раймунда. Баніфацы быў капітанам у час паўстання ў 1863 г., а пасля вызначыўся вялікімі заслугамі ў галіне педагогікі ў Каралеўстве Польскім. З жонкай Юзэфай Непшэцкай нарадзіў сыноў Станіслава і Вацлава, дачку Яніну (па мужу Каплінська). Станіслаў, гісторык і геральдык, прафесар дзяржаўнай гімназіі ў Варшаве, зрабіў выдатную навуковую працу – "Гербаж родзін татарскіх в Польсцэ", які быў надрукаваны ў Вільні ў 1929 годзе (у 1986 г. рэпрынтна надрукаваны ў Варшаве). У Станіслава Дзядулевіча і яго жонкі Тэадоры з Сэсрадзінскіх быў сын Багдан, доктар медыцыны, і ўнук Станіслаў.

ЖДАНОВІЧ Якуб (нарадзіўся 10.2.1924 г. у г.Клецк ), імам Клецкага джаміята. Бацька яго Ждановіч Ібрагім, поўны Георгіеўскі кавалер, маці – Мяр'ема (з Александровічаў). Арабскую пісьменнасць і асновы Ісламу пачаў вывучаць з 5-гадовага ўзросту ў мусульманскай школцы, затым на ўроках рэлігіі ў Клецкай агульнаадукацыйнай школе. Пасля вызвалення Клецка ў 1944 г. Чырвонай Арміяй быў мабілізаваны і пасля кароткачасовай вайсковай падрыхтоўкі накіраваны на фронт. Быў паранены, пасля шпіталя як інвалід Вялікай Айчыннай вайны вярнуўся дадому. З жонкай Тамарай (з Александровічаў) выгадаваў дачок Амінію і Эльміру, сына Алі. Працаваў у Доме Культуры. Пасля таго, як імам Клецкага джаміята

Бекір Александровіч у 1955 г. па стану здароўя адказаўся ад пасады, абавязкі імама стаў выконваць Якуб Ждановіч. Пад пастаяннай пагрозай звальнення з казённай працы, стратай заробкаў - адзінага сродка для існавання сям'і, пад пагрозай пазбаўлення пенсіі ён выконваў абавязкі: хаваў памерлых мусульман, даваў шлюб маладым, азаніў нованароджаных, вучыў мусульманскіх дзяцей арабскай грамаце і асновам Ісламу. З падзеннем таталітарнага рэжыму і выхадам на пенсію імам Якуб Ждановіч абавязкі мусульманскага святара выконвае з годнасцю і адкрыта, з'яўляецца па палажэнні членам Рады ўлемаў мусульман Беларусі.

КАРАСЬ, прэснаводная рыба сямейства карпавых. Паводле слоўніка Шыпавай слова карась цюркскага паходжання. На Беларусі вядомы два віды карася - карась залаты, або звычайны ( *Carassius carassius* ) і карась сярэбраны ( *Carassius auratus* ). Аб'ект промыслу, сажалкавай і азёрнай рыбагадоўлі. Даўжыня цела да 45 см. Маса 1-3 кг. У вельмі забалочаных сажалках і азёрах трапляюцца карлікавыя экземпляры карася (4-5 см), якія здольны размнажацца. У карася залатога спіна цёмна-карычневая, бакі жоўта-залацістыя, плаўнікі чырванаватыя, бруха светлае. Карась сярэбраны больш светлы, серабрысты. Полавая спеласць настае на 2-5 годзе жыцця. Ікру адкладае порцыямі ў маі-чэрвені. Корміцца насякомымі, іх лічынкамі і іншымі дробнымі беспазваночнымі, водарасцямі. На зіму закопваецца ў іл. Ад карася сярэбранага выведзены акварыумныя рыбы: тэлескоп, вуалехвост і інш.

КАТЫНЬ, мясцовасць у Расійскай Федэрацыі, за 20 км на захад ад Смаленска. У лесе каля Катыні ў красавіку-маі 1940 г. было забіта каля 4400 палонных польскіх афіцэраў з лагера ў Казельску, якія былі інтэрніраваны ўвосень 1939 г. Чырвонай Арміяй. Злачынства было зроблена НКУС, выяўлена нямецкімі акупацыйнымі ўладамі (паведамленне 13.4.1943 г.) і стала прадметам даследавання Міжнароднай юрыдычнай медыцынскай камісіі, якая зідэнтыфікавала целы 4253 ахвяр. Сярод забітых у Катыні і іншых месцах загубы грамадзян Польшчы былі і татары-мусульмане. Хадайніцтва польскага ўрада аб даручэнні гэтай справы для разгляду Міжнародным Чырвоным Крыжам у Жэневе было выкарыстана ўрадам СССР для спынення адносін СССР з урадам Польшчы (26.4.1943 г.), а адказнасць за гэтае злачынства Савецкі ўрад р.стлумачыў нямец-

кай правакацыяй. З пазіцый СССР у гэтым пакорна і маўкліва згадзіўся ( ухваліў ) урад Польскай Народнай Рэспублікі. У красавіку 1990 г. ўрад СССР прызнаў адказнасць НКУС за смерць каля 15 тыс. польскіх афіцэраў і работнікаў цывільных устаноў, якіх савецкія ўлады трымалі ў 1939-40 гадах у лагерах Казельска, Асташкава і Старабельска. У лістападзе 1990 г. вайсковай пракуратурай СССР распачата следства для выяўлення абставін гэтага злачынства.

КЕНСКІЯ, Мінькевічы-Кенскія, герба Радван. Прозвішча ад маёнтка Кена ці Кена-Кадышэвічы ў Віленскім павеце. З гэтага роду князь Мінкевіч Абрагім Алеевіч Кенскі 20.II.1619 г. прызначаны віленскім (найманскім) харунжым, удзельнічаў у паходзе супроць турак у 1621 г.; адхілены ад пасады ў сувязі з прысудам да пакарання - баніцыі (выгнання з радзімы) 27.8.1640 г. Пазней атрымаў прывілей на аднаўленне звання па суду; вёў працэс са сваім пераемнікам у 1642-1644 гадах, але ўрэшце прайграў. У 17-18 стагоддзях гэта сям'я валодала тым жа маёнткам. 8.6.1817 г. Кенскія даказалі дваранства з гербам Радван і княжацкім тытулам у Віленскай губерні, але Герольдыя тытул не прызнала. Яшчэ адна сям'я князёў Кенскіх валодала тым жа маёнткам; з іх князь Фурс Тактамышавіч Кенскі упамінаецца ў рэвізіі татарскіх маёнткаў у 1559 г. У 1631 г. часткай Кены-Кадышэвічаў валодалі яго праўнукі, якія каля 1676 г. разам з іншымі татарамі эмігрыравалі ў Турцыю. Магчыма, у сваяцтве з адной з гэтых сем'яў татарскі род Кенскіх, які даказаў сваё дваранства ў Падольскай губерні без тытула і без указання герба 4.6.1819 г. Іх продкі разам з іншымі татарамі перасяліліся з Вялікага Княства Літоўскага ў сярэдзіне 17 ст. Прозвішча Кенскі часам ужывала татарская шляхецкая сям'я Муха (Мурза-Муха), якая даказала дваранства з гербам Кена ў Каралеўстве Польскім, а таксама ў Гродзенскай губерні.

МАРДЖАНІ МЯЧЭЦЬ, у Казані, на вуліцы К.Насыры, 17. Пабудавана ў 1771 г. паводле ўказа імператрыцы Кацярыны II пасля наведання ёю Казані ў 1761 г. Сродкі на будаўніцтва мячэці сабралі татарскія купцы Казані. Спачатку мячэць называлі Эфендзі (Панская), у далейшым - Юнусаўская у гонар купца, асноўнага фундатара мячэці, затым мячэць называлі Першай прыходскай і, нарэш-

це, мячэцью Марджані, у якой імамам у другой палове XIX ст. быў славуты татарскі асветнік Ш.Марджані.

Мячэць размешчана ў паўднёвай частцы горада, у Старой Татарскай слабадзе каля возера Ніжні Кабан. Знешні выгляд мячэці, нягледзячы на перабудовы, выклікае захапленне гарманічнасцю прапорцый, вытанчанасцю і багаццем дэкору фасадаў. Стромкі дах прыцягвае позірк да імкліва ўзнятага вышынёй да 30 м мінарэта, завершанага паўмесяцам на залатым "яблыку".

Двухпавярховы цагляны будынак першапачаткова ўяўляў сабою прамавугольны ў плане (30х13 м) з паўкруглым выступам міхраба на паўднёвым тарцы. На І-м паверсе пакой для вучобы (медрэсе),складскія памяшканні, на другім паверсе - вестыбюль, малельныя залы, міхраб. Васьмігранны мінарэт абапіраецца на ўнутраную сцяну, у тоўшчы якой зроблена лесвіца наверх.

У праектаванні мячэці бралі ўдзел рускія і татарскія архітэктары. На працягу 19-20 стагоддзяў мячэць неаднаразова гарэла і перабудоўвалася. У 1860 г. будынак падоўжылі ў выніку прыбудовы з паўночна-усходняга блоку цаглянай лесвічнай клеткі.

Існуе легенда, чаму татарам дазволілі пабудаваць такі высокі мінарэт, што ён пераўзыходзіць вышыню купалаў цэркваў. "Калі справа дайшла да ўзвядзення мінарэта, - пісаў у адным з рукапісаў Каюм Насыры, - гарадскія ўлады, занепакоеныя яго вышынёй, напісалі Кацярыне II: "Ты хоць і дала мусульманам дазвол на пабудову мячэці, але яны будуюць вельмі высока". На гэта царыца адказала так: "Я вызначыла ім месца на зямлі, а ў неба яны могуць падымацца па сваіх меркаваннях, таму што неба не з'яўляецца маім уладаннем".

МАРДЖАНІ Шыгабутдзін (16.I.1818 - 1898), славуты татарскі вучоны. Шыгабутдзін ібн Субхан ібн Абд ал-Карым ал-Казані ал-Марджані нарадзіўся ў сяле Ябынчы цяперашняга Арскага раёна Татарстана. Ганаровае прозвішча ал-Марджані ўтворана ад назвы вёскі Марджані, адкуль ідуць карані яго радаслоўнай.

Дзед і бацька Марджані былі настаўнікамі сельскага медрэсе. Пачатковую адукацыю Марджані атрымаў у медрэсе свайго бацькі ў вёсцы Ташкічу, дзе з 17 гадоў настаўнічаў сам. Паводле традыцыі таго часу ён быў у 1838 г. з папутным караванам адпраўлены ў Бухару для ўдасканалення ў навуцы. У Бухары займаўся ў медрэсе "Кукельташ" і "Мірараб", шмат працаваў у бібліятэках. Шмат гадоў

Марджані вучыўся ў Самаркандзе ў найлепшым медрэсе таго часу "Шырдар", займаўся ў бібліятэках і на пражыццё зарабляў настаўніцтвам і перапіскай кніг. У Самаркандзе ён пазнаёміўся з працамі выдатных мусульманскіх вучоных і паэтаў 10-12 ст. Вялікі ўплыў на Марджані зрабіў знаёмы яму гісторык Абу Саід ас-Самаркандзі. За 11 гадоў вучобы і працы ў Сярэдняй Азіі ён сабраў вялікую колькасць кніг і выпісак з прац вучоных і пісьменнікаў. Пасля вяртання на радзіму 6.3.1850 г. быў прызначаны імамам 1-й Казанскай мячэці і галоўным настаўнікам медрэсе пры гэтай мячэці. Марджані прапагандаваў прагрэсіўныя метады навучання дзяцей і моладзі, што выклікала ўпартае супраціўленне кансерватыўных мусульманскіх святароў і Марджані двойчы (1854 г. і 1874 г.) адхілялі ад пасады імама. Праваслаўны місіянер Ільмінскі зрабіў усё магчымае, каб перашкодзіць Марджані стаць муфтэям. Марджані асуджаў задушэнне нацыянальных свабод царскім самадзяржаўем. Ён спачуваў вызваленчай барацьбе народаў Паўночнага Каўказа на чале з Шамілем супроць царызму.

Марджані разумеў розніцу паміж царызмам і прадстаўнікамі перадавой рускай культуры. Вучоны быў прыхільнікам вывучэння татарамі рускай мовы і еўрапейскай культуры. Марджані быў знаёмы з выдатнымі рускімі і замежнымі вучонымі-гісторыкамі і філолагамі, прымаў удзел у Таварыстве археалогіі, гісторыі і этнаграфіі пры Казанскім універсітэце. Марджані актыўна ўдзельнічаў у рабоце 4-га Усерасійскага з'езда археолагаў, які адбыўся ў 1877 г. у Казані, дзе выступаў са спецыяльным дакладам па гісторыі Булгара і Казані. Гэта быў першы выпадак выступлення татарскага вучонага на Усерасійскім навуковым форуме.

З 1876 да 1884 г. Марджані быў выкладчыкам веравучэння ў Казанскай руска-татарскай настаўніцкай школе, адкрытай для падрыхтоўкі настаўнікаў рускай мовы. У 1880 годзе ён накіраваўся ў паломніцтва ў святыя гарады мусульман – Мекку і Медыну. Марджані гэта паломніцтва скарыстаў як магчымасць атрымаць новыя веды, бываў у бібліятэках і музеях. Духоўная спадчына Марджані і ўплыў яго на сучаснікаў і паслядоўнікаў мела вялікае значэнне для татар. Пасля сябе ён пакінуў больш за 30 прац па гісторыі, філасофіі, логіцы, мусульманскаму праву і іншых дысцыплінах. Больш за палавіну яго прац былі надрукаваны ў Казані, астатняя частка засталася ў выглядзе рукапісаў у розных кнігасховішчах былога СССР і краін мусульманскага Усходу. З прычыны таго, што мовай навукі

і рэлігіі у татар была арабская мова (свайго роду латынь Усходу), то напісаны яго працы (акрамя дзьвух) і чакаюць свайго вывучэння і перакладу. З прац вучонага вылучаюць кнігу "Назурат ал-хакк..." ("Агляд ісціны..."). Гэта - філасофская праца, якая зрабіла Марджані вядомым ва ўсім мусульманскім свеце. Высока была ацэнена праца Марджані па гісторыі татарскага народа ("Мустафад ал-ахбар..."). Гэту кнігу на думку рускіх вучоных таго часу варта было перакласці не толькі на рускую, але і на заходнееўрапейскія мовы.

Найбольшая праца вучонага, над якой ён працаваў усё жыццё, - бія-бібліяграфічны слоўнік "Вафіййат ал-аслаф ва тах іййат ал-ахлаф" ("Поўныя звесткі пра жыццё продкаў і запавет нашчадкам"), які ўтрымлівае у сабе біяграфіі выдатных гістарычных асоб у свеце Ісламу з 633 да 1885 года. Слоўнік уяўляе сабою 6 рукапісных тамоў, напісаных па-арабску. Аб'ём яго - больш за 4 тыс. старонак, у ім 6057 біяграфій. Гэты слоўнік перакладзены на татарскую мову і будзе надрукаваны.

НЕКРАШУНСКАЯ ДЖАМІЯ, Некрашунская мячэць, існавала да 1950-х гадоў у в. Некрашунцы Воранаўскага раёна Гродзенскай вобл., за 6 км на захад ад гар. пасёлка Радунь па дарозе на в. Нача. У Некрашунцах 25 двароў.

Драўляная джамія належала да самых старадаўніх у Беларуска-Літоўскім гаспадарстве, заснавана была у часы Вітаўта Вялікага, у 1415 годзе. Паводле Кердзей перапісу татараў (1628-1631) тут паблізу жылі Суліманавіч Абдул і Муртозіч Юсуф, якія належалі да Уланскага харунжаства і дзве сям'і Юшынскага харунжаства. У 1832 г. было 7 татарскіх сямей, якія мелі сваю зямлю у Некрашунцах: Адамовічы, Алееўскія, Мусічы, Сулевічы, Юшынскія, Якубоўскія. Архіўныя матэрыялы за XIX ст. у 1906-1907 годзе адвезены ў муфтэят у Сімферопаль, магчыма зберагліся да гэтага часу. Паводле архіўных звестак вядома, што у пачатку ХУШ ст. джамія была адрамантавана, ці збудавана занова. У 1832 г. імамам быў Суліманавіч Юсуф, мязімом- Якубоўскі Мустафа. Годжыем быў Александровіч Давыд з вёскі Таўсюны. У час Першай сусветнай вайны у час баёў у верасні 1915 г. ваколіца і джамія згарэлі (паводле звестак М.Шымялевіча). З дапамогай Польскай дзяржавы і на складкі мусульман Некрашунская джамія была адбудавана. У

1938 г. джамiят налiчвау 348 чалавек. Джамiя разбурана па загаду камунiстычнай улады.

ПЕРШАЯ СУСВЕТНАЯ ВАЙНА 1914-1918, вайна, якая ахапiла 38 дзяржау, 29 млн. чалавек у дзейнай армii, 74 млн. чалавек пастауленых пад ружжо. Праглынула 10 млн. жыццяу людзей i здароуе 20 млн. чалавек - параненых, атручаных газамi i пакалечаных. Вайна вялася памiж кааліцыямi дзяржау германа-аустрыйскага блоку i Антанты, адносiны якiх абвастрылiся у вынiку барацьбы за сферы уплыву, крынiцы сыравiны, сусветнае панаванне. Найбольшыя супярэчнасцi былi памiж Вялiкабрытанiяй i Германiяй.

15 (28).7.1914 г. Аустра-Венгрыя выкарыстала у якасцi зачэпкi Сараеускае забойства сербскiмi нацыяналiстамi наследнiка аустра-венгерскага трону эрц-герцага Франца-Фердынанда. Пад уздзеяннем Германii Аустра-Венгрыя абвясцiла вайну Сербii. 19 лiпеня (1 жнiуня) Германiя абвясцiла вайну Расii. 21 лiпеня (3 жнiуня) Францыi, 22 лiпеня (4 жнiуня) Вялiкабрытанiя абвясцiла вайну Германii. 10 (23).8.1914 г. на баку Антанты уступiла у вайну Японiя. У першыя месяцы вайны пацярпелi правал разлiкi германскага камандавання на разгром i вывад з вайны Францыi, чаму садзейнiчала наступленне рускiх войск ва Усходняй Прусii (паспяховае на першым этапе Усходне-Пруская аперацыя 1914 г. завяршылася цяжкай паразай рускай армii). У жнiунi-верасні 1914 г. руская армiя у Галiцыйскай бiтве разбiла аустра-венгерскую армiю i авалодала большай часткай Галiцыi, а у кастрычнiку у ходзе Варшауска-Iвангародскай аперацыi адбiла контрнаступленне аустра-венгерскiх войск у Польшчы. 16 (29).10.1914 на баку германскага блоку уступiла у вайну Турцыя. Утварылiся франты у Закауказзi, Месапатамii, на усходняй граніцы Сiрыi i Палесцiны. Турэцкая армiя у лiстападзе 1914 - студзенi 1915 гг. пацярпела паразу ад рускiх войск у Закауказзi. У 1915 г. з 268 дывiзiй германскага блоку 107 знаходзiлася на рускiм фронце. Руская армiя, адступаючы, пакiнула Галiцыю, Польшчу, частку Прыбалтыкi. 10 (23).5.1915 г. да Антанты далучылася Iталiя, 1 (14).10.1915 г. на бок германа-аустрыйскага блоку выступiла Балгарыя. У 1915 г. Германii не удалося пры дапамозе неабмежаванай вайны з выкарыстаннем падводных лодак паралiзаваць англiйскi флот i задушыць Вялiкабрытанiю голадам i астаноукай прадпрыемствау з-за адсутнасцi сыравiны.

У 1916 г. спроба Германіі прарваць французскі фронт у раёне Вердэна, які стабілізаваўся з лістапада 1914 г., правалілася ў немалой ступені дзякуючы таму, што руская армія пачала наступленне ў Галіцыі. 14 (27).8.1916 г. на баку Антанты выступіла Румынія, але напрыканцы года румынская армія была разбіта (тады каб закрыць фронт Расія паслала сваю армію, якая ў значнай ступені складалася з беларусаў і татар). У красавіку-траўні 1917 англа-французскія арміі правод зілі наступальныя аперацыі, якія, аднак, поспеху не мелі.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Часовы ўрад спрабаваў падняць патрыятычны ўздым у краіне для вайны за перамогу над Германіяй. Сталі ствараццa вайсковыя часткі па нацыянальнаму прынцыпу (у тым ліку мусульманскі корпус пад началам генерал-лейтэнанта беларускага татарына Мацея Сулькевіча), але знясілены народ не хацеў ваяваць, ды і бальшавіцкая агітацыя на франтах дала свой плён. З перамогай Кастрычніцкай рэвалюцыі Савецкі ўрад звярнуўся да ўсіх ваюючых дзяржаў з прапановай аб заключэнні міру без анексій і кантрыбуцый. Гэты заклік быў адкінуты Антантай і ЗША. У гэтых умовах Савецкая дзяржава вымушана была пайсці на заключэнне цяжкага для сябе Брэсцкага міру.

На Заходнім фронце, дзе з мая 1918 г. пачалі дзейнічаць амерыканскія арміі (ЗША ўступілі ў вайну ў красавіку 1917), ваенныя падзеі завяршыліся поўнай паразай Германіі і яе саюзнікаў. 29.9.1918 г. капітулявала Балгарыя. 30 кастрычніка - Турцыя, 3 лістапада - Аўстра-Венгрыя. Канчатковыя ўмовы мірных дамоваў з Германіяй і яе саюзнікамі былі выпрацаваны на Парыжскай мірнай канферэнцыі 1919-1920 гг.

Вайна закранула ў той ці іншай ступені амаль 85% насельніцтва Зямлі. Знясілены цяжкай працай і недаяданнем людзі станавіліся лёгкай здабычай рознага роду эпідэмічных хвароб. У выніку эпідэміі грыпу ("іспанкі") у час вайны і пасля яе памерла амаль 10 млн. чалавек. Найбольш пацярпелі ад гэтай вайны народы былой Расійскай імперыі і Германіі (прыйшлося плаціць кантрыбуцыю краінам-пераможцам).

Не абмінула і татараў Першая сусветная вайна. Многія з іх былі на чыннай вайсковай службе, астатнія мужчыны прызыўнога ўзросту былі мабілізаваныя ў расійскую армію. Не ўтваралі татары асобных вайсковых адзінак, а ваявалі на розных франтах руска-германскага, руска-аўстрыйскага, некаторыя руска-турэцкага фронту.

У першы год вайны ваенныя дзеянні не вяліся на тэрыторыі, дзе жылі татары, але ўжо з верасня 1915 г. пачаліся ўпартыя баі паміж адступаючымі расейскімі і наступаючымі германскімі арміямі. Цягнуліся гэтыя баі да канца кастрычніка гэтага года і ахапілі большасць мясцовасцяў, дзе пражывалі татары. Асабліва напружаным было становішча у Слонімскім і Ваўкавыскім паветах Гродзенскай губерні, пасля чаго баявыя дзеянні перанесліся на тэрыторыі суседніх губерняў, дзе найбольш закранулі Баранавіцкі, Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі, Слуцкі і Пінскі паветы. Насельніцтва, якое там пражывала, панесла незалечныя страты у выніку баёў, як і пры эвакуацыі мястэчак, вёсак і засценкаў, калі руская армія пакідала пры адступленні "выпаленую зямлю".

З пачаткам вайны грамадскасць Расіі арганізоўвала дабрачынныя камітэты, якія аказвалі дапамогу пацярпелым ад вайны, параненым воінам, якія лячыліся у шпіталях. Татары таксама стварылі Варшаўскае мусульманскае згуртаванне аказання дапамогі бедным мусульманам, а таксама Згуртаванне татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны, якое акрамя дабрачыннай займалася таксама і палітычнай дзейнасцю. Сярод тых, хто выехаў у Расію у эвакуацыю былі і татары. Многія з іх апынуліся у Таўрычаскай губерні (у Крыме), у Казанскай, Уфімскай губернях, у Перадкаўказзі і Заходняй Сібіры. Там, акрамя дзяржаўнай дапамогі эвакуіраваным, у каго былі воіны, дапамогу аказвалі мусульманскія камітэты дабрачыннай дапамогі ўсім мусульманам. Пасля завяршэння Першай сусветнай вайны, калі пачалася грамадзянская вайна у Расіі, неўраджай і вялікі голад на Паволжы, татары ўсімі сіламі імкнуліся на свае родныя землі, хоць там засталіся толькі папялішчы іх хат і мячэцяў.

Тыя татары, якія засталіся пад нямецкай акупацыяй, адчулі тыя ж цяжкасці і нястачы, што і іншыя акупаваныя народнасці. Іх прымушалі працаваць на розных, у тым ліку і на земляных абарончых работах, высялялі з дамоў, якія займалі германскія салдаты, некаторых маладых людзей вывозілі на прымусовыя работы у Германію.

Некаторыя германскія і аўстра-венгерскія вучоныя афіцэры цікавіліся татарамі як экзатычным народам, знаёміліся з татарскімі Кітабамі, апублікавалі некалькі навуковых артыкулаў. Гэты спарадычны інтарэс не уплываў ні у якім разе на змену становішча татараў і праз увесь час татары неслі падобныя страты, як

і іншыя жыхары, якія жылі з імі па суседству - беларусы, палякі, яўрэі. Найбольшая страта татар у Першай сусветнай вайне - гэта падзел аднаго народа на тры часткі - беларускую, літоўскую і польскую, якія на працягу дзесяцігоддзяў не мелі права падтрымліваць паміж сабою нават паштовую сувязь.

ПЕРШЫ ЎСЕПОЛЬСКІ МУСУЛЬМАНСКІ КАНГРЭС, распачаўся 31.I.1938г. Удзельнікі кангрэса ў Вільні накіраваліся на могільнік Росы, каб ушанаваць памяць Юзафа Пілсудскага, а пасля абеду распачалася праца ў зале кіраўніцтва Віленскай школьнай акругі. Прыбыла 38 дэлегатаў і група запрошаных гасцей на чале з віленскім ваяводам Людвікам Бацяньскім. Універсітэт імя Стафана Батуры прадстаўляў прафесар Мюлер. Агульнае кіраўніцтва работай кангрэса па прапанове муфтэя прыняў на сябе Альгерд Крычыньскі. У першай частцы кангрэса з прамовамі выступілі Якуб Шынкевіч і ваявода Бацяньскі. У сваіх прамовах яны адзначылі вялікае значэнне таго факта, што ўрад ухваліў стварэнне мусульманскага аб'яднання. Ваявода згадаў, што прайшло ўжо больш за 500 гадоў, як Польшча мае сувязі з татарамі. Яго прамова была горача сустрэта і завяршылася выкананнем Дзяржаўнага гімна ўсімі прысутнымі.

У другой частцы кангрэса адбыліся выбары пры дапамозе бюлетэняў Найвышэйшай Мусульманскай Калегіі. Абранымі былі імамы Алі Варановіч і Аляксандр Крыніцкі і як свецкія асобы Альгерд Крычыньскі і былы заступнік муфтэя Якуб Рамановіч. Іх заступнікамі былі абраны імамы Ях'я Міськевіч і Люцыян Мухля, а таксама свецкія асобы Канстанты Мурза-Мурзіч і Стафан-Мустафа Рамановіч.

На наступны дзень праца працягвалася. Адбылася таксама сустрэча дэлегатаў Культурна-асветнага згуртавання татараў Рэчы Паспалітай (польскае скарачэнне ЗКОТРП), зроблены аналіз дасягненняў і грамадска-культурнай працы. Такое абмеркаванне было зусім заканамерным, бо дэлегаты кангрэса прадстаўлялі адначасова джаміяты і мясцовыя аддзелы культурна-асветніцкага згуртавання. Пасля завяршэння паседжанняў дэлегаты кангрэса спаткаліся на банкеце ў рэстаране Еўрапейскага гатэля.

Падтрымка мусульманамі гэтага кангрэса была прадыктавана неабходнасцю ажыўлення ў рэлігійным жыцці і культурна-асветніцкай працы. Разлічвалі, што Муфтэят і Найвышэйшая Мусульманская Калегія дачыніцца да ўвядзення аднастайнасці рэлігійнай практыкі і пакладуць канец разыходжанням, якія яшчэ існавалі паміж джаміятамі.

САБЕІ, ас-Сабийа, Сабіі, адна з катэгорый Ахл ал-Кітаб і Ахл аз-Зімма, рэлігійная абшчына, якая займала прамежкавае становішча паміж вернікамі і язычнікамі і карысталася некаторай апекай у мусульманскай абшчыны. У Кур'ане сабеі згадваюцца радзей, чым іудзеі і хрысціяне, але таксама ў якасці людзей, якія будуць узнагароджаны Аллагам і аддзелены ад язычнікаў, бо верылі ў Бога і Судны Дзень і жылі богабойна (Кур'ан, Сура 2, аят 63 - "Сапраўды, і вернікі, і іудзеі, і хрысціяне і сабеі - усе сярод іх, якія сапраўды вераць у Бога і Судны Дзень і чыняць дабро, - атрымаюць узнагароду ад Бога і не пазнаюць яны ні страху, ні скрухі"; Сура 5, аят 73 - "Тых, хто ўвераваў і тых, хто трымаецца іудаізму, і хрысціяне, і сабеі, усе, хто ўвераваў у Бога і Судны Дзень, і на зямлі чыніць дабро, чакае (шчодрая) узнагарода ў Бога, на іх не ляжа страх, скруха іх не абцяжарыць"; Сура 22, аят 18 - "Што ж датычыцца тых, якія вераць, і іудзеяў, і сабеяў, і хрысціян, і магаў (зораастрыйцаў), і язычнікаў, сапраўды, Бог рассудзіць паміж імі ў Дзень Уваскрошання, бо Бог ёсць сведка на ўсім, што існуе"). Каментатары Кур'ана лічаць, што сабеі былі нейкія іудзея-хрысціянская секта. Тэрмін сабеі тлумачыцца звычайна як вавілона-арамейскі СБ - "хрысціць". Хутчэй за ўсё гаворка ідзе пра секту, блізкую да іракскіх мандэяў, або проста пра іх. Існуе меркаванне, што Кур'ан тут называе аравійскіх ханіфаў.

ХУДЗЯКОЎ Міхаіл Георгіевіч (3.9.1894, г.Малмыж, цяпер у Кіраўскай вобл. - 19.12.1936, Ленінград), рускі савецкі гісторык. Нарадзіўся ў сям'і купца, пачатковую адукацыю атрымаў у родным горадзе. Пасля таго, як скончыў І-ую Казанскую гімназію, вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Казанскага універсітэта (1913-1918). У далейшым яго дзейнасць была звязана з Усходнім педагагічным інстытутам Казані, дзе праводзіў заняткі па гісторыі і этнаграфіі народаў Паволжа і Урала. У 20-х гадах апублікаваў шэраг гісторыка-этнаграфічных даследаванняў па мінуламу народаў рэгіёна, як цюркскіх, так і фіна-ўгорскіх. У тыя ж гады Худзякоў прымае актыўны ўдзел у арганізацыі музеяў у Казані, родным Малмыжы, у дзейнасці Таварыства археалогіі, гісторыі і этнаграфіі пры Казанскім універсітэце, Навуковым таварыстве татаразнаўства. У 1928-29 вучыўся ў аспірантуре ў Ленінградзе, пасля працаваў у Інстытуце гісторыі матэрыяльнай культуры АН СССР, дзе працягваў займацца праблемамі гісторыі і культуры на-

родаў Паволжа і Урала. У 1936 г. быў зацверджаны ў ступені доктара гістарычных навук.

Першыя працы Худзякова, прысвечаныя побыту і звычкам татар, былі напісаны яшчэ ў студэнцкія гады. Гэта "Матэрыялы па гісторыі татар Малмыжскага павета" (2915, Працы вучоных арх. камісіі), "Старадаўнасць Мамлыжскага павета. Ч. VI.- Татары" (Там жа, 1917). З абагульняючых прац вылучаюцца кнігі "Мусульманская культура ў Сярэднім Паволжы" (Казань, 1922) і "Нарысы па гісторыі Казанскага ханства" (Казань, 1923), з якіх "Нарысы..." былі першым сістэматызаваным грунтоўным даследаваннем па гісторыі названай дзяржавы. Для Худзякова характэрна паважлівыя адносіны да мінулага і сучаснасці тых народаў, норавы, побыт і гісторыю якіх ён вывучаў. У верасні 1936 г. М.Худзякоў быў арыштаваны як "вораг народа", абвінавачаны ў "трацкізме" і прысуджаны да расстрэлу, што і было выканана 19 снежня таго ж года. Рэабілітаваны ў 1957 г., хоць працы працягвалі замоўчвацца і пазней. У 1990 г. у Казані рэпрынтна ўзноўлена кніга М.Худзякова "Нарысы па гісторыі Казанскага ханства", у якой змешчаны нарыс М.А.Усманава пра Міхаіла Худзякова і яго працу.

ЧУВАШСКАЯ МОВА, мова чувашоў, карэннага насельніцтва Чувашыі, а таксама насельніцтва сумежных рэспублік і абласцей. Належыць да булгарскай групы цюркскіх моў. Пісьменнасць з 18 ст. У чувашскай мове вылучаюцца 2 дыялекты: верхавы і нізавы (аснова літаратурнай мовы). Верхавы дыялект - вір'ял называюць окаючым, а нізавы - антары - укаючым, якія ў сваю чаргу яшчэ падзяляюцца на гаворкі. Фанетычныя асаблівасці чувашскай мовы: адносна доўгія галосныя "а", "е", "ы", "і", "у", "ў" супрацьпастаўлены кароткім "ӑ", "ӗ". Зычныя "р", "л" адпавядаюць цюркскім "з", "ш". Для фанетычнай сістэмы чувашскай мовы характэрныя з'явы ратацызму (чувашскае хер 'дзяўчына' ~ агульнацюркскае кыз) і ламбдаізму (чувашскае хӗл 'зіма' ~ агульнацюркскае кыш). У марфалогіі своеасаблівы паказчык множнага ліку - сем замест агульнацюркскага -лар (юлташсем 'таварышы'), поўная і кароткая форма колькасных лічэбнікаў (імкӗ 'два', але 'іккӗ сын сын 'два чалавекі'), форма мінулага часу -нӑ / - нӗ, аднолькавы паказчык давальнага і вінавальнага склону -а /-е, -на/ -не і інш. Не супадаюць з агульнацюркскімі большасць указальных займеннікаў (ку 'гэты', лешӗ 'той' і інш.), а таксама асабова-зваротныя займеннікі ад асновы

ха. У лексіцы значны пласт запазычанняў з іншых цюркскіх моў, а таксама з мангольскай, фіна-угорскіх, іранскіх, арабскай і рускай моў.

Першая граматыка чувашскай мовы была выдадзена ў 1769 г. У 18 – першай палавіне 19 стагоддзяў паяўляюцца слоўнікі, пераклады на чувашскую мову царкоўна-рэлігійнай літаратуры, запісы ўзораў фальклору. Спачатку чувашская пісьменнасць карысталася рускай графічнай сістэмай, затым у 1871 г. чувашскі асветнік І.Якаўлеў стварыў чувашскі алфавіт на аснове лацінскай графікі, якім карысталіся да 1933 г.

ЧУВАШСКАЯ РЭСПУБЛІКА, Чувашыя , рэспубліка ў складзе Расійскай Федэрацыі. Плошча 18,3 тыс.кв.км. Насельніцтва 1336 тыс. чалавек (1989 г.). Сталіца Чэбаксары (420 тыс. жыхароў, 1989 г.). Размешчана рэспубліка ў сярэднім цячэнні Волгі, тэрыторыя пераважна раўнінная. Правябярэжжа Волгі – паўночная частка Прыволжскага ўзвышша (Чувашскае плато вышынёй да 266 м). Заволжа – нізінная раўніна. Карысныя выкапні: гаручыя сланцы, фасфарыты, торф, мінеральныя будаўнічыя матэрыялы. Клімат умерана кантынентальны. Сярэдняя тэмпература паветра ў студзені – 13°C, ліпеня – + 19°C. Ападкаў 450 мм за год. Вегетацыйны перыяд 180 дзён. Галоўная рака Волга з прытокамі Сура, Цывіль. Глебы пераважна дзярнова-падзолістыя, шэрыя лясныя і вышчалачаныя чарназёмы. Пад лесам (хвоя, елка, бяроза, вольха, дуб, ліпа) траціна тэрыторыі. На поўдні лесастэп.

Жывуць у Чувашыі чувашы (68% насельніцтва), рускія, татары, мардва і іншыя. Сярэдняя шчыльнасць 72 чалавек на 1 кв. км. Гарадское насельніцтва складае 58%. Акрамя сталіцы значнымі гарадамі з'яўляюцца Алатыр, Канаш, Новачэбаксарск, Шумерля.

Тэрыторыя Чувашыі заселена з ранняга палеаліту. У канцы 1-га тысячагоддзя да н.э. – пачатку 1-га тысячагоддзя н.э. тут жылі фіна-угорскія плямёны п'янаборскай і пазнагарадзецкай культур; складваліся этнічныя групы і саюзы плямён. У 2 стагоддзі н.э. цюркамоўныя продкі чувашоў разам з гунскімі плямёнамі перасяліліся з Цэнтральнай Азіі ў нізоўі Волгі і на Паўночны Каўказ, дзе былі вядомы як булгары і савіры (сувары, сувазі). У 7–9 ст. частка іх перасялілася ў Сярэдняе Паволжа і стварыла саюз булгарскіх плямён, а ў пачатку 10 ст. – дзяржаву Булгарыю. У 1236 г. тэрыторыя Чувашыі заваявана мангола-татарамі, залежала ад Залатой Арды; з

утварэнием Казанскага ханства (1438) – у яго складзе. У выніку асіміляцыі булгарамі і сувязямі мясцовых фіна-угорскіх плямён да канца 15 ст. склалася чувашская народнасць. У сярэдзіне 16 ст. чувашы далучаны да Рускай дзяржавы. На тэрыторыі Чувашыі заснаваны Алатыр (1552), Чэбаксары (1555), Цывільск (1584), Ядрын (1590). У 16 – пачатку 18 ст. чувашы плацілі Рускай дзяржаве вялікі падатак (ясак). У 16–17 ст. лепшыя землі Чувашыі аддадзены рускім баярам, памешчыкам і духавенству. У 1-й чвэрці 18 ст. чувашскія сяляне прыпісаны да катэгорыі дзяржаўных (у канцы 18 ст. частка іх перайшла да ўдзельнага ведамства). У 40–50-я гады 18 ст. праведзена гвалтоўнае хрышчэнне чувашоў, якія да гэтага былі язычнікамі. Феадальны і нацыянальны прыгнёт няраз выклікаў паўстанні чувашоў. Яны ўдзельнічалі ў сялянскіх войнах пад кіраўніцтвам І.І.Балотнікава (1606–1607), С.Ц.Разіна (1670–71), Е.І.Пугачова (1773–75). Масавыя выступленні сялян Ядрынскага Казьмадзям'янскага паветаў выклікала рэформа кіравання дзяржаўнымі сялянамі (1837–41). Пры адмене прыгоннага права ў 1861 г. у сялян Чувашыі адрэзана 22% лепшых зямель, што выклікала хваляванні, найбольш значныя ў Цывільскім, Курмашскім і Чэбаксарскім паветах. Пасля буржуазных рэформ 60-х гадоў 19 ст. у Чувашыі развіваюцца прамысловасць і гандаль.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з лістапада 1917 да мая 1918 г. усюды ўстаноўлена савецкая ўлада. За гады даваенных пяцігодак у Чувашыі развівалася буйная прамысловасць, калектывізавана сельская гаспадарка, ліквідавана непісьменнасць. За гераізм у Айчыннай вайне больш за 50 тыс. воінаў з Чувашыі ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі СССР, 75 чалавекам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза, у тым ліку 5 за вызваленне Беларусі. Сотні чувашоў змагаліся ў партызанскіх атрадах на тэрыторыі Беларусі. У Чувашыі размяшчаліся эвакуіраваныя з заходніх раёнаў краіны прадпрыемствы, установы і больш за 70 тыс. чалавек. Працоўныя Чувашыі памагалі аднаўляць народную гаспадарку на вызваленай ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў тэрыторыі: пастаўлялі трактары, будаўнічыя матэрыялы, жывёлу, насенне і харчовыя прадукты.

Асноўныя галіны прамысловасці: машынабудаванне (электратэхнічныя вырабы, спецыяльныя аўтамабілі і аўтафургоны, электрапагрузчыкі і інш.), хімічныя (ядахімікаты фарбавальнікі, лакафарбавая прадукцыя і іншае), лёгкая, дрэваапрацоўчая, харчовая. Працуе Чэбаксарская ГЭС. Сельская гаспадарка спецыялізуецца на вы-

рошчванні збожжавых (жыта, пшаніца, ячмень, грэчка) і тэхнічных культур (каноплі, махорка, хмель), бульбу. Пашырана садоўніцтва. Вырошчваюць буйную рагатую жывёлу, свіней, авечак. Птушкагадоўля і пчалярства. Суднаходства на Волзе і Суры (да Алатыра). Вялікі порт - Чэбаксары. Чыгуначны і аўтамабільны транспарт. Нафтагазаправод з Заходняй Сібіры і Сярэдняга Паволжа ў Цэнтральныя і Паўночна-Заходнія раёны.

Сталіца рэспублікі - Чэбаксары, як горад вядомы з 1781 г., сталіца з 1925 г., порт на Волзе, чыгуначная станцыя, 420 тыс. жыхароў. Як населены пункт упамінаецца ў гістарычных дакументах у 1469 г., з 1555 г. крэпасць Маскоўскай дзяржавы. У канцы 17 і ў 18 ст. значны гандлёвы цэнтр у Паволжы. У сучасным горадзе дзейнічаюць агрэгатны, машынабудаўнічы, электраапаратны, кабельны, прамысловых трактароў і іншыя заводы, прадпрыемствы лёгкай (баваўняны камбінат), харчовай, дрэваапрацоўчай прамысловасці, вытворчасці будаўнічых матэрыялаў, Чабаксарская ГЭС. 3 ВНУ, у тым ліку універсітэт, 5 тэатраў. Музеі: мастацкая галерэя, краязнаўчы з філіяламі - В.І.Чапаева (нарадзіўся у вёсцы Будайка - цяпер у гарадской рысе) і літаратурны. Зберагліся: Троіцкі манастыр (16 ст.), Уведзенскі сабор з шатровай званніцай (17 ст., упрыгожаны фрэскамі), цэрквы Уздзвіжання і Успення (18 ст.), дамы Зялейшчыкава (17 ст.) з фігурнымі ліштвамі і Салаўцова (сярэдзіна 18 ст.). Помнікі: Чапаеву (1960), чувашскаму паэту К.Іванову (1952), чувашскаму асветніку І.Якаўлеву (1971) і іншыя, кампазіцыя "Піянер космасу Ю.А.Гагарын" (1976).

ЧУВАШЫ, чаваш (саманазва), народ у Расійскай Федэрацыі, карэннае насельніцтва Чувашскай Рэспублікі, жывуць таксама ў Татарстане, Башкортастане, у Самарскай і Ульянаўскай абласцях. Значныя групы чувашоў жывуць у Арэнбургскай, Кемераўскай, Свярдлоўскай, Цюменскай абласцях, Краснадарскім краі, Казахстане. Колькасць больш за 1,8 млн. чалавек, у т.л. у Чувашыі каля 0,9 млн. чалавек. Адносяцца ў асноўным да субуральскага варыянта уральскай пераходнай расы. Субэтнічныя групы - верхавыя (вір'ял, туры), якія жывуць на поўначы і паўночным захадзе Чувашыі, і нізавыя (анатры) - на поўдні. У цэнтральных і паўночна-усходніх раёнах вылучаецца група сярэдненізовых чувашоў (анат енчы). Размаўляюць на чувашскай мове, пашырана руская мова. Вернікі - праваслаўныя.

Этнічную аснову чувашоў склалі цюркамоўныя плямёны булгар і сувараў, якія прыйшлі ў апошняй чвэрці І-га тысячагоддзя н.э. з прыазоўскіх стэпаў у лесастэпавыя раёны Волга-Камскага міжрэчча, асімілявaўшы мясцовае фіна-угорскае насельніцтва. З назвай сувар або суваз (упамінаецца ў арабскай крыніцы 10 ст.), магчыма, з'яўляецца саманазвай чувашоў той пары. Значную ролю у кансалідацыі фіна-угорскіх і цюркскіх этнічных груп, у т.л. чувашоў, адыграла Волжска-Камская Булгарыя (пач. 10 - пач. 13 ст.ст.). У 13-16 ст.ст. у Залатой Ардзе, затым у Казанскім ханстве складалася чувашская народнасць. У 1551 г. чувашы былі ўключаны ў склад Рускай дзяржавы. У сярэдзіне 18 ст. прынялі праваслаўе. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі атрымалі аўтаномію (аўтаномная вобласць з 1920, АССР з 1925); сфарміравалася нацыя, завяршылася фарміраванне літаратурнай мовы (на грунце нізавога дыялекту).

Асноўны традыцыйны занятак - ворнае земляробства (жыта, ячмень, грэчка, гарох і інш.), былі развіты таксама хмеляводства, агародніцтва, пчалярства (бортніцтва). З развіццём таварна-грашовых адносін пашырыліся кустарныя промыслы, бандарны, сталярны, а таксама вяроўкава-канатны, вытворчасць палатна. Традыцыйнае прыкладное мастацтва: вышыванне, дэкаратыўнае тканнё, разьба па дрэве.

За гады пасля рэвалюцыі створана шматгаліновая прамысловасць. Сфарміраваўся рабочы клас і інтэлігенцыя. Сельская гаспадарка носіць комплексны земляробча-жывёлагадоўчы характар.

Асноўны тып пасяленняў - сёлы і вёскі (ял). Найбольш раннія тыпы рассялення - рачны і прылагчынны, а план пасялення - гнёздавы (у паўночных і цэнтральных раёнах) і лінейны (у паўднёвай частцы). Пераважае жыллё з традыцыйнай планіроўкай, якая пашырылася ў 2-й палавіне 19 ст. (жылы дом-сені-клець). Архаічная форма зрубнай пабудовы - лась (у мінулым без столі і вакон, з адкрытым ачагом) мадыфікавана і служыць летняй кухняй.

У аснове народнага касцюма - тунікападобная рубашка (кепе), у жанчын багата ўпрыгожаная вышыўкай, падвескамі, і порткі з шырокім крокам (йем). Верхняя вопратка - кафтанападобная (шупар), увосень - шуба з аўчыны (керэк). Галаўныя ўборы: жаночы - хушпу - шапачка ў выглядзе ўсечанага конуса з доўгай лопасцю ззаду, упрыгожанай манетамі, бісерам (пацеркамі); чалма з трохкутнага кавалка тканіны; дзявочы - тух'я напаўсферычнай ці шлемападобнай формы, расшытая бісерам ці манетамі; упрыгожанні: галаўныя, наспін-

ныя, нагрудныя, паясныя перавязі. Абутак - лапці, боты. На сяле поўны нацыянальны касцюм ці яго асобныя элементы носяць галоўным чынам жанчыны.

У традыцыйным харчаванні пераважаюць раслінныя прадукты. Пашыраны супы (яшка): бульбяны з акрасай, пахлёбка з клёцкамі; кашы; пірагі; хуплу - вялікі круглы пірог з мясам, кукаль - пірог з крупамі, капустай, ягадамі; малочныя стравы: турах - кіслае малако, уйран - пахтанне, чакат - тварожныя сыркі; мясныя стравы: шартан - каўбаса з бараных трыбухоў, начыненых мясам і салам, тултурмаш - вараная каўбаса з начынкай з крупаў, рубленага мяса. Улюбёнае пітво - піва з жытняга ці ячменнага соладу.

Абшчына як форма сацыяльнай арганізацыі сельскага насельніцтва захавалася да 30-х гадоў 20 ст. У 18 - пачатку 20 ст.ст. існавалі дзве асноўныя яе формы - простая, якая аб'ядноўвала жыхароў аднаго насялення, і складаная, якая ўключала сялян некалькіх пасяленняў. Існавалі нацыянальна-мяшаныя абшчыны, галоўным чынам чувашска-рускія, чувашска-руска-татарскія. Захаваліся пера-жытачныя формы дапамогі радні і суседзям (німе). Асноўнай гаспадарчай і сацыяльнай ячэйкай унутры абшчыны ў другой палавіне 19 ст. стала малая сям'я. Доля вялікіх сем'яў ужо ў 18 ст. была невялікая.

Абрадавыя традыцыі найбольш трывала зберагаліся ў сям'і. Да ліку найбольш пашыраных элементаў традыцый вясельнай абраднасці належаць: арганізацыя вясельнага поезда, выкуп варотаў (сімвалічная плата за ўезд у дом нявесты), вынас пасагу, адорванне родных маладога і маладой, хаджэнне маладых па ваду пасля шлюбнай ночы. У сельскай мясцовасці пахавальна-памінальная абраднасць спалучае элементы дахрысціянскіх, праваслаўных і сучасных грамадзянскіх абрадаў.

У фальклоры найбольш развіты песенны і казачны жанры, каляндарная паэзія. Папулярныя сказанні "Пра ўзяцце Казані", пра Сцяпана Разіна, Емяльяна Пугачова. Стараданія музычныя інструменты - пузыр (шапар), валынка (сартай), гуслі (кесле), дуда.

# КРЫМСКАТАТАРСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІК
# 1500 СЛОЎ І СЛОВАЗЛУЧЭННЯЎ АД ДЗЯДЗЬКІ
# ІСМАІЛА МЕМЕТАВА

| Крымскататарскае слова | Беларускае слова |
|---|---|
| | **А** |
| Баар | вясна |
| баба | бацька |
| бабачыгъма | татка, татачка |
| баглама | сувязь, прыпеў |
| багъышламакъ | прабачыць |
| багъышланъыз | прабачце |
| бадем | міндаль |
| баджанакъ | сваяк |
| базар | нядзеля, рынак |
| бай | пан, багацей |
| байларнынъ | панскі |
| байрам | свята |
| байтал | кабыла |
| бакъла | фасоля |
| бакъмакъ | глядзець, глянуць, паглядзець |
| бал | мёд |
| бала | дзіця |
| балабан | буйны, вялікі |
| балабанджа | большы, вялікаваты |
| балачыкъ | дзесятка |
| балдыз | кума |
| балкъурт | пчала |
| балкъуртчы | пчалавод, бортнік |
| балта | сякéра |
| балыкъ | рыба |
| бармакъ | з'яўляцца |
| барсын | няхай, хай |
| басма | друк, тканіна |
| батакъ | балота |
| батыр | герой |

| | |
|---|---|
| бахча | сад |
| бахшыш | прэмія, падарунак |
| бахыць | шчасце |
| баш | галава, камандзір, начальнік |
| башакъ | колас |
| башлангъыч | пачатковы |
| баш язысы | лёс |
| башкъа | другі, іншы |
| башламак | брацца, пачацца, пачынаць |
| башта | раней, спачатку, перш |
| башы | пачатак |
| башында | спачатку |
| бегенильмек | спадабацца |
| бегитмек | умацаванне |
| беден | цела |
| бей | пан |
| бейлернынъ | панскі |
| бек | пан |
| бекар | халасты |
| беклемек | чакаць |
| беларус | беларус |
| беларусча | беларускі |
| Беларусь | Беларусь |
| белли | ясны, значны, вядомы |
| белькн | можа быць |
| беля | бяда, гора |
| берабер | разам |
| бербер | парыкмахер |
| берекет | ураджай |
| бермек | даць, аддаць, даваць, падаць |
| беш | пяць |
| беш йыллыкъ | пяцігодка |
| бешынджы | пяты |
| бибер | перац |
| биз | мы |
| бизим | наш |

| | |
|---|---|
| бизимки | наш |
| биле | нават |
| бильмек | ведаць, знаць, пазнаць, умець, разумець |
| бина | будынак |
| бир | адзін, раз |
| бир вакътлерде | часам |
| бир вакътте | адначасова |
| бир кере | адзін раз |
| бир къач дане | некалькі |
| Бирлешмиш Миллетлер Тешкиляты, БМТ | Арганізацыя Аб'яднаных Нацый, ААН |
| бирлик | калектыў, саюз, супрацоўніцтва |
| бир парча | пакуль |
| бир такым | некаторы |
| бир шейлер | нешта |
| бир шейлер олды | нешта здарылася |
| бияз | белы |
| блинмеген | нехта |
| бо | гэты |
| богъдай | пшаніца |
| бой | рост |
| бойле | так, дык |
| бой борджы | адказнасць |
| бойныз | рог (каровы, казы) |
| болюк | брыгада, група, участак, цэх, аддзел, частка |
| болюк башы | брыгадзір |
| бор | мел, крэйда |
| бордж | абавязак, доўг |
| борджы | адказны |
| бурлыш | паварот |
| бурчлы | мусіць (дзеяслоў, пабочнае слова) |
| босакъа | парог |
| бостан | агарод |
| бош | пусты |
| боя | фарба |
| боялар | фарбы |

| | |
|---|---|
| бригада | брыгада |
| бригадир | брыгадзір |
| бринджи | першы |
| бу | гэта, гэтая |
| бугунь | сёння |
| буз | лёд |
| буйыл | сёлета |
| булунмакъ | знаходзіцца, быць |
| буллюр | крышталь |
| булут | хмара, воблака |
| булутлы | пахмурна |
| буржуа | буржуазны |
| бурун | нос |
| бурчак | град |
| бутунь | цэлы |
| бутунь дунья | сусветны |
| бутунь | зусім |
| бутюні | аб'ём |
| буюк | вялікі, старшы, буйны, галоўны |
| буюрынъыз | калі ласка |
| былтыр | мінулы год |
| бындан | адсюль |
| бычкъы | піла |

# ВЕРШЫ АНАТОЛЯ СТАНКЕВІЧА

Вялікі сябар нашага квартальніка Міхась Маліноўскі з Баранавіч даслаў нам нізку вершаў Анатоля Станкевіча, які жыве з ім у адным горадзе на вуліцы Зоі Касмадзям'янскай. Мы вельмі ўдзячны Міхасю за тое, што ён адкрыў для чытачоў "Байрама" паэта, які піша на тэму, што хвалюе кожнага верніка-мусульманіна, кожнага добрага чалавека. Жадаем паэту Анатолю Станкевічу плённай працы ў прыгожым пісьменстве. Няхай жа добрая аўра гэтага чалавека ахопіць усіх нашых чытачоў.

ж ж ж

Другія жывуць, а вось мне
не пражыць
Без раніцы роснай і возера
светлага,
Дзе сцежка праз поле ў дзяцінства
бяжыць,
Дзе ўсё да былінкі маё, -
запаветнае...
Тут бацька і маці ў зямельцы
ляжаць.
Тут сэрца лагодзяць мясціны
крынічныя,
Дзе смолкамі кліча дзяўчат
сенажаць,
Дзе месяц падковаю б'е
ў аканіцу...

ж ж ж

Калі я прачытаў аб'яву:
"Прадаецца сабака"...
Я здзівіўся,
Які прыгожы почырк
у гэтага чалавека.

Як ён, не спяшаючыся
выводзіў кожную
літару
здрады...

## САМОТНА РЫПЯЦЬ АРЭЛІ

Чакалі паўгода
дзяўчынку арэлі.
Блакітныя вочкі
у знямозе згарэлі...
"Жыццё" ... Нават лекі
купіць немагчыма:
На рынку ўколы
каштуюць мільёны...
У беднай, журботнай
галоднай жанчыны
Змарнела, памерла
дзяўчынка Алёна...
Матуля галосіць -
яе мы не чуем
А той вунь за лекі
харомы будуе...
Што робіцца з намі?
Забойцамі згінем!
Няўжо нас сумленне
навекі пакіне?..
Няўжо мы без Бога
зусім азвярэлі?
Самотна рыпяць
без дзяўчынкі арэлі...

## ВАЎЧЫЦА

Святкавалі вяскоўцы калядкі,
Бразгнуў клямкай свайго жытла,
Дзеўка Зося сваё немаўлятка
На загубу ў хвойнік нясла...

Ціха спала дзяўчынка Алеся.
Вось і дрэвы пад ветрам гудуць.
Палажыла на ўскрайку лесу:
Хай ваўкі дзіцянятка з'ядуць...

Моцна плакала ў лесе дзяўчынка:
(Збегла "маці" - каза-дзераза...)
Падпаўзла да яе ваўчыца,
Стала слёзныя шчокі лізаць...,

Раніцою ішоў паляўнічы.
Чысціў неба сярпом маладзік.
... і чаму не баіцца ваўчыца?..
Чаму болем у вочы глядзіць?..

І чаму яна не ўцякае?
Не шкадуе свайго жыцця?
Грымнуў стрэл. І кроў сцякала
На сагрэтае зверам дзіця...

## ФІЯЛКОЎСКАЯ АЛА ВІКЕНЦЬЕЎНА

"Нарадзілася на Стаўбцоўшчыне. Пасля заканчэння сярэдняй школы завочна вучылася на філалагічным факультэце МДПІ імя А.М.Горкага, адначасова працавала на Мінскім радыёзаводзе. Атрымаўшы дыплом, засталася працаваць на філфаку, зараз - рэдактар выдавецкага аддзела названай установы.

Полька, каталічка. Да усіх рэлігій стаўлюся з павагай. Бог для мяне - Дабрыня, Справядлівасць, Любоў. Гучнаму шматслоўю - не веру. Прызначэнне маё на гэтым свеце - дапамагаць: кожнаму, хто звяртаецца, завярае, спадзяецца".

Ала Фіялкоўская

## ВЕТЭРАНЫ

Зноў сціскае ў грудзях,
Бы на целе павязка тугая, -
Растрывожылі сэрца
Балючае памяці сны...
Квецень яркая мая
І цішыня такая,
Быццам людзі
Ніколі
Не зналі вайны.

Загаіла зямля
Запалёныя, цяжкія раны,
І бацькамі даўно
Сорак першага сталі сыны.
Не спяшаецца ранак -
Не спяць ветэраны,
Ветэраны апошняй -
Суровай вайны.

А наўкола вясна
Салютуе суквеццямі мая
І нябесная сінь
Ганаровую вахту нясе.
Перад вамі заўжды
Нізка-нізка галовы схіляем,
Ветэраны вайны,
Ветэраны - героі ўсе!

* * *

На Радзіме на маёй -
Сумна-посумна,
Ходзіць хмурая па ёй
Доля босая.

Ты скажы, у якой людзьбе
Быці мелася,
Ці пілося там табе,
А ці елася?

Я была, дзе люд жыве,
Людзе праведны,
У бядоце, у дальбе -
Не па правілах.

Ад світання да цямна
Захіваецца,
А наўкола - голь адна,
Моцна лаецца.

Прывітаў мяне, аднак,
Ветла, папрасту,
Частаваў мяне бядак
Ды чым Бог паслаў.

А як зоры-ліхтары
Ноч развесіла -
Грайна стала на двары,
Стала весела.

Дудка, дудачка пяе,
Заліваецца,
Тупат-потуп пад' яе -
Дах гайдаецца.

Звон вясёлы у вушах -
Воля вольная,
Пацяшаецца душа
Неспатольная!..

МАЛІТВА

Уратуй мяне, Божа,
Ад ліхога і злога,
Ад няпраўды варожай,
Ад насмешкі благога.

Наталі маю восень
Міласэрнасцю дайнай,
Атулі яе позняй -
Не апошняю - тайнай.

Дай мне, Божа, збавення
Ад уяўнае ношы,
Ад уцех летуценных
І ад прывідаў гожых.

Абагрэй маё сэрца
У няшчасці і горы,
Дай мне сіл не памерці
У ціхмянай пакоры.

Стану дужай і смелай
У бязвер'і трывожным
Тваёй праўдаю светлай,
Міласэрны мой Божа.

К.А.Рогава

## ЛЯ РАКІ, ШТО НАЗВАЛІ УЗДЗЯНКАЙ

Гайдае вецер, цярушыць
Дрэў магутных лісцё,
Памяць вякоў варушыць
Усё, што сплыло ў нябыццё.
Нібы сведкі сівой даўніны
Легенды па свеце блукаюць.
Здані продкаў, нібыта сны,
Усплываюць, ізноў ажываюць...
Змрок халоднай ночы.
Цокаюць коней капыты.
Кайдана-ворага вочы
Жвірам рачным закрыты.
Тут ён магілу знайшоў,
Ля рэчкі,
якую назвалі Уздзянкай,
Век ужо шосты пайшоў,
Ды татарка
не стала славянкай.
Больш яна не кляне
Далёкіх продкаў сваіх,
Толькі ноччу ў сне
Коней лашчыць ліхіх.
Да ўсходу бяжыць
Сцежкай вузкай пад горку
На мізары служыць
Малітву святую на золку.
І, заплюшчыўшы вочы,
Зноўку сябе ўбачыць,
Нібы птушкай уночы
На кані яна скача.
Хоча бег супыніць,
Тут яе рапавод...

Удалеч малітва ляціць,
Сплывае з хвалямі вод.

З кнігі: Уздзеншчына літаратурная, творы уздзенскіх аўтараў пра родны край. З нагоды 500-годдзя заснавання г.п.Узда: Узда, 1994.

Сяргей Грахоўскі

МАЛЮ НЯЎМОЛЬНЫХ

"Сваё - на звод! Мілей усё чужое,
З ім лёгка да апошніх дзён дажыць,
З празрыстай развітаўшыся мяжою,
Бязмежжу выгадней за ўсё служыць".

Там танкі перамолваюць нямоглых,
Удоў цяжарных, голых немаўлят.
Іх не ўратуюць енкі, плач і модлы,
Калі страляюць дзень і ноч з гармат.

Учарашнія хлапчукі з Калугі,
З Разані, Краснаярска, з Бугульмы
Тужэй зацягваюць папругі
У сцюжы браніраванай турмы.

Няўмольныя і лютыя служакі,
Чужога не шкадуючы жыцця,
Глядзяць, як рвуць галодныя сабакі
Адзінае у мацеры дзіця.

Падлетачкі ў крывавых камуфляжах
На неабвешчанай забітыя вайне,
У месіве з крыві, гразі і сажы,
Дамоў не трапяць нават і ў труне.

Служакі аддаюць усё дазвання -
Народ, гісторыю, і мову, і душу,
Няўжо ім не прысніцца пакаранне,
Якога ў Бога грэшнікам прашу?

А Бог з вышыняў пазірае грозна
На папялішчы і крывавы брод.
Апамятайцеся, пакуль яшчэ не позна,
І пашкадуйце збэшчаны народ.

3/П-95

Свой завяршаю круг зямны
У век бязлітасны і люты,
Ратуючыся ад маны
І непазбежнае пакуты.

13/П-95

„ЛіМ", 17.03.1995 г.

Штомесячны культуралагічны часопіс "Крыніца" нумар II за 1994 г. (падпісаны да друку 3.I.1995) сярод вельмі цікавых матэрыялаў надрукаваў нататкy Уладзіміра Арлова пра Янку Станкевіча. Татарам былой Заходняй Беларусі, Польшчы і Летувы імя Янкі Станкевіча было вядома да Другой сусветнай вайны як славутага даследчыка татарскіх Аль-Кітабаў. У гэтым нумары на дзесяці старонках змешчаны артыкул Яна Станкевіча "Беларусія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом". Цікаўныя чытачы, асабліва татары, прачытаюць гэты матэрыял з вялікім задавальненнем. Татаркі рахмат галоўнаму рэдактару часопіса Уладзіміру Някляеву і яго супрацоўнікам.

Нашы сябры з Масквы даслалі нам кнігу, якая выйшла ў выдавецтве Маскоўскага універсітэта ў 1994 г. Назва кнігі - "Михалон Литвин. О нравах татар, литовцев и москвитян". Упершыню кніга была надрукавана на лацінскай мове у 1615 г. Каб сучасны чытач мог зразумець тое, аб чым гаворыць аўтар, група з пяці вучоных - С.В.Думин, Ю.А.Мыцык, И.П.Старостина, М.А.Усманов, А.Л.Хорошкевич -- склала вельмі грунтоўны і цікавы каментарый. Тыраж кнігі 10 тыс. паасобнікаў. Спяшайцеся ў Маскву, каб прыдбаць гэту кнігу.

Рэдакцыя часопіса "Идел", які друкуецца ў Казані на татарскай, а для рускамоўнага чытача - на рускай мове, зрабіла нам падарунак. Ведаючы пра наш бядотны стан, даслалі нам па некалькі паасобнікаў свайго вельмі цікавага выдання. Зрэдку, каб заінтрыгаваць беларускіх татар, асобныя нумары яны прысылаюць на татарскай мове. Вядома, мы звяртаемся да сваіх татарскіх супляменнікаў, каб яны пераклалі хоць бы назвы загалоўкаў матэрыялаў і асобныя артыкулы. Толькі не надта спяшаюцца яны зрабіць пераклад. А можа гэта будзе аўтарызаваны пераклад, калі звінець ён і будзе лепш, чым арыгінал? Дзякуй нашым сябрам з Татарстана за пастаянны клопат пра нас. Мы памятаем пра вас, паволжскія татары, 600 гадоў і яшчэ 600 гадоў памятаць будзем.

Выстава мастакоў тэатра, кіно і тэлебачання, якая адбылася ў Палацы мастацтваў, прыцягнула ўвагу шматлікіх гледачоў і карэспандэнтаў сродкаў масавай інфармацыі. Нават на мала дасведчанага чалавека аказалі вялікае ўражанне працы мастакоў кіно Я.Ігнацьева і У.Чарнышова, майстроў найбольш папулярнага сярод тэлегледачоў Б.Рэпіна і А.Шчаслівай. Татараў, якія наведалі выставу, прыцягвалі экспанаты мастакоў тэатра Я.Ждана, Дз.Мохава і З.Марголіна. У працах мастакоў сцэнічных касцюмаў Ю.Піскуна і А.Александровіч можна было ўбачыць некаторыя матывы татарскага касцюма, які быў беларусамі запазычаны ад крымскіх татар у перыяд існавання Вялікага Княжства Літоўскага і Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Для тых, хто наведаў выставу, нагадваем, што на выставе былі прадстаўлены эскізы і касцюмы для дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь, выкананыя майстэрняй фірмы "Інсам". У думках наведвальнікі выставы прымервалі на сябе касцюмы да пастановкі "Гродзенскі мазурак", "Купалле", "Паланез Т.Касцюшкі", "Полька-янка", а татарам вельмі даспадобы прыйшлася "Кайтарма".

На пачатку года выйшла кніга "Беларусістыка". Беларусь: гістарычны лёс народа і культуры". Гэта тэматычны зборнік, у якім змешчаны матэрыялы навуковай сесіі, што адбылася 16-17 лістапада 1994 г. у Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Сярод больш чым 70 дакладаў ёсць артыкулы нашых навукоўцаў-татар - Шаміля Бекцінеева "Обращение рубля на территории Беларуси до Люблинской унии 1569 года" і Ібрагіма Канапацкага "Гістарычны лёс татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы".

"Литва татарлары". Трэці нумар газеты, 700 паасобнікаў якой друкуецца на літоўскай мове і 700 паасобнікаў на рускай мове, мае назву "ЛЕТУВОС ТОТОРЯЙ", гэта значыць "Літоўскія татары". Для тых, хто пажадае падпісацца на гэту газету абшчыны літоўскіх татараў, каб пісаць для гэтай газеты, мы падаём на рускай мове звесткі, што надрукаваны на 4-й старонцы:

Вивульске 3, 2000 Вильнюс, тел. 65-20-51

Учредители и издатели:
Ромуальдас Макавяцкас,
Галим Ситдыков
Редакционная коллегия: Менсаид Байрашевский, Мотеюс Абунявичус, Фарида Дзенавичене
Главный редактор: Галим Ситдыков
Редактор литовского издания: Риманте Юргене; редактор русского издания Анна Крикшюнене; ответственный секретарь Ванда Керене.
Адрес редакции: ул. Вильняус, 58, 4090 Шальчининкай,
тел. (8-250) 51-031, 51-774, 51-137.

Каб чытачы пазнаёміліся хоць крышачку з гэтым цікавым выданнем, мы друкуем загалоўкі і прозвішчы аўтараў публікацый (якія пазначаны) з рускамоўнага выдання (№ 3, 31 сакавіка 1995 г.).

Рождение пророка. Мы – "Маленькая часть вечного Турана". Первый блин не комом (Марите Круглене). "Ляйсен" приглашает всех! (Й.Асанавичюте). В Вильнюсском культурном центре литовских татар (ВКЦ). Наше духовное богатство. I. Хозяйство и ремёсла. 2. Селения и жилища. Смысл веры (Рустем Курмач, имам). Коран. Об этических нормах мусульман. Что скрывают в себе письмена минарета (Генрикас Гринявичюс). Столпы ислама. Столпы веры. (Изложено по хадису, пересказанному Муслимом). Литовский Акционерный Инновационный Банк. Технология выращивания амаранта. Знакомства. Из кухни казанских татар. (Подготовила Альмира Хабибулина).